# Літаратурнае прадмесце

*Зборнік да 10-годдзя суполкі «Літаратурнае прадмесце»*

Мінск
«Кнігазбор»
2012

УДК 821.161.3(082)
ББК 84(4Беи)
Л64

Складальнікі
Людміла Рублеўская, Віктар Шніп

**Літаратурнае прадмесце** : зборнік да 10-годдзя суполкі «Літаратурнае прадмесце» / склад. Л. Рублеўская, В. Шніп. — Мінск : Кнігазбор, 2012. — 196 с.
Л64
ISBN 978-985-7057-09-2.

Зборнік выдадзены да дзесяцігоддзя вядомай суполкі «Літаратурнае прадмесце». Творы, якія ўвайшлі ў яго, адносяцца да розных жанраў і стыляў: чытач знойдзе і авангардысцкія вершы, і класічныя санеты, аповеды з жыцця сучаснай моладзі і філасофскія прыпавесці, сустрэнецца з пачынаючымі творцамі і з тымі, чые імёны добра знаёмыя аматарам беларускай літаратуры.

**УДК 821.161.3(082)**
**ББК 84(4Беи)**

**ISBN 978-985-7057-09-2**

# На самым пачатку...

Дзесяць гадоў назад я працаваў галоўным рэдактарам штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва». На той час дырэктарам холдынга «ЛіМ» была Таіса Бондар, якая хацела, каб да нас у рэдакцыі прыходзіла як мага болей моладзі са сваімі творамі. І я прапанаваў Таісе Мікалаеўне стварыць літаб'яднанне пры штотыднёвіку. Мая ідэя была падтрымана, і ў газеце за 29 лістапада 2002 года з'явілася абвестка: «Запрашаем! 5 снежня ў рэдакцыі газеты «Літаратура і мастацтва» (вул. Захарава, 19) пройдзе арганізацыйнае пасяджэнне літаб'яднання. Запрашаюцца маладыя паэты, празаікі, крытыкі. Пачатак у 17 гадзін. Тэлефон для даведак: 284-44-04». На першае пасяджэнне прыйшлі Аксана Спрынчан і Наталля Дзянісава. На другі раз ужо было тры чалавекі, а праз некалькі месяцаў у самым большым пакоі «ЛіМа» ўсе не змясціліся (чалавек трыццаць), хто прыйшоў на пасяджэнне «Літаратурнага квартала». Так суполка называлася да таго часу, пакуль Людміла Рублеўская працавала ў «ЛіМе»...

У «Літаратурнага прадмесця» ёсць традыцыя — перапіс усіх, хто прыйшоў на пасяджэнне суполкі. Першы запіс у тоўстым нататніку з'явіўся 17 снежня 2002 года. На пасяджэнні «Літаратурнага квартала» былі: Кацярына Чарнушэвіч, Наталля Дзянісава, Вольга Лемяшэўская, Святлана Кананові і Аксана Спрынчан. Было вырашана збірацца па чацвяргах у 18 гадзін.

16 студзеня 2003 года ў пасяджэнні «Літаратурнага квартала» ўдзельнічалі: Аксана Спрынчан, Таццяна Барысюк, Іна Собаль, Серж Мінскевіч, Міхась Казлоўскі, Алена Багамолава, Наталля Дзянісава і Алег Алекса. У нататніку з'явіліся першыя запісы выказванняў сяброў суполкі: «Сляза, як каса, разрэзала твар, і цёпла стала...», «Кватэра, у якой можна жыць, — кватэра, у якой жыве паэзія...»

23 студзеня 2003 года. На пасяджэнне «Літаратурнага квартала» прыйшлі: Вікторыя Сотнікава, Віка Трэнас, Святлана Кананові, Ігар Клепікаў, Павел Каспяровіч, Валеры Русельнік, Аляксей Яскевіч, Сяргей Патаранскі, Васіль Вострык, Аксана Спрынчан, Наталля Кучмель і Усевалад Гарачка. Мастак Алег Карповіч зрабіў для «Літаратурнага квартала» эмблему, пад якой у «ЛіМе» друкаваліся творы сяброў суполкі. Усе пасяджэнні вёў я з Людмілай Рублеўскай.

30 студзеня 2003 года. Гэтым разам у працы «Літаратурнага квартала» ўдзельнічалі: Наталля Дзянісава, Алена Багамолава, Святлана Кананові, Віка Трэнас, Таццяна Барысюк, Наталка Кучмель, Сяргей Патаранскі, Па-

вел Астравух, Сяргей Гуркоў, Аксана Спрынчан і Віктар Іваноў. У «ЛіМе» друкаваліся не толькі абвесткі пра наступнае пасяджэнне суполкі, а і справаздачы...

6 лютага 2003 года. На пасяджэнне суполкі прыйшлі: Ягор Конеў, Аксана Спрынчан, Вітаўт Чаропка, Сяргей Патаранскі, Вікторыя Барткевіч, Віктар Іваноў, Сяржук Мінскевіч, Наталка Кучмель, Усевалад Гарачка, Янка Лайкоў, Віка Трэнас, Ігар Клепікаў, Наталля Капа...

13 лютага 2003 года. На пасяджэнні «Літаратурнага квартала» было 26 чалавек: Усевалад Гарачка, Вікторыя Барткевіч, Алег Алекса, Анастасія Вайцяшонак, Кацярына Сідарук, Мая Есьман, Валянціна Гарністава, Аксана Бязлепкіна, Station Станіслаў Зажыцкі, Святлана Канановіч, Наталля Дзянісава, Ягор Конеў, Віка Трэнас, Серж Мінскевіч, Серж Гуркоў, Ілья Мажар, Янка Лайкоў, Наталля Капа, Сяргей Патаранскі, Вольга Логінава, Алесь Туровіч, Аксана Спрынчан, Ігар Клепікаў, Таццяна Будовіч, Наталля Кучмель, Віктар Іваноў. Пра што гаварылася на пасяджэннях, можна было прачытаць у «ЛіМе». Тое, што нельга было выносіць на старонкі штотыднёвіка, запісана ў мяне ў дзённіку...

20 лютага 2003 года. У пасяджэнні ўдзельнічалі: Т. Будовіч. А. Кавалеўскі, А. Алекса, В. Барткевіч, І. Тоўсцік, А. Камінская, У. Гарачка, Н. Кучмель, Н. Капа, М. Касцюкевіч, Н. Вусава.

6 сакавіка 2003 года. Сяргей Патаранскі, Віктар Іваноў, Мікола Касцюкевіч, Алена Ігнацюк, Валянціна Гарністава, Віка Трэнас, Наталля Дзянісава, Алена Багамолава, Таццяна Барысюк, Усевалад Гарачка, Таццяна Будовіч, Аксана Спрынчан, Святлана Канановіч, Наталля Кучмель, Алесь Мяснікоў.

27 сакавіка 2003 года. Кацярына Тычына, Усевалад Гарачка, Наталля Дзянісава, Віка Трэнас, Ігар Клепікаў, Мікола Кандратаў, Кірыл (?)рэкалевіч, Андрэй Ждановіч, Наталля Капа, Аксана Спрынчан, Таццяна Будовіч, Сяргей Патаранскі.

10 красавіка 2003 года. Віка Трэнас, Таццяна Барысюк, Усевалад Гарачка, Ігар Клепікаў, Аксана Спрынчан, Наталля Капа, Сяргей Патаранскі, Рагнед Малахоўскі, Яўген Рамяніца, Мікола Кандратаў, Юля Пыск, Андрэй Камоска, Таццяна Арцішэўская, Ірына Кузьменка, Дар'я Лосева, Таццяна Будовіч, Валянціна Гарністава, Павел Астравух. Абмяркоўвалі новыя вершы Усевалада Гарачкі. Выступалі як дакладчыкі Віка Трэнас, Таццяна Барысюк і Сяргей Патаранскі. «Вершы, як пацалункі...», «Вершы, як нечаканыя пацалункі. Цябе пацалавалі, а ты думай», «Вершы, як стрэлы ў начы. Пачуў, дык думай, задумайся...»

17 красавіка 2003 года. Былі Сяргей Патаранскі, Аксана Спрынчан, Дар'я Лосева, Мікола Кандратаў, Яўген Рамяніца, Рагнед Малахоўскі, Наста Кудасава, Валянціна Гарністава, Аксана Бязлепкіна, Віка Трэнас, Святлана Кананові, Ігар Клепікаў, Ганна Галавіна, Віктар Іваноў, Павел Астравух, Таццяна Будовіч, Наталля Капа. Назаўтра пасля пасяджэння суполкі дырэктар холдынга «ЛіМ» Таіса Бондар перадала мне, як галоўнаму рэдактару «ЛіМа», незадавальненне некаторых пісьменнікаў тым, што амаль у кожным нумары штотыднёвіка друкуюцца творы сяброў «Літаратурнага квартала» і кароткія справаздачы пра нашы пасяджэнні...

24 красавіка 2003 года. Ігар Клепікаў, Мікола Касцюкевіч, Таццяна Будовіч, Сяргей Патаранскі, Наталля Дзянісава, Алег Алекса, Рагнед Малахоўскі, Мікола Кандратаў, Цімох Струнавец, Вольга Кардаш, Юрась Нераток, Тамара Казачэнка, Насця Анохіна, Наталля Кучмель, Наталля Капа, Сяргей Мінскевіч, Віка Трэнас, Павел Астравух, Алена Астравух.

8 мая 2003 года. Ягор Конеў, Аксана Спрынчан, Таццяна Будовіч, Таццяна Барысюк, Кацярына Тычына, Віка Трэнас, Эдуард Дубянецкі, Мікола Кандратаў, Мікола Касцюкевіч, Мар'я Усава, Аксана Бязлепкіна, Рагнед Малахоўскі, Віктар Іваноў, Сяргей Патаранскі, Наталля Дзянісава, Святлана Кананові, Алена Багамолава, Усевалад Гарачка, Наталля Кучмель. «Каб сны крывавыя не сніць, Табе пара ўжо меней піць» (Таццяна Будовіч), «Дзе быў ЗАГС, цяпер крэматорый» (?), «Фантомнае каханне», «Наша каханне, як неба маўчанне...», «Плача на Марсе бязлюдным юны паэт...», «Нападалі на Фрэйда, баранілі Шапэна ад згвалтавання», «Жывая радасць успамінам не перашкодзіць...», «Пад крыжом канае безнадзейнасць...».

15 мая 2003 года. Андрэй Ключнікаў, Таццяна Будовіч, Ігар Клепікаў, Аксана Спрынчан, Таццяна Барысюк, Сяргей Патаранскі, Наталля Кучмель, Яўген Рамяніца, Рагнед Малахоўскі, Мікола Кандратаў, Наста Кудасава, Віка Трэнас, Аксана Бязлепкіна, Наталля Капа, Сяржук Мінскевіч, Ірына Бурдзейка. Разбіралі Аксану Бязлепкіну. «Поўня — абяскроўленае сонца», «Уласны воўк Людмілы Рублеўскай...»

21 мая 2003 года. Святлана Кананові, Усевалад Гарачка, Таццяна Барысюк, Наталля Капа, Наталля Кучмель, Аксана Спрынчан, Яўген Рамяніца, Рагнед Малахоўскі, Ігар Клепікаў, Зміцер Арцюх, Яўген Мальва, Аксана Бязлепкіна.

7 жніўня 2003 года. Андрэй Ключнікаў, Усевалад Гарачка, Аксана Спрынчан, Наталля Кучмель, Таццяна Валаснік, Віктар Іваноў, Аляксандр Завадскі, Мікола Кандратаў, Зміцер Арцюх, Сяргей Патаранскі, Ігар Сіроткін, Ягор Конеў, Таццяна Барысюк, Павел Астравух, Таццяна Будовіч. Таіса

Бондар незадаволеная нашай творчай актыўнасцю, і ў «ЛіМе» ўсё меней і меней друкуюцца сябры суполкі «Літаратурны квартал», а ў мяне хутка заканчваецца кантракт...

14 жніўня 2003 года. Наталля Дзянісава, Аксана Спрынчан, Паліна Грынчанка, Усевалад Гарачка, Маргарыта Прохар, Мікола Кандратаў, Наталля Капа, Марыя Шамякіна, Таццяна Барысюк, Рагнед Малахоўскі, Таццяна Вабішчэвіч, Дар'я Лосева, Віка Трэнас, Ігар Сіроткін, Таццяна Будовіч, Сяргей Патаранскі, Андрэй Ключнікаў, Павел Астравух, Наталля Кучмель. «Ты мацней кажы, а мы будзем цішэй маўчаць», «Яны адзін аднаго атручваюць», «Гэта Кай і Герда» — пра Аксану Спрынчан і Усевалада Гарачку і іх вершы ў «ЛіМе» за 1 жніўня.

21 жніўня 2003 года. Аксана Спрынчан, Зміцер Арцюх, Мікола Кандратаў, Дар'я Лосева, Таццяна Вабішчэвіч, Віка Трэнас, Алесь Каляда, Марыя Шамякіна, Віктар Іваноў, Ігар Клепікаў, Андрэй Ключнікаў, Наталля Кучмель, Сяргей Патаранскі, Таццяна Будовіч. «Роза (ружа) — гэта не ружа, а карова», «Каб быць шызафрэнікам, можна і не пісаць вершаў» (Н. К.), «Не сапсуюць паветра ночы» (А. К.). Адчуваю: нягледзячы на тое што ў нашых пасяджэннях не было, няма і не будзе ніколі ніякай палітыкі, хутка нашы пасяджэнні Таіса Бондар забароніць...

28 жніўня 2003 года. Аксана Спрынчан, Мікола Кандратаў, Таццяна Барысюк, Рагнед Малахоўскі, Іна Каляда (14 гадоў), Мікола Адам, Таццяна Вабішчэвіч, Віка Трэнас, Даша Лосева, Янка Лайкоў, Яраслаў Бязлепкін, Аксана Бязлепкіна, Ігар Сіроткін, Сяргей Патаранскі, Андрэй Ключнікаў. Абмяркоўвалі новыя вершы Ігара Сіроткіна.

4 верасня 2003 года. Ігар Клепікаў, Рагнед Малахоўскі, Зміцер Арцюх, Андрэй Ключнікаў, Таццяна Шамякіна, Іна Каляда, Мікола Кандратаў, Наталля Кучмель, Ганна Серэхан, Віка Трэнас, Сяргей Дубовік, Ігар Сіроткін, Аксана Бязлепкіна, Сяргей Патаранскі, Марыя Шамякіна, Наталля Капа, Дар'я Лосева, Валянціна Гарністава. «Без правак — без плавак...», «Згвалтаваныя дні...», «Чорны верлібр...»...

25 верасня 2003 года. Рагнед Малахоўскі, Валянціна Гарністава, Даша Лосева, Люда Слівіцкая, Іна Каляда, Ганна Серэхан, Кацярына Наркевіч, Зміцер Арцюх, Ілья Беленькі, Андрэй Ключнікаў, Ягор Конеў, Аксана Спрынчан, Ігар Клепікаў, Таццяна Вабішчэвіч, Таццяна Барысюк, Сяргей Патаранскі, Наталля Капа, Марыя Шамякіна, Віка Трэнас. Абмяркоўвалі творы Дар'і Лосевай, Валянціны Гарніставай і Іны Каляды.

9 кастрычніка 2003 года. Ігар Клепікаў, Андрэй Ключнікаў, Таццяна Барысюк, Аксана Спрынчан, Зміцер Арцюх, Наталля Капа, Віктар Іваноў,

Наталля Кучмель, Сяргей Здаранкоў, Міхась Казлоўскі, Алесь Каляда, Віка Трэнас, Янка Лайкоў, Наталля Бурдзейка, Юлія Новік, Рагнед Малахоўскі, Валянціна Гарністава, Марыя Шамякіна, Яўген Рамяніца. Абмяркоўвалі творы Рагнеда Малахоўскага. «Гісторыя скамечана, як час...»

16 кастрычніка 2003 года. На сустрэчу з сябрамі суполкі «Літаратурны квартал» прыходзіў Вячаслаў Рагойша. Яго слухалі і задавалі пытанні: Андрэй Ключнікаў, Віктар Іваноў, Аксана Спрынчан, Віка Трэнас, Наталля Капа, Юля Новік, Мікола Кандратаў, Марыя Шамякіна, Ганна Бесан, Зміцер Арцюх, Аксана Бязлепкіна, Валянціна Гарністава, Таццяна Барысюк, Ігар Клепікаў, Таццяна Будовіч, Сяргей Патаранскі. «Санет — пашпарт інтэлігентнай літаратуры» — В. Рагойша.

23 кастрычніка 2003 года. Віка Трэнас, Сяргей Патаранскі, Андрэй Ключнікаў, Ігар Клепікаў, Аксана Спрынчан, Усевалад Гарачка, Віктар Іваноў, Ірына Бурдзейка, Таццяна Барысюк, Наталля Кучмель, Сяргей Здаранкоў, Дзяніс Летуноўскі, Ганна Бесан, Юля Новік, Юрась Нераток, Таццяна Вабішчэвіч, Аксана Бязлепкіна, Ягор Конеў, Наталля Капа, Рагнед Малахоўскі, Таццяна Будовіч. Разглядалі творчасць Ігара Клепікава. «Я вас любіл, цяпер балею...»

30 кастрычніка 2003 года. Сяргей Патаранскі, Рагнед Малахоўскі, Андрэй Ключнікаў, Ігар Клепікаў, Таццяна Будовіч, Ягор Конеў, Зміцер Арцюх, Наталля Кучмель, Ганння Серэхан, Юля Новік, Мікола Кандратаў, Таццяна Вабішчэвіч, Віка Трэнас, Наталля Хлапянюк (школа № 7), Аксана Спрынчан, Віктар Іваноў, Усевалад Гарачка, Наста Кудасава, Наталля Капа, Маша Шамякіна. «Паліцыя, як гліна ў печы...», «Зялёнае сонца», «Мы снег прыкладаем да раны, і раны загойвае снег...»

6 лістапада 2003 года. Рагнед Малахоўскі, Аксана Спрынчан, Віктар Іваноў, Зміцер Арцюх, Наталля Кучмель, Наталля Капа, Ганна Новік, Віка Трэнас, Мікола Кандратаў, Арцём Кавалеўскі, Сяргей Мінскевіч, Таццяна Будовіч. Разглядалі творы В. Іванова. «Там, дзе холад, там няма кахання»...

13 лістапада 2003 года. Усевалад Гарачка, Зміцер Арцюх, Таццяна Барысюк, Анатоль Трафімчык, Ігар Клепікаў, Віктар Іваноў, Андрэй Ключнікаў, Марыя Шамякіна, Аксана Бязлепкіна, Мікола Кандратаў, Віка Трэнас, Таццяна Вабішчэвіч, Юля Новік, Даша Лосева, Аксана Спрынчан, Наталля Кучмель, Сяргей Вераціла, Ягор Конеў, Валянціна Гарністава, Сяргей Патаранскі, Наталля Капа, Рагнед Малахоўскі, Марыя Шамякіна. Перапіс праводзіла Людміла Рублеўская. Я ўжо не быў галоўным рэдактарам «ЛіМа», і Людміла працавала апошнія дні ў штотыднёвіку...

27 лістапада 2003 года. На сустрэчу з сябрамі суполкі прыходзіў Леанід Дайнека. Слухалі пісьменніка і задавалі яму пытанні: Наталля Дзянісава, Ігар Клепікаў, Віктар Іваноў, Усевалад Гарачка, Наталля Капа, Вольга Трацяк, Алёна Дзьячэнка, Алег Алекса, Мікола Кандратаў, Зміцер Арцюх, Рагнед Малахоўскі, Аксана Спрынчан, Таццяна Барысюк, Юля Новік, Аксана Бязлепкіна, Наталля Кучмель, Галіна Грышанава, Таццяна Будовіч. Гэта было апошняе пасяджэнне суполкі «Літаратурны квартал» у будынку холдынга «ЛіМ». Наступнае пасяджэнне праходзіла 7 снежня 2003 года ў бібліятэцы імя Янкі Купалы. А ў холдынгу па загадзе Таісы Бондар пачалі збіраць сяброў «Літаратурнага квартала», каб яны не хадзілі на пасяджэнні да Людмілы Рублеўскай. Больш за два месяцы далейшы лёс суполкі быў няпэўны, але ж суполка, якую мы з Людмілай стварылі, не развалілася, а, узяўшы новую назву «Літаратурнае прадмесце», працягнула працу пад кіраўніцтвам Людмілы, і 3 сакавіка 2004 года ў нататніку з'явіўся запіс: «На пасяджэнне прыйшлі: Ірына Завадская, Аксана Спрынчан, Алесь Спіцын, Андрэй Ключнікаў, Сяргей Гур'еў, Ірына Бурдзейка, Таня Пратасевіч, Наталля Казапалянская, Зміцер Арцюх, Наталля Кучмель, Таня Будовіч, Таня Барысюк, Юля Новік, Віктар Іваноў, Аксана Бязлепкіна». А ў холдынгу «ЛіМ» літаб'яднанне «Літаратурны квартал» перастала збірацца...

*Віктар ШНІП*

## Пад парасонам, які завуць «Рагнеда»

Для чаго патрэбныя літаратурныя аб'яднанні? На пасяджэннях суполкі «Літаратурнае прадмесце» мы час ад часу вяртаемся да гэтай тэмы. І ў чарговы раз няма адзінай думкі, акрамя кропкі сутыкнення: мы хочам сустракацца і надалей.

Суполка блукала па розных «пляцоўках». Нашы гарачыя дыскусіі і абмеркаванні творчасці сяброў адбываліся і ў кабінетах газеты «Літаратура і мастацтва», і ў музеі Максіма Багдановіча, і ў залах Купалаўскай бібліятэкі, і ў канферэнц-зале газеты «Беларусь сёння», і — цяпер гэта пастаяннае месца — пры Дзяржаўным літаратурным музеі імя Янкі Купалы. Зразумела, былі незабыўныя пасяджэнні і на нашай з Віктарам Шніпам кватэры, і на Лысай гары, дзе лецішча Аксаны Спрынчан, у архіве-музеі літаратуры і мастацтва і на Дзявочай гары, на кватэры паэта Міхася Южыка і ў майстэрні народнага скульптара Беларусі Івана Міско...

Час ішоў, і суполка з «Літаратурнага кварталу» зрабілася «Літаратурным прадмесцем», нехта са сталых сяброў знікаў, далучаўся нехта новы... Але сутнасць засталася нязменнай. Сур'ёзная літаратурная вучоба, стварэнне асяродку, дзе пачынаючы творца зможа ўсвядоміць сябе патрэбным нацыянальнай культуры, убачыць сапраўдныя арыенціры творчасці, і ўрэшце — калі пашанцуе выжыць у зусім не кампліментарным свеце — стаць на няўдзячны, складаны, пачэсны шлях беларускага літаратара.

Мяне часта пытаюцца: чаму і як вучацца маладыя, што прыходзяць на штотыднёвыя пасяджэнні? І ў каторы раз я тлумачу, што навучыць быць паэтам або пісьменнікам немагчыма. У мастацтве не памнажаюцца кланаваннем. Творчая вучоба — гэта цяжкі, балючы працэс, падобны да таго, што адбываецца з марскімі каменьчыкамі ў хвалях, — стукаюцца, шліфуюцца, сёй-той і расколецца, — але кожны ўрэшце выяўляе свой прыродны бляск. Яшчэ адно, што дэкларавалі мы з Віктарам Шніпам, калі разам пачыналі праводзіць пасяджэнні, — маладыя будуць вучыцца крытыкаваць і ўспрымаць крытыку. Гэта традыцыйна самае цяжкае, не толькі для сяброў суполкі, але для нашага літаратарскага брата і сястры ўвогуле. Не скажу, што заўсёды атрымліваецца, — але асабліва ўдалыя абмеркаванні, няхай з прымешкам аўтарскіх слёз, успамінаюцца доўга, а іхнімі «героямі» — дык, можа, і ўсё жыццё. Пасяджэнні кожны раз праходзяць па-рознаму, на іх часта здараецца нешта нечаканае. Напрыклад, у той вечар, калі ў Маскве адбывалася прэм'ера скандальнай оперы «Дзеці Разэнталя» па лібрэта

Уладзіміра Сарокіна, на суполцы была зладжаная чытка сарокінскага лібрэта. Аднойчы Леанід Дранько-Майсюк для суполкі зладзіў аўтарскае чытанне свайго рамана. Прафесар Вячаслаў Рагойша, аўтар знакамітых паэтычных слоўнікаў, таксама выявіўся з нечаканага боку — прачытаў уласныя вершы. Пятро Васючэнка і Віталь Скалабан учынілі дыскусіі... А слынны празаік Леанід Дайнека падчас сустрэчы падараваў усім свае кніжкі — і гэта не дзіва, бо спадар Леанід, чалавек шчодрай душы, быў спонсарам першага агульнага зборніка суполкі «Літаратурны квартал», які выйшаў у 2003 годзе ў РВУ «Літаратура і Мастацтва».

Увогуле літаратура, асабліва маладая, — гэта заўсёды жывое, нечаканае, гульня і карнавал. У суполкі ёсць непарушныя традыцыі — напрыклад, кожнае пасяджэнне пачынаецца з «перапісу насельніцтва «Літаратурнага прадмесця»; перад тым як разысціся, нейкі час складалі хіт-парад пачутых твораў. Выпрацаваўся і свой «святочны каляндар». Гэта і Літаратурныя Каляды, што зараз праводзяцца ў выглядзе аўкцыёну мусаў — непатрэбных падарункаў, якія хобіты дарылі адно аднаму... І навагодні літаратурны карнавал, які адбываецца на нашай кватэры, пасля якога застаюцца такія шэдэўры, як напісаныя (дакладней, склееныя) па метадзе французскага сюррэаліста Андрэ Брэтона паэмы з газетных загалоўкаў. Святкаваўся дзень Святога Валянціна, а па-нашаму — Дзень закаханых Максіма і Веранікі. На Літаратурныя Дзяды пры святле свечак запрашаюцца ўсе нашы літаратурныя папярэднікі. А ёсць яшчэ і проста выступленні — суполку часта запрашаюць на сустрэчы з чытачамі, — і вандроўкі па цікавых мясцінах... А вандравалі ў нечаканыя месцы — напрыклад, на Дзявочую гару пад Мінскам, дзе калісьці быў храм беларускіх амазонак, наведвалі зруйнаваны храм у Дубровах. Падарожнічалі ў Плябань, дзе чыталіся вершы ў занядбаным храме, які помніць часы паўстання, а потым — ішлі да магіл паўстанцаў Тадэвуша Касцюшкі і Кастуся Каліноўскага. Што ж, паэт павінен бачыць паэзію ва ўсім. Для літаратара — у кожным камяні гісторыя, у кожным дрэве — паданне. Калі ў музеі «Дом Ваньковічаў» была зладжаная прэзентацыя маёй кнігі «Я — мінчанін», гэта ператварылася ў баль-маскарад, на якім прадмесцеўцы ўвасаблялі жыхароў старога Менска, а потым усе разам пайшлі карміць цмокаў на Свіслачы.

Аднойчы ў «Літаратурнага прадмесця» з'явіўся ўласны сімулякр. Згодна тэорыі постмадэрнізму, сімулякр — копія, якая не мае арыгіналу. Неяк я зачытала артыкул пра гэта — і ў выніку на свет нарадзілася Рагнеда Крышталюк, віртуальная сяброўка суполкі, якая ўвабрала ў сябе яе найбольш характэрныя рысы. Напрыклад, яна філфакаўка — бо ў нас шмат

студэнтаў філфака. Яна паэтка — па той жа прычыне... Сваю гісторыю маюць імя і прозвішча... Рагнеда пачала з'яўляцца ў Інтэрнэце, яе біяграфія ўдакладнялася... І аднойчы на Лысай гары яна з'явілася ў матэрыяльным выглядзе — збітая з дошак і корпусу ад гітары. Рагнеда атрымала ад кожнага падарунак... Капялюш, шаль, нататнік з адной старонкай... І ружовы парасон. Вось як пра гэта было напісана на форуме суполкі:

«З'яўленне Рагнеды Крышталюк народу адбылося! Ля вогнішча на Лысай гары з'явілася яна, сціплая дзяўчына з Баранавіч. Да вобразу сымулякру былі далучаныя: амерыканскі капялюх з маісавай саломкі, вязаны шаль і ружовы парасон (ад Л. Рублеўскай), ружовая кофтачка, спадніца ў народным стылі і веер (ад А. Спрынчан), праграмкі спектакляў Купалаўскага тэатра ад З. Арцюха (Рагнеда — тэатралка, а праграмкі не купляе, а крадзе), нататнік з адной старонкай і спісаны аловак (ад Ю. Новік), грошы (ад Р. Малахоўскага), жэтон на мінскае метро (ад М. Кандратава), разумны погляд праз акуляры (ад І. Клепікава) ды інш. Паколькі бацька Рагнеды не з'явіўся, С. Вераціла прапанаваў Рагнедзе цыгарэту, Віктар Шніп — таблетку ад галаўнога болю, а Патаранскі — шклянку, але гэтыя падарункі былі Рагнедай з абурэннем адпрэчаныя. Ля вогнішча чыталіся вершы А. Сыса. Потым разам з Рагнедай прадмесцеўцы рушылі ў пісьменніцкае паселішча. Там адбылася запланаваная дзесяціхвілінная медытацыя на веснавую квецень, а менавіта на алычу. У выніку медытацыі ў кожнага прадмесцеўца мусіла нарадзіцца хоку. Потым Рагнеда Крышталюк прысутнічала на чытанні вершаў на лецішчы А. Спрынчан, дзе і засталася начаваць».

Сёння ружовы парасон увасабляе Рагнеду і ўрачыста адкрываецца на кожным пасяджэнні суполкі. З часам у яго агаліліся два жалезныя «ражкі». Прадмесцеўцы патлумачылі, што гэта — сімвал упартага характару Рагнеды... Але частка суполкі ўпарта хацела зрабіць Рагнеду больш ахайнай, зацыраваўшы яе. Акцыя адбылася ў выніку галасавання... Аднак калі зацыраваны парасон расчынілі, з яго вытыркнулася ўжо не два, а тры ражкі! Не схаваеш у спраты паэтычны характар, не замкнеш у цеснае клетцы!

Аднойчы ў Рагнеды з'явіўся кітайскі сябар — жоўты парасон Інька (альбо Янька), прывезены паэткай Маргарытай Аляшкевіч з Кітаю. Сябар мяняе імя з жаночай формы на мужчынскую і наадварот у залежнасці ад жадання прысутных. А потым з'явіўся Блакітны Сьвін....

Усё пачалося з таго, што на нашым пасяджэнні прысутнічала вядомая расійская паэтка і журналістка, якой так спадабалася наша паэтка Ганна Федарук, што яна захацела пазнаёміць дзяўчыну са сваім сынам.

Маскоўскі госць неўзабаве сапраўды прыехаў у Мінск і прывёз у падарунак беларусцы (якая зараз займаецца рэжысурай і здымаецца ў фільмах) сімвал года — вялізнага плюшавага парсючка.

Вобраз спадабаўся... Блакітны Сьвін, беларуская птушка шчасця, стаўся героем коміксаў і даў назву першай беларускай літаратурнай антыгламурнай прэміі, якую суполка прысуджае штогод у выніку адкрытай галасаванкі за цікавыя творчыя праекты і нонканфармізм у літаратуры. Прэмія — гэта дыплом плюс сто чаго-небудзь. Чаго сто — кожны год прыдумваецца наноў (былі алоўкі, перапяліныя яйкі, свечкі, насоўкі, запалкі).

А галоўнае — новыя і новыя юнакі і дзяўчаты прыходзяць на пасяджэнні, і пачынаюць ствараць на беларускай мове, і пачынаюць адкрываць для сябе багацце нашай літаратуры. Так што звышзадача суполкі — падтрымаць, скіраваць да нацыянальнай культуры наступнае літаратурнае пакаленне — выконваецца... Колькі будуць доўжыцца нашы сустрэчы, цяпер прадказаць немагчыма. На самым пачатку я фармулявала гэта так: пакуль нам усім будзе цікава сустракацца, іначай атрымаецца фальш і афіцыёз, якія не прыкрыеш нічым.

Цяпер сябры суполкі выдаюць уласныя кніжкі, працуюць у літаратурных выданнях і выкладаюць ва ўніверсітэтах і інстытутах... Аксана Бязлепкіна і Маргарыта Аляшкевіч — на журфаку, Аксана Спрынчан працуе ў выдавецтве «Мастацкая літаратура», Наталка Кучмель і Віктар Лупасін — ва ўніверсітэцкім выдавецтве, Віка Трэнас і Рагнед Малахоўскі — у часопісе «Маладосць», Даша Лосева — у музеі гісторыі літаратуры... Ладзяць уласныя праекты і суполкі, кшталту паэтычнага тэатра «Арт.С», якую заснавалі Аксана Спрынчан і Зміцер Арцюх, прома-групы «ВЮ» Вікі Трэнас і Юлі Новік... Адначасова з'яўляюцца зусім маладыя — як Аліна Агрэніч, што толькі спрабуе пісаць вершы. Галоўнае, усе сябры суполкі, хто б дзе ні працаваў і ні вучыўся, працуюць на папулярызацыю і прапаганду беларускай нацыянальнай культуры.

І калі прайшло дзесяць гадоў, а мы ўсё яшчэ сустракаемся — значыць, атрымалася нешта цікавае! Як некаторыя кажуць, «літаратурны дом сямейнага тыпу».

*Людміла РУБЛЕЎСКАЯ,*
*кіраўнік суполкі «Літаратурнае прадмесце»*



**АЛІНА АГРЭНІЧ**

*Скончыла Мінскі дзяржаўны абласны ліцэй, зараз — студэнтка філфака БДУ.*

## Анёл-ахоўнік

Калі паміраць гатовы,
Не бачыш сэнсу жыцця,
Паслухай анёла прамовы
Пра важкую сутнасць быцця.

Зірні ў яго шчырыя вочы,
Краніся святога крыла.
І, можа, ты жыць захочаш,
Спазнаўшы крыніцу святла?



## МАРГАРЫТА АЛЯШКЕВІЧ

*Заканчвае магістратуру журфака. Крытыка друкавалася ў «Дзеяслове», вершы — у «Тэкстах» і «СБ», журналісцкія матэрыялы — у «Маладосці», «ЛіМе», «Звяздзе», «Культуры», у газеце БДУ «Універсітэт». Нарадзілася і жыве ў Мінску.*

### Зіма

На крылах цішыні злятае снежань,
крадзецца да канапы белы кот —
прыйшоў на пругкіх лапах новы год
і побач лёг глядзець, як лепіць вежы
завея-волатка. Вакол яе вальсуюць
сланяты, не шкадуючы пуант.
Ад ветракоў шалее Расінант,
мчыць за аблокі, што зіме пасуюць —
на белай шыі мяккіх перлін нізка.
А як расчэпіцца, дык паляцяць уніз,
загрукацяць на дах і на карніз.
Глядзі, мой кот. Вясна яшчэ не блізка.



Прызнайся, дзьмухаўчык, чаму ты
У сцябліне поўны горкае атруты?
Ківае галавою дзьмухаўчык,
нагой зялёнай да зямлі прыкуты.
Маўчыш, зняволенае сонца? Дык
Садзьму, упартае, з цябе сівы парык,

І будзеш лысінай свяціць на лузе,
І сонцы новыя ўзрастуць у друзе.

## Восень

Па ссівелым небасхіле ледзьве соўгаюцца хмары
што бароды адрасцілі да прамоклых тратуараў
і аслеплае кранае сонца пальчыкам за плечы
дабрыдзе да небакраю дзе ў тузе начніца енчыць
Панна Восень аксамітам — туманамі засціць вочы
лета ў слоіку закрыта і схавана ў царства ночы

## Холідэй – Crazy in Love, вольная варыяцыя

Будзе ўсё, як ты хочаш:
ты скажаш трываць — я стрываю,
калі б нават нябёсы ты мне перакладваў на плечы.
Хто памерае, спраўдзіць — мне то будзе ношкаю лепшай,
чым сусвет без цябе, поўны смутку ад краю да краю.

Будзе ўсё, як ты хочаш:
пакінуць ты скажаш — пакіну,
хай зямля ды нябёсы сыдуцца ў даўгім пацалунку,
а хто супраць, хай зматваюць вуды й пакуюць клункі —
ты мой пан і сусвет, і табе я адзінаму вінна.

Будзе ўсё, як ты хочаш,
а скажаш — не будзе нічога
з гесперыдавых яблыкаў, хліпкіх карыятыд.
Безгаловай змяёй перакурчыцца ў логі дарога.
Ныюць сцёртыя плечы і сцёрты, пусты краявід.



Ох, нядобрае ў серпеня вока!
Пан рандо капытком выбівае,
барадзёнка зіхціць смаляная
ў лісці цемры — ці мроіцца? Гаю
ноч ажурам жуду заплятае —
ці ўсё морак? Жалейка рыдае —
пэўне, вецер... Маркотна... І рокат
нарастае... І з кожным паўкрокам
безуважным — бліжэй... Відмы хорам
кружаць голаў, і хутка ад скокаў
набрыняе дурманлівым сокам
жаху й жарсці саколка. У змроку,
як націнку сярпом, абдымае
морак-пан... Серпень вострыць
вока.



Дні бы збіраць, нібы дробную рэшту ў кішэні —
фунты патолі ды радасці звонкія пені.
Во набралося б! На ровар — дабрацца да зораў,
на цілімпаны ды інкруставаны сцізорык,
на параплан ці прынамсі на колькі заплатак,
каб не намульвалі скарбы, збягаючы, пятак...



У чарнільнай цемры бачаць сны галеры,
у празрыстай сіні сняцца галіёнам
цяжкія куфэркі, бочачкі мадэры,
срэбныя кірасы, шпагі ды кароны,
бестурботна-сонна ў амфары амброзій
мроіць, быццам сонца ўсё цалуе ружы...
Пакажы мне, рыбка, ціхія абшары,
дзе да хваляў зыбкіх прыгарнуцца мары,
дзе Нептун наблытаў зарасцяў руінам,
аб якія спруты ноччу чэшуць спіны.
Хто вам, рыбка, шые залатыя лускі?
Як займець на шыю гэткіх шчэлеп вузкіх?
Рыбка не пакажа акіянскіх скарбаў.
На абед мы смажым тоўстых прэсных карпаў.



У шафе бабулінай куфар з дзівоснай разьбой,
чырвонага дрэва, жалезам паўсюль акаваны —
такія, напэўна, прывозяць здалёк караваны
праз спёку і смагу пустыняў, самум і разбой.
А што ў ім? Цікую, цягнуся з дрыготкаю рук...
Духмянасці, спецыі, бутлі няведамых трункаў?
Муар, ці муслін, ці запас найтанчэйшых карункаў?
...на пыльных вянках павуціны засохлы павук.



## ТАЦЦЯНА БАРЫСЮК

*Нарадзілася 18 кастрычніка 1971 года ў Мінску. Скончыла філфак БДУ (1995) і аспірантуру Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы НАН Беларусі (2001), дзе і пачала працаваць малодшым навуковым супрацоўнікам. Вершы друкаваліся ў часопісах «Першацвет», «Маладосць», «Крыніца», «Полымя», «Беларусь», «Беларуская думка» і штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва». Друкуецца з 1993 года. Аўтар паэтычнай кнігі «Аўтапартрэт» (2002) і шматлікіх паэтычных, літаратурна-крытычных і літаратуразнаўчых публікацый.*

---

### Зімовы эцюд

Ледзяшовай іглой зашывае зіма беласнежнае футра.
Пасля лета спякотнага ўжо не халодная нашая «тундра».

Выцінанкі-анёлы на вокнах, і снег зіхаціць светла-мройна.
Каб не снег на плячах, але сонца гарачага летняга промні!

Беласнежныя шапкі ў князёўн — высачэзных красуняў-ялінаў.
Шалясцяць вербы ніцыя мне ледзяшамі празрыстых галінаў.

Снег какосавай стружкай ляжыць. Верш ляплю, як сняжок,
каб сагрэцца!
Новы год — як загрузка энергіі ў напрацаванае сэрца!

*20.02.2011*

## Модніца

Ёсць настрой — будзь красуняй гламурнай
ці пяшчотнай пухнатаю коткай,
каралеваю снежнай пахмурнай
ці Кармэн з бранзалетам-бразготкай.

Ёсць настрой — будзь джынсовай прынцэсай
ці наскрозь дзелавой бізнэс-лэдзі.
Хай народ языкамі пачэша
і пачнуць абмяркоўваць суседзі.

Ёсць настрой — дык магчыма дзівацтва.
Хай ствaральны імпэт не астыне,
і фантазій агонь не тушы.

Бо жанчына — карціна мастацтва,
адпаведная ўласнаму стылю,
гэтаксама як стану душы.

## Стыхіі танцаў

На дне агню танцуюць саламандры...
*А. Сыс*

У памяці гісторый старасвецкіх,
на злосць усім наканаваным драмам,
на балях княжацкіх велікасвецкіх,
узнёслая, танцую пекнай дамай.

З зямлі да сонца вабіць дар натхнення,
не страшныя сняжынка ці дажджынка,
наяве і ў чароўных лёгкіх сненнях
на небе я танцую аблачынкай.

Згараць іскрыстых жоўтых зор пасевы —
калі я чую водгулле вяснянкі

або вядзьмарскі дух купальскіх песень,
у возеры танцую свіцязянкай.

Як мой сусвет напоўняць успаміны,
працягла ноч спявае шчасця мантры
і саграваае полымя каміна,
на дне агню танцую саламандрай.

Калі пануе сум або шанцуе,
для вас, сяброў, для любага, для Бога
ў віхурах і вірах стыхій танцую —
мая душа мелодый помніць многа.

## Рэінкарнацыя кахання

*М.К. → NN*

Мрояй твой намалюю партрэт,
хоць даўно мы на розных планетах.
Сэрца помніць — і час не сатрэ,
не зруйнуе ўспамінаў дашчэнту.

Як зляціць шэрых дзён мітусня,
я змагу закахацца аднойчы,
бо тваё будзе мець Ён імя
і смарагдава-карыя вочы.

*04.04.2011*

## Святкі-2011
**(***верш напісаны рэдкім сямiскладовым анапестам)*

Лепш за ўсё варажыць па раманах Людмілы Рублеўскай
і Рычарда Баха.
Лёс загадкавы ў святкі паэты спрабуюць праз сімвалы-словы
прадбачыць.

Іх узрокі пытальныя поўны надзеі на лепшае й золкага страху:
Богам наканаванае цяжка ўсім нам прачытаць,
каб пасля перайначыць!

У Людмілы Рублеўскай застолле. Трапечуцца свечкі між шчодрай
вячэры.
За акном пацямнела. Йдзе снег. Як апосталаў, сёння паэтаў
дванаццаць.
У натхненне, радзіму, каханне і шчырасць, у Бога і ў містыку
верацць,
каб Хрысту і паганскім багам, ідэалам і ідалам зноў пакланяцца.

Каб прадбачыць, год будзе пусты і няплённы
ці ўрэшце ўраджайны й багаты,
з-пад абруса дасталі сухія сцяблiны кароткіх і доўгіх раслінаў.
Абмяркуем навіны і планы, пачуем і вершы, і песні, і жарты.
За гасціннасць падзякуем, пойдзем дадому,
каб потым вярнуцца ўспамінам.

## Ісціна ў вясне

Я веру: ісціна ў вясне!
Зноў абуджаецца прырода:
Капеж, смех сонца, крыгаходы...
Час абнаўлення — для мяне!
Я веру: ісціна ў вясне!

Хай будзе ісціна ў вясне!
Ізноў надзею сэрца спеліць,
зноў у тваё каханне верыць
і што яно не падмане.
Хай будзе ісціна ў вясне!



## АЛЕНА БЕЛАНОЖКА

*Рэжысёр, драматург, пісьменніца. Нарадзілася 17 студзеня 1985 года ў Магілёве. Скончыла Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт культуры і мастацтваў па спецыяльнасці «Рэжысура масавых свят і абрадаў», працуе ў Магілёўскім гарадскім Цэнтры культуры і вольнага часу. Друкуецца ў рэспубліканскіх перыядычных выданнях з 2008 года.*

### Чарніцы з Панямоння

Неба — зорны чарнічнік. Не хочацца спаць.
«Ці працуе апоўначы пошта?»
Я шукаю нагоду табе напісаць,
Што цябе не люблю...
А навошта?

Я не ўмею чакаць. Я не ўмею маніць.
Я абмыла слязьмі сем падушак.
Перасолены месяц над дахам звініц.
Выліваецца мора з ракушак

І сцякае на вусны салёнай слязой,
І змывае з паперы чарніла...
Я збіраю чарніцы прыручаных зор —
Чарнаморскіх...
Не, я не забыла,

Што такое — з тарфянікаў ліпеньскі дым,
Што такое — зубры і Пагоня...

І калі ты раптоўна прыедзеш у Крым —
Прывязі мне чарніц з Панямоння!

Буду прагна іх есці на ўскрайку зямлі,
Цалаваць цябе
Чорнымі вуснамі...

Тут не ўбачыш чарніцы.
Мы — бач ты! — знайшлі!
Мы заўсёды былі беларусамі...

*30.07.2010*

## Пальма

гэты снег, невыносна белы...
асляпляльны парад сумётаў...
як жа хочацца — на Сэйшэлы!
а даводзіцца — на работу...

а камусьці і тут — нармальна,
у пакоі, дзе, «як не свая»,
загінаецца пыльная пальма,
а пад ёй — загінаюся я...

а я маю вялікую тайну —
фотаздымак пад стосам паперак,
і я мрою амаль перманентна
ці не з добры дзясятак гадоў,
што аднойчы я вывезу пальму
на яе гістарычны бераг,
пасаджу яе,
а сябе — пад яе,
і буду чакаць пладоў,

казытаць загарэлую, як медзь, руку,
папраўляць на носе пенснэ

і расказваць туземнаму
юнаку
аб тым, што такое — снег...

## Падкова

Дзе мае думкі, калі ты трымаеш
Далонь на маім сцягне?
Дзе мае думкі, калі ты шукаеш
Рукой уваход у мяне?
Ці дужа падобна на прастытуцыю?
Ці трэба прамовіць «Не!»?
...Ты закаханы ў сваю Рэвалюцыю,
Маладзейшую за мяне...
Ботакс малодзіць усмешкі зоркам.
Я не зорка, я аўтарка сотні вершыкаў.
Ты выразаў сёння на лаве сцізорыкам
Не сэрца і «LOVE» — ваяўнічага вершніка.
Ідуць навальніцы сцяной на горад,
Людзі маўчаць, з імі — мы, ва ўнісон;
Ды ў маёй галаве не агульнае гора,
А жаночае, лёгкае, нібы сон:
Я маўчу ад нахабства тваіх далоней.
Ты думаў, маўчанне — мая канстанта?
Ты — казачны прынц.
А я баюся коней
І не маю стайні для твайго Расінанта.
Я не веру ў маўчанне. Давяраю слову.
Змыкаю калені і чую: «Бля...»
Прынц прамчаўся міма. Конь згубіў падкову.
Хай будзе шчаслівай мая зямля.

## Маналог на магіле Максіма Багдановіча

Максім,
Я прыехала ў Крым,
Паклаўшы ў заплечнік вянок.
На ялцінскі цёплы граніт
Баюся ступіць без абутку.
Я трызніла Крымам, Максім,
Паўднёвым загарам шчок,
Цяпер, як я стала пры ім —
Жадаю пазбавіцца смутку.

Мне хораша тут хадзіць,
Далонню кранаць платаны,
Дзівіцца на мастакоў
І слухаць аркестр цыкад.
І, можа, мяне тут сніць
Мужчына, мной не спатканы...
Пытаю сябе ізноў:
Ці хочацца мне назад?

Максім,
Мне марская сінь
І соль — выядаюць сэрца.
Каханне не прадаецца?
Прадаць яго — трэба ўмець...
Тут гандаль даецца ўсім,
Максім;
Хваля аб ногі трэцца —
Ашчаднаму чалавецтву
Сябе прадае за медзь.

Злічыўшы кожны мой крок,
Мора ўздыхне былінна,
Даверыцца незнаёмаму
Пісьменніцкаму пяру.

Паэтка нясе вянок
З прысвіслацкіх гонкіх галінак —
Траецкае шчасце сваё
Не выпускае з рук.

Вазьміце яго, Максім,
І пойдзем глядзець на яхты,
На лайнеры ў дзесяць паверхаў...
Тут не бывае прыліў?
А ведаеце, Максім,
Мой прадзед быў з польскай шляхты.
Ён жыць на мора б не з'ехаў.
Ён мяне б асудзіў.

А мне —
Не сорамна, не.
У мяне на вакне
Стаіць малако
У глечыку...
Максім,
Я прыехала ў Крым
З «Вянком» у заплечніку.

*30.07.2010*



Калі ты вымаеш сябе з зімы —
Крыху падсмажанай,
Крыху падснежанай,
Паблытаўшы дзверы жытла й карчмы,
Уваходзіш у дом да мяне, збянтэжанай —

Я выгінаю спіну на тонкім ільне:
Бяры мяне на рукі
І цалуй, і гушкай!

Калі ты вымаеш сябе з мяне,
Мне хочацца
Перавязаць цябе стужкай

І даслаць на Каляды жанчыне, якая
Не размешвае цукар у каве «па сонцы»,
Але носіць пярсцёнак і заўжды чакае.
Я вяртаю цябе
Благавернай жонцы.

Яна знойдзе цябе сярод серпанціну
І ляжа побач,
І ўчуе мой пах...
І нічога на скажа,
Бо ты — яе мужчына,
І зойдзецца стогнамі
У тваіх руках.

Львы на халаце заматляюць грывамі,
Задрыжаць іголачкі жытнёвага асця...

Я застаюся сам-насам
Са сваімі рыфмамі.
Я вымаю сябе
З твайго жыцця.



Намалюю табе нябёсы, каб ты мог лятаць.
Намалюю сабе труну, каб магла ляжаць
І глядзець,
Як ты робішся кропкай на сінім,
І зайдросціць прыгожым паганскім багіням,
Што сядзяць на аблоках і смокчуць вішні,
І дзівяцца, які ты «надзвычай увішны»,

І ўчыняюць з костак вішнёвы град,
І дзе трапляе костка — вырастае сад...

Я табе раскажу — ты ж лунай, балазе
Дазваляюць і час, і грошы:
Ты ў багіні — чарговы,
А там, у чарзе,
За табою — народ не горшы.

І калі яна крыкне: «Пайшоў, пся крэў!
Для цябе гэта надта высока!» —
Ты ўпадзеш на калючыя рукі дрэў,
Каб зрабіцца вішнёвым сокам.

Я забывала цябе — і забыць не змагла.
Мне прыкра...
І тым не менш
Я ўпалявала пяро
З твайго крыла.
Я п’ю сок
І пішу
Верш.

Ён не выкрые тайнаў нябеснай смугі,
Ды на смак — нечакана вішнёвы...
Ты ў мяне быў першы.
Не-не!
Другі...
Словам, ты быў —
Чарговы.

*31.05.2010*



Блішчэў зарапад — шыкоўна,
Як таннае шкло ў каралях.
Злятаў цыгарэтны попел
На выцертую парчу.
Бландзіністую, што Поўнач,
Зацёганую па балях,
Дзяўчыну прайгралі ў покер
Замежнаму скрыпачу.

Згасіўшы самоту ў зрэнках,
Яна папрасіла кавы.
Раптоўная навальніца
Прашыла квартал наскрозь.
З дзяўчыны сцякла сукенка,
Як дождж з Манумента Славы.
Халодная, нібы спіца,
Дзяўчына сказала:
«Вось».

Музыка ж крануўся скрыпкі.
Мільгалі часы і стылі.
Ён ладзіў за кодай коду,
Узводзіў між іх масты...
Скразняк зачапіў за лыткі.
Калі ступакі настылі,
Дзяўчына сцягнула коўдру
З вялікай старой тахты.

Схаваўшы сябе ад вока
Блакітнай ліхтарнай лямпы,
Ад сотняў чужых аблiччаў,
Што церліся аб каўнер,
Дзяўчына была далёка —
На самым ускрайку мапы,

Вялікай
Геаграфічнай,
Прычэпленай да шпалер,

І ўсё, што было — мінула,
Тужліва кальнула грудзі...
Дзяўчына была шатэнкай.
Дзяўчына зняла парык.
А потым — яна заснула,
Падумаўшы: «Нешта будзе...»
А побач за тонкай сценкай
Трымцеў да світання смык.

*1.06.2010*



## ТАЦЦЯНА БУДОВІЧ

*Нарадзілася ў Мінску ў 1977 годзе пад сузор'ем Казярога. Чым толькі не захаплялася ў дзяцінстве: плаваннем, акрабатыкай, выяўленчым мастацтвам... Ва ўзросце сямі гадоў напісала свой першы верш, які быў прысвечаны роднаму гораду Мінску. У 1998 годзе скончыла Інстытут сучасных ведаў па спецыяльнасці «Фінансы і крэдыт». Першая публікацыя з'явілася ў 1995 годзе ў часопісе «Першацвет», а ў 2002-м выйшла першая кніга паэзіі «Дуэль паглядаў». У 2005 годзе завочна скончыла гістфак БДУ. Захапленні яе за гэты час сталі больш дарослымі: гэта парашутны спорт і альпінізм. Мае 3-і разрад у гэтых відах спорту. Яны і далі ёй усведамленне яе жыццёвага крэда: толькі ўверх! Супрацоўніца Літаратурнага музея Максіма Багдановіча. Сябра суполкі «Літаратурнае прадмесце» з дня заснавання.*



сонца маё
　　　　　　　　пераспелы яблык
падае ў далоні
　　　　　　　　　　вечара

сум невыказны
пахне мінулым
восень

цесна душы ў абдымках
*тут і цяпер*



белы накіп аблокаў
у блакітнай каструлі
неба
восень
мая элегія
думаю,
што згатаваць
на вячэру



туга неадчэпная
з душою маёй
зраслася
думала я што
ты —
першапрычына яе
але
быццам увесну снег
растаў для мяне
твой вобраз
рукі твае
вочы твае
і голас
а яна засталася...

## Восень

Хістаюцца фіранкі на акне,
сам-насам з ветрам,
што
скрозь шчыліны ўпаўзае,
шукаючы паўсюль
адно яму
вядомай
*мэты*.

## Жыровіцкая імпрэсія

з ветрам плывуць праз фортку
пахі вясны
пальцы знаходзяць самі
ноты забытай песні
Санта Лючыя
ты затрымаеш мяне
*тут*...



Аўто
нібы карабель
рассякае ноч.
Плынь дажджу...



на даху горада майго
ляжаць аблокі
і знутры аўто
здаецца
быццам свет
шкляны і штучны
у нерухомасці сваёй
спыніўся
і толькі зрэдку Бог
па дошцы перасоўвае
гліняныя фігуры



Рукі твае спявалі
                    песню пяшчоты
                                        на целе маім.

Гэта быў сон,
                і расчараванне
                                    ранак прынёс.



вецер шматае голле
аблокі
плывуць па шашы нябёсаў
іх капітаны —
хлопчыкі з доўгімі валасамі —
часам з рук выпускаюць лейцы
і мы назіраем
Нябесны Хаос

але ажываюць смяшынкі
ў вачах
Пана Бога

## Каўказская замалёўка

Плывуць без чакання,
                                        тугі і часу
аблокі, чапляюцца жыватамі
за спіны гарбатых гор.
І на паветраных хвалях птушка
таксама плыве ў краіну,
дзе спее крышталь ілюзій.

Блішчыць на вяршынях снег...



## АКСАНА БЯЗЛЕПКІНА

*Нарадзілася ў 1981 годзе ў Гомелі. Скончыла філфак БДУ ў 2003 годзе. Жыве і працуе ў Мінску. Дацэнт кафедры літаратурна-мастацкай крытыкі Інстытута журналістыкі БДУ.*

## ЧЭМПІЁН РАЗВІТВАЕЦЦА З ВАМІ

*(Урывак)*

### Частка першая. Іспыт

— Скажы мне, у чым твая вера? — спытаў граф.
— Мяркую, яна ў маёй сіле, — адказаў Зыгмунд.
*Сага XII стагоддзя*

Знясіленыя аўральнай падрыхтоўкай да сесіі і бяссоннем, студэнты заходзілі па адным у аўдыторыю і варажылі над сталом з білетамі. Гэтыя апошнія шаманілі з усёй харызматычнасцю безнадзейнасці. Ветлівыя позіркі, прыязныя ўсмешкі. І толькі да дрыготкіх рухаў рук, якія цягнулі білет, Вера за два гады так і не змагла прывыкнуць. Зрэшты, аддрыжэўшы і перахваляваўшыся, студэнты выходзілі на волю, а яна заставалася на новыя катаванні.

Калі прайшлі эшалоны ўпэўненых выдатніц, калі старанныя сераднячкі пазачытвалі адказы з нарыхтаваных дома «бомбаў», засталіся яны — паляўнічыя на халяву. Чатыры хлопцы зацята ўзіраліся ў пытанні білетаў, нібыта там мог утрымлівацца нейкі адказ. Вера ў чаканні разглядала іх твары: хтосьці будзе апраўдваць пропускі і няведанне працай, хтосьці шчыра прызнаецца ў лайдацтве, хтосьці ў чарговы раз за гэту сесію «пахавае» любімую бабулю. А Вера сама б прызналася, калі б яе спыталі (ды каму цікава?) — так, прызналася б, што праз шэсць гадзін пасля пачатку іспыту больш

не можа ні слухаць, ні задаваць пытанні-падказкі і пытанні-«засыпкі», не хоча бачыць у падрыхтоўцы студэнтаў прагалы і рабіць выгляд, што не бачыць... Хацелася цішыні ці фонавай забаўкі, якая не закранала б свядомасць.

— Вера Максімаўна, я пачну свой адказ... не з першага пытання... і нават не з другога... Я пачну яго з песні!

Ігнат, не чакаючы дазволу, падскочыў да апошняй парты і выцягнуў гітару. «Калі ён паспеў яе прынесці? Пільнуеш шпаргалкі, а не заўважаеш габарытныя рэчы...»

— З Вайцюшкевіча. Я ведаю, вам яго песні падабаюцца. Я прашу вас пра адно — услухоўвайцеся ўважліва ў кожнае слова. Можа быць, сёння вам адкрыюцца новыя сэнсы, — Вера ведала, што толькі шалёны выкід адрэналіну мог справакаваць такую шматслоўнасць стрыманага Ігната.

Чакаю Вас, абы паверыць цуду,
Чакаю Вас, пакуль адчай не згас.
Чакае вязень так свайго прысуду,
Каб волю ўбачыць хоць апошні раз.

Нязграбна перабіраючы струны, Ігнат не хлусіў пра адчай. Вера зразумела гэта, калі зірнула ў яго білет. Як ні намагаешся ўкласці білеты аднолькавай складанасці, а ўсё адно заўсёды ёсць такі, выцягванне якога — адначасова і ганьба, і прысуд, і пазбаўленне стыпендыі. Ігнат, натхнёны ўдалым выступленнем, не здаваўся:

— Я пачну з практычнага задання. Аналіз верша.

Вера зазірнула ў картку з творам:

— Калі ласка.

— Між імі штосьці адбылося... — няўпэўнена зазначыў Ігнат.

— Штосьці адбылося? Хмм... «І кожны з нас струною быў і смыкам, Уадначас — і скрыпкай, і музыкам...» — Вера зацытавала радкі з верша Наталлі Кучмель. — Штосьці адбылося?.. Можна сказаць і так.

Сказаць можна было і мацней, і канкрэтней, бо далей ішлі досыць адназначныя радкі:

...Калі ж спатоліліся мы, калі
З угрэтай падымаліся зямлі...

Ігнат жа, падтрыманы чарговым маленькім поспехам, выдыхнуў як набалелае:

— Зямлю ўгрэлі.

Вера схавала ўсмешку і зірнула на студэнта. Ігнат не жартаваў. Было незразумела, ці то ён збянтэжыўся маладой выкладчыцы, але ў хлапечай кампаніі лёгка адшукаў бы словы, каб назваць той самы працэс, ці то ён напраўду не скеміў, які менавіта магутны спосаб па саграванні планеты знаходзіўся ў арсенале закаханых.

— Ігнат, вы сёння проста зачароўваеце мяне сваёй далікатнасцю.

Хлопец уздыхнуў з палёгкай.

— Можаце пераходзіць да пытанняў. Што ў вас там? Літаратурныя дыскусіі?

— Вера Максімаўна! Ну, што я буду вас падманваць! Гэтае пытанне не ведаю. Усе прозвішчы з галавы выветрыліся. А вось наступнае, пра гарадскую прозу, раскажу.

І ён механічна, без уласцівай яму «мастацкасці», паўтарыў ёй слова ў слова фрагмент лекцыі. Раптам закарцела выціснуць з яго эмоцыі, сфармуляванае стаўленне да тэкстаў. Захацелася хоць раз пачуць яго меркаванне пра тэксты, меркаванне яго, Ігната, які падчас заняткаў чытаў на апошняй парце спартыўную газету, у якой сам жа і працаваў.

— А што вы скажаце пра героя апавядання Міхася Стральцова «Сена на асфальце»?

Такой падступнасці Ігнат не чакаў, і разгубленасць запанавала на ягоным абліччы.

— Ігнат, вось вы, напрыклад, пайшлі б касіць а пятай раніцы? — паспрабавала дапамагчы выкладчыца.

— Вера Максімаўна! — узрадаваўся хлопец зразумеламу пытанню. — Дык я і касіў! Я ж вясковы хлопец! Я наогул касіць умею і люблю.

Вера ўмомант адчула, як уся літаратуршчына нечакана сціснулася, скурчылася і адступіла перад жыццёвай сілай хлопца. Раптам

усвядомілася ўся ненатуральнасць сітуацыі: яго, такога дужага і шырокага, змушаюць да корпання ў выдуманай рэальнасці. Такі прывабны, добры і надзейны спадарожнік для якой-небудзь паненкі... Створаны для жыцця... А што яшчэ трэба? Божа, навошта спартыўнаму журналісту ведаць пра развіццё гарадской прозы ў беларускай літаратуры?

...Адпусціўшы апошняга студэнта, Вера стомлена дараспісвалася ў ведамасці і выйшла з аўдыторыі. Пад дзвярыма на вялікай спартыўнай сумцы, абняўшы гітару ў футарале, сядзеў Ігнат.

— Вера Максімаўна, я вас да метро правяду. А то цёмна ж.

Ёсць рытарычныя пытанні, якія задае сабе кожны выкладчык: чаму выдатнікі крыўдуюць за заслужаную «дзявятку» ці «васьмёрку» і чаму так радуюцца студэнты незаслужанай «чацвёрцы».

Яны ішлі па зімовай вуліцы, рэдкія сняжынкі трывала чапляліся за адзенне. Заўсёдная стрыманасць Ігната некуды знікла. Цяпер, калі фармальныя сувязі між імі зніклі, ён расказваў пра ўсё, чым жыў і што міжволі вытлумачала яго слабую падрыхтоўку да іспыту па літаратуры. Веры было прыемна, што яму важна, каб яна не думала пра яго дрэнна. Ён расказваў, што займаецца спортам, што прапусціў апошні практычны занятак, бо рабіў рэпартаж з турніру па вольнай барацьбе, і прызнаўся, што не хоча больш пісаць у «Спартыўную панараму». Расказваў, як учора ўвечары ўпершыню ўзяў у рукі гітару, каб сёння сыграць на іспыце. Расказваў, як спісаў другое пытанне, і яму сорамна, але не вельмі.

— А я вам так удзячны, Вера Максімаўна. Вы ж маглі мяне на пераздачу. А так я здаў апошні іспыт. Я ўсё своечасова здаў у гэту сесію. У мяне так першы раз за тры гады. Я проста чэмпіён! — сказаў ён ужо перад уваходам у метро. — Ну вось, я вас правёў. А ў мяне праз дваццаць хвілін электрычка дадому. Да пабачэння!

— Да пабачэння, чэмпіён!

* * *

Дома яна заварыла гарбату, села ў любімае крэсла, але не паспела адключыць тэлефоны. За два гады працы ва ўніверсітэце Вера страціла амаль усіх студэнцка-аспіранцкіх сяброў. Адбывалася гэта так паступова, што здавалася прымальным і незваротным працэсам. Напісанне лекцый, тэстаў, спісаў літаратуры і пытанняў на іспыты, укладанне праграм — тыпавых, вучэбных, рабочых, арганізаванне конкурсаў навуковых работ і конкурсаў эсэ... Ды самі практычныя і лекцыі... Сяброўкі прагнулі вясёлых сустрэч і шчырых размоў, і немагчыма было растлумачыць ім, што яе сціплыя патрэбы ў камунікаванні цалкам задавальняліся на працы. Цяпер жа яна прызнавалася (пакуль што толькі сабе), што са студэнтамі ёй нават цікавей і лягчэй. Але зазваніў тэлефон.

— Прывітанне, Верачка! Ты ўжо дома? Абяцала ж пазваніць пасля іспыту... У колькі сустракаемся? — Юрась валодаў катастрафічнай здольнасцю да несвоечасовых тэлефанаванняў і непрымальных прапаноў.

Ён быў досыць прыемным маладым чалавекам, можа быць, занадта мітуслівым і рамантычным для сваіх трыццаці гадоў, але ягоная далікатнасць заўсёды была дарэчы. Усе ягоныя вартасці былі адшліфаваныя да такой ступені дасканаласці, што часам здаваліся ненатуральнымі. Вера прыязна да яго ставілася, хоць часам у ягоным ліслівым «Верачка» ёй чулася паблажлівасць і адначасова незаслужаная пяшчота.

— Юрась, калі ласка... У мяне сёння быў іспыт, я так стамілася...

— Тым болей! Верачка, табе трэба адпачыць ад сваіх студэнтаў, ад сваёй літаратуры.

Вера яскрава адчувала, што ёй трэба адпачыць ад усяго наогул, ад іншых людзей у першую чаргу, але, вядома ж, не сказала пра гэта хлопцу. Юрась — добры, цікавы, прынамсі, быў такім у іх апошнюю сустрэчу на дні народзінаў агульнай сяброўкі. Калі ж гэта было? У снежні... два месяцы таму... і ўсё-ткі стома так трывала завалодала ёю, што сама думка пра неабходнасць выйсці з кватэры здавалася блюзнерствам.

— Юрась, — Вера наважылася адмовіць яму канчаткова, але ў суседзяў зверху пачаўся вячэрні ўрок ігры на фартэпіяна. — Добра, давай сустрэнемся.

...Яны шпацыравалі па праспекце, ён распавядаў... так, ён распавядаў пра кнігу, якую нядаўна прачытаў. Вядома, гэта цудоўна, што ён чытае кнігі, падумалася Веры, але за што гэта мне? У мяне сёння ўсё гэта ўжо было, і нашмат цікавей, весялей. І на адзнаку, дарэчы. Спаборнічаць са студэнтамі на гэтым полі немагчыма. Такое адчуванне, што я для яго нават на спатканні не дзяўчына, а выкладчыца літаратуры... А ці пераказваў бы ён мне твор, калі б я не была філолагам? А калі б ён сустракаўся з прыбіральшчыцай, то прасіў бы па-сяброўску памыць яму падлогу? І як толькі Вера падумала, што яна несправядлівая да яго, Юрась, скончыўшы апавяданне, нарэшце звярнуў на яе ўвагу:

— Верачка, чаму ты маўчыш? Распавядзі што-небудзь! Толькі не пра студэнтаў...

— У мяне на гэтым тыдні яшчэ тры лекцыі ў завочнікаў. Я не магу размаўляць на марозе.

Юрась пакрыўдзіўся і знарочыста замаўчаў, каб яна ўсвядоміла сваю віну. А Вера віны не адчувала. Больш за тое, яго неразуменне і дзіцячыя паводзіны выклікалі хвалю раздражнення: ён выцягнуў яе, стомленую, з цёплай кватэры на забойчую для яе голасу халадэчу і хоча, каб яна яго забаўляла. І каб не пра студэнтаў... А пра што? Пра каго яшчэ яна можа расказваць?..

Не, вядома ж, можна было скарыстацца прафесійнымі навыкамі, сабрацца і роўна адну гадзіну дваццаць хвілін (працягласць лекцыі!) расказваць, жартаваць, трымацца, як на сцэне. Але гэты спектакль яна прывыкла граць для сотні студэнтаў, выдаткоўваць столькі ж сіл на аднаго Юрася здавалася марнатраўствам.

Ва ўтульнасці кавярні яна канчаткова расклеілася і чхнула, ледзь паспеўшы затуліцца насоўкай. Юрась засмяяўся:

— А яшчэ кандыдат навук.

— Я так разумею, няма сэнсу прасіцца ў прыбіральню.

— Чаму?

— Я ж кандыдат навук.

Дзіўна, яна раптам зразумела, што Юрась, з ягонай фармальнай слоўнай далікатнасцю, з ягонымі «Верачка» і «табе трэба адпачыць», насамрэч ні секунды не падумаў пра яе. Ні пра яе знясіленасць іспытам, фізічную і эмацыянальную: усіх выслухаць, распытаць і часам узяць на сябе адказнасць пакрыўдзіць нізкай адзнакай неблагога чалавека... Ні пра неабходнасць берагчы голас... Ні пра натуральную патрэбу на спатканні быць проста чалавекам, а не выкладчыкам ці кандыдатам навук... Раздражненне нарастала, Вера ведала, што для яе спатканне незваротна сапсавана і цяпер галоўнае — стрымаць свае эмоцыі, бо ў гэты напраўду цяжкі для яе дзень Юрась мог стаць вінаватым ва ўсім: і ў сваёй інфантыльнасці, і ў сваім эгаізме, і ў тым, што выдатніца Валя Каўтанюк прыйшла на іспыт без падрыхтоўкі, але не паставіць ёй «восем» было немагчыма. Хацелася дадому (хай нават заднастайнымі фартэпіяннымі гамамі) і плакаць...

Кампанія за суседнім столікам запаліла цыгарэты. Юрась пацягнуў носам паветра.

— Як там у Барадуліна, якога спявае твой любімы Вайцюшкевіч:

Цыгарэтны туман ападае ў кавярні,
І канкрэтны раман круціць хітры ліхвяр,
Пані трошкі ў гадах, вочы, быццам ліхтарні,
Тут слугуе туга, тут настрой — гаспадар.

— Адкуль ты ведаеш, што мне падабаецца?

— Чытаў, ты ў Сеціве пісала. Пару артыкулаў тваіх таксама чытаў. Чытаў, што пра цябе студэнты пішуць.

— Малайчына, ты грунтоўна падрыхтаваўся. — Веры нясцерпна захацелася дадаць: «Давай залікоўку».

...Калі да яе дома заставалася пара соцень метраў, Юрась зрабіў апошнюю спробу ўратаваць вечар. Ён спыніў яе, павярнуў да сябе спінай, абняў адной рукой, а другой паказаў на неба:

— Зірні, наўпрост над намі тры зоркі. Гэта пояс Арыёна. Можна ўявіць мужчынскую фігуру: Бетэльгейзэ і Белатрыкс — гэта плечы,

Рыгель — нага. А ніжэй, у сузор'і Вялікага Сабакі — Сірыус. А вунь там Альдэбаран. Яны паказваюцца нам толькі ўзімку. Бачыш?

На думку Веры, усе зоркі аднолькава цьмяна свяціліся ў начным небе, але яна згодна хітнула галавой. Юрась цёпла дыхаў дзяўчыне на вуха, усё шчыльней прытуляючы яе да сябе. Вера спінай адчувала, як б'ецца ягонае сэрца, але не магла прасякнуцца яго рамантычным настроем: уяўлялася, як у падлеткавыя гады Юрась вывучыў размеркаванне зорак на небе і з тых часоў кожнай новай дзяўчыне ладзіў «пяціхвілінку рамантыкі».

Эх, Вера, Вера, «Верачка», табе не дагадзіць... То ён занадта падрыхтаваны да спаткання менавіта з табой, то занадта банальны... І гэтае раздражненне... А ўсё проста: ты яго не кахаеш. Можна падмануць тых людзей, якія, праходзячы міма, віжуюць, як вы абняўшыся глядзіце на зоркі. А вось яго і сябе — не падманеш... Нават і спрабаваць не варта...

Юрась жа, упэўнены ў бяспройгрышнасці моманту, павярнуў яе да сябе, каб пацалаваць. І сустрэўся з поглядам, што быў красамоўнейшы за словы і абдымкі. Пранізлівы погляд для выкладчыка — неабходны атрыбут, як навуковая ступень ці гучны лектарскі голас. О, гэты погляд, якім выкладчык са стажам можа лёгка спыняць коней, цягнікі і нахабных студэнтаў! Юрась расціснуў абдымкі, моўчкі правёў яе да пад'езда і нерашуча спыніўся на ганку.

Верагодна, для завяршэння выкладчыцкай тэмы гэтага спаткання Вера павінна была перахапіць ініцыятыву, пацалаваць яго ў шчочку і горача прашаптаць: «Я не дапускаю вас да здачы заліку». Але Юрася было шкада, яна пагладзіла яго па плячы і прымірэнча развіталася: «Дабранач».

* * *

З паштовай скрынкі тырчэў край неакуратна ўкінутага канверта. Вера так даўно не трымала ў руках папяровыя лісты, што не магла паверыць, нібыта гэты адрасаваны ёй. І не памылілася. Можна было ўкінуць ліст у скрынку адрасатаў, але можна і самой аднесці, бо суседка Паліна з прычыны зручнай лакалізацыі ды іранічнага

характару засталася, магчыма, той апошняй з магікан, каго яшчэ хацелася зрэдзьчасу бачыць.

— А што гэта ты так позна па паштовых скрынках шнарыш?

— Вярталася з адной несяброўскай сустрэчы.

— А дзе ж кавалер? Усё так дрэнна?

— А не можа быць добра, калі мужчына ідзе на спатканне не з дзяўчынай, а з выкладчыцай. І сам забыць не можа, і мне нагадвае...

— Дай здагадаюся. У яго не было накіравання з дэканата?

— Ды ўсё ў яго было, гэта ў мяне няма ні кахання, ні жадання з кім-небудзь сустракацца.

— Заходзь, гарбаткі пап’ем. Алег спрабуе пакласці спаць малых. Гэта надоўга.

З дзіцячага пакоя чулася «самалётнае» гудзенне старэйшага Полінага сына і бессюжэтны віскат малодшага. Алега не было чуваць. У калідоры ціха хаваўся кот, загартаваны суіснаваннем з малымі жывадзёрамі.

— Поля, часам я думаю, што мне не варта наогул хадзіць на спатканні: я толькі псую настрой сабе і хлопцам.

— Не хадзі на спатканне з тымі, каго не кахаеш.

— А як я даведаюся пра пачуцці, калі не буду хадзіць на спатканні? — засмяялася Вера. — Зачараванае кола. Ведаеш, на працы я вырашаю... не лёсы, а так сабе, эпізоды ў жыццях соцень людзей. Я потым прывыкну, а пакуль што гэтая адказнасць мяне прыгнятае. І я міжволі хачу пазбавіцца адказнасці ва ўсіх іншых сферах жыцця. Я ўвесь час вымушана выбіраць: «чатыры» ці «пяць», «дзевяць» ці «дзесяць», залічыць ці не залічыць... і Божа мой, якая розніца: чорную ці зялёную гарбату я буду піць у кавярні? Ці ж я на спатканне дзеля гарбаты пайшла?

— Вера, ты чапляешся да дробязяў. Хоць наогул у цябе дзіўная сістэма зацікаўленняў. На першым месцы — бясспрэчна студэнты. Праз дзесяць гадоў ты зразумееш, што яны ўсе розныя і аднолькавыя адначасова, але будзе позна. Бо на другім месцы — Сеціва. А хлопцамі ты цікавішся ў двух выпадках: калі яны студэнты альбо калі яны інтэрнэтныя. Ні першыя, ні другія не спрыяюць размнажэнню.

— А што такое размнажэнне? Зноў трэба рабіць выбар: хлопчык ці дзяўчынка? — блюзнерыла Вера. — Мне цяпер нельга даваць думаць, нельга даваць выбіраць. Я проста ўцяку. Мяне трэба ставіць перад фактам. Уяўляеш, легчы спаць і прачнуцца раніцой замужняй цяжарнай маці дваіх дзяцей... І я нікуды не падзенуся.

— Ясна, уцякачка. А як справы ў Сеціве? — пацікавілася Паліна. — Іду ў заклад, што ў цябе там ёсць такі ж самы нерашучы і рамантычны таварыш, які, узбіўшыся на трыццатнік, пазбаўляецца ад сваіх яшчэ студэнцкіх комплексаў праз перапіску з маладой выкладчыцай. Яна ж кожны яго электронны ліст раздрукоўвае і правярае з чырвонай асадкай, ставіць адзнаку, ад якой залежыць, ці будзе яна яму адказваць. Я патрапіла?

— Ты ніколі не памыляешся, — усміхнулася Вера. — Я насамрэч нічога пра яго не ведаю. У Сеціве лёгка падмануць. Нават фота можна даслаць чужое. Там можна верыць толькі ў стыль і пісьменнасць. З гэтага гледзішча ён бездакорны.

— Ты фанатка. Прызнайся, калі хлопцы просяць у цябе нумар тэлефона на вуліцы, ты спачатку ладзіш ім дыктант?

На кухню зайшоў муж Паліны з малодшым сынам на руках:

— О, у нас у гасцях кандыдат Вера Максімаўна! Як выкладчыцкае жыццё?

Забойчы погляд Веры на яго чамусьці не дзейнічаў.

* * *

Пісаць ліст віртуальнаму сябру пасля такой размовы не хацелася. Вера зайшла пачытаць блогі. Калі яна ўбачыла свежы запіс Юрася і плойму каментароў пад ім, здрадніцкі халадок пабег па спіне.

«Іх пазнаёмілі сябры, сямейная пара з дзецьмі. Яны разам ездзілі за горад. Гулялі са старэйшай дзяўчынкай у фрысбі. Так прыемна было бегаць і па-дзіцячаму захапляцца. Калі ён злавіў талерку-фрысбі і вырашаў, каму кінуць, яго новая знаёмая гулліва зірнула на яго, выпальваючы свой вобраз у ягонай свядомасці.

На наступны дзень яны сустрэліся ў горадзе. Гулялі па праспекце. Ён спрабаваў пераказаць ёй кнігу, якую нядаўна прачытаў.

Яна ветліва слухала. Увесь вечар ён распавядаў ёй пра сваё жыццё, пра тое, што было важным для яго. Яна дурнавата ўсміхалася, але раздражненне ўнутры яе ўзрастала. Адарваны ад жыцця аматар літаратуры...

...Ён узяў яе халодныя далоні, каб сагрэць у сваіх.

— У мяне ёсць тэорыя, чаму ў дзяўчат мерзнуць далоні, — ён зазірнуў ёй у вочы.

— Ты такі разумны, напэўна, шмат кніжак чытаеш, — злосна адказала яна.

Ён усё зразумеў, але нічога не сказаў. Ён праводзіў яе дадому, яны выйшлі з тралейбуса. Ён паказаў ёй Сірыус, Альдэбаран і пояс Арыёна. Яна ўсміхалася, ён смуткаваў. На развітанне ён абняў яе».

* * *

— Ну, гад! — шчыра абурылася Паліна. — Усё так і было?

— Ну, што ты! Гэта мастацкі твор. У судзе я безнадзейна прайграла б.

Напэўна, трэба было б паплакаць, але Вера адчувала, што гэта акурат той выпадак, калі смех можа з поспехам замяніць слёзы.

— Слухай, а чаму ты перажывала, нібыта ён камплексуе з прычыны твайго кандыдацтва і выкладчыцтва? Тут досыць адназначна напісана «дурнавата ўсміхалася». Гэта дакладна пра цябе?

— Тут яшчэ ёсць пра раздражненне і пра «злосна адказала». Гэта дакладна пра мяне. Ён сапраўдны мастак і тонкі псіхолаг, заўважае дробныя адценні дзявочага настрою. Ты цяпер мяне разумееш? Я проста вымушана дбаць пра сваю рэпутацыю і звяртаць увагу на стыль і пісьменнасць хлопцаў. Калі я ўжо такая неўшыбенна неверагодная, што пасля нават няўдалага спаткання са мной мужчыны пішуць творчыя справаздачы ў Сеціве.



## УСЕВАЛАД ГАРАЧКА

*Скончыў фізічны факультэт БДУ. Працуе на НВА «Інтэграл». Жыве ў Фаніпалі. Адзін са стваральнікаў літаратурнага руху «Бум-Бам-Літ» (вясна 1994). З 2005 года сябра Беларускага ПЭН-цэнтра, з 2006 — Саюза беларускіх пісьменнікаў. Вершы піша з 1992 года. З 1993-га выступае ў перыядычным друку: спачатку з вершамі, а потым і з крытычнымі артыкуламі, эсэ, кароткімі апавяданнямі. Аўтар кніг паэзіі «Пралетарскія песні» (2004, выйшла ў серыі «Другі фронт мастацтваў») і «Даты» (2004). Таксама суаўтар некалькіх кніг, у тым ліку «Тазік беларускі».*



*Т. Будовіч*

Калі кладуцца людзі спаць,
Выходзяць вершы баляваць —
Суквецці праўды і маны.
Яны трывожаць нашы сны,
Яны глядзяць у твары нам.
Прачніся — і пабачыш сам.
Прачніся! Але ты не спіш —
Хавае порах цвёрды пыж.

Пабачым ранкам твой улоў:
На нітках рытмаў нізкі слоў.



У двары смяюцца дзеці,
Радуецца свет жыццю.

А пісьменнік ганарлівы
Усё думае пра славу:
Ці вядомы ён? Ці лепшы?
Змрочна у яго душы,

Дзе на дне, нібыта шэлег,
Ён заўжды шукае вершы
І за іх купляе славу.
Стаў бы помнікам, каб мог.



Я — стары закінуты дом.
З непрыстойнымі надпісамі на сценах,
Са смуродам мачы па кутах,
З гнілою падлогай,
Усеянай бутэлечным боем.
З ахоўнікам,
Старым і дурным,
Які сам тут
Штовечара п’е,
А затым — б’е бутэлькі,
Мочыцца па кутах
І піша на сценах
Непрыстойныя словы.
Я — стары закінуты дом.



Бутэлька гарэлкі —
Гэта Сысовае вымя.
(Але не любая гарэлка
І не на кожным стале.)
Піце ж, маладыя паэты,
Гарэлку з Толікам —
Усмоктвайце паэзію
З яго «малаком».
А потым мачыцеся,
Як неразумныя немаўляты,
Як той жа Толік,
З балконаў,
Са сцэн,
У каміны.
Крычыце вершамі —
Можа, вас забяруць
У дзіцячы прытулак.
Адкрыеце вочы,
А тлустыя жонкі
Ужо выхоўваюць вас.
І зробіцца вам
Гэтак бяскрыла,
І пабяжыце вы ад іх
Шукаць Сыса,
І не знойдзеце,
Але знойдзеце
Бутэльку гарэлкі —
Сысовае вымя,
І ўсё паўторыцца зноў.



*В. Трэнас*

Буду берагчы твае вершы
На кніжнай паліцы
І ведаць,
Што нешта ў іх ёсць
І маё.
А потым
Вырасту з іхніх памераў
І выкіну ў смецце.
Адно суцяшае,
Што да гэтага часу
Вырасцеш ты.



Шчасце аказалася
Чорнай прамавугольнай каробкай.
Не надта лёгкай,
Не надта і цяжкай,
Але даволі вялікай
І вельмі нязручнай.
І ад гэтага дня
Я павінен быў
Насіць яе на руках.
Нехта зайздросціў мне
(Перш за ўсё тыя,
Хто таксама хацеў
Схапіць гэта Шчасце,
Але крыху спазніўся).
Нехта
Глядзеў на мяне,

Круцячы пальцам ля скроні.
А я
Ўсё насіў на руках сваё Шчасце
І не бачыў,
Што ў мяне пад нагамі.
І таму —
Аднойчы
Зваліўся са Шчасцем у яму.
Паглядзеў:
Рукі-ногі — цэлыя,
Шчасце — таксама.
Трэба цяпер выбірацца.
Але Шчасце:
Што з ім рабіць?
Зноў насіць на руках?
Пакіну яго лепей тут,
Скажу:
Разбіў сваё Шчасце...



**НАСТА ГРЫШЧУК**

*Вучыцца на журфаку БДУ, на кафедры перыядычнага друку.*

## Плач Пенелопы

Дзе ты? Столькі срэбранага смутку
Я наткала ў гэтыя гады.
Цягне долу стомленыя рукі,
Як самотных птушак да вады.
Доўгія бязветраныя ночы
Сустракаю ля дзвярэй ізноў.
Раптам сэрца стане — нехта крочыць!
Гэта ж толькі успамін прайшоў...
Так даўно не бачаныя рысы
Я у нашым сыне пазнаю.
І дрыжу: а што, калі ля Стыксу
Ты цяпер?
Вазьмі ж душу маю!
Ты пакліч мяне праз вусны смерці.
Страшна не памерці — страшна жыць
Без цябе адной на гэтым свеце
У распуснай, чорнай, злой ілжы.
Разлівае пачарнелы смутак
Горкую атруту па крыві.
Я цябе чакаць да смерці буду...
Толькі ты хутчэй за смерць плыві.

## Песня пра здарожаную душу

Здарожаная душа прысела на край гасцінца...
Далоні ўгару ўзняла, набрала вады дажджавой,
Паднесла да вуснаў сухіх, каб моцы прыроднай напіцца,
Каб смагу спатоліць — і з тым вярнуць паўзабыты спакой.

Здарожаная душа прысела на край гасцінца...
Бы стомлены ветрам птах і вечнаю барацьбой,
Што вырай шукаў паўсюль і марыў ля зор гняздзіцца,
Ды шлях назаўжды згубіў, падмануты доляй злой.

Здарожаная душа прысела на край гасцінца...
Схілілася да зямлі — халоднай, сырой. Чужой.
Нібы можа даць спачын калючы дыван ігліцы.
Нібы можа пухам стаць карэнне пад галавой.

Здарожаная душа прысела на край гасцінца...
Наперадзе — шэры дождж. За спінаю — чорны лес.
А ёй роднай хаты дух і квецень вішнёвая сніцца...
Так спала яна.
І дзень,
Бы кволы агеньчык, счэз.

І ўзвіліся карані, празрыстае сцяўшы цела.
І вецер сухой рукой з грудзей вырваў горкі ўздых.
Здарожаная душа на ростані скамянела,
Каб шлях — да ратунку шлях — быў бачны для ўсіх жывых.



Мая Беларусь — не балота.
Мая Беларусь — чысты бор,
Дзе ты разумееш, хто ты,
Дзе сосны да самых зор.
Блукае там Чорны Война.

Квітнее купальскі цуд.
І сэрцу майму спакойна,
Пакуль Беларусь — тут.

## У Вязынцы

Я нібыта прыйшоў дадому.
Нават вецер халодны — свой.
З плеч здымае самоту, стому —
І кідае ў сівы сувой.

Я нібыта ўдыхнуў паветра,
Што прынесла мне першы боль,
Першы крык, першы плач —
І з гэтым
На вачах немаўляці соль.

Я нібыта ступіў у хату,
Дзе пакінуў навек душу,
Дзе на самае светлае свята
Будуць продкі спраўляць імшу.

...Я стаю над жывой вадою.
Бачу сон пад песню вады:
Прачынаюцца мёртвыя воі.
Гінуць чорныя халады.



Я толькі дома чую словы шчырыя
І ад людзей, і ад сваёй душы.
Тут думкі, нібы тыя птушкі з выраю, —
Сядаюць на прадзедавы крыжы.

І слухаюць, як травы над магіламі
У цішыні спрадвечнае растуць.
Бярозы, сосны і крыжы пахілыя,
Не ў Рым — да вас мае шляхі вядуць.

*25.04.2011*



Я не ведаю, дзе ты. Не ведаю нават, хто ты.
І яшчэ ёсць пытанне: ці трэба мне гэта ведаць,
Калі глушаць усё мацней і мацней грымоты
І маланкі штодзень паласуюць без жалю неба?

Я малюся, каб ты не патрапіў у гэты шторм, — і
Разумею, што, як ні круці, ўсё адно патрапіш.
І цяпер я не чую ні страху, ні нават стомы
І жыву як раяль, што застаўся без нот і клавіш:

Рэжуць сала на ім, а пасля прададуць за злоты.
Тут надзея на цуд — да пагібелі шлях надзейны,
Бо не маг ты... Ды што там! Ты нават не Гары Потэр.
Я таксама мала падобная да царэўны.

Так банальна — і ўсё адно безнадзейна востра,
Хоць ты лезь на сцяну ў Пуцііўлі і плач да скону!..
Ці ўцякай на самы далёкі і дзікі востраў,
Каб убачыць, што гэткіх, як ты, там ужо мільёны.



Як сцішана, як мякка, як павольна
Злятае на зямлю апошні снег.
І нават час, да нас такі няўмольны,
Зачараваны, прыпыняе бег.

І дзякуеш зіме, што ў страшны вечар,
Які душу нянавісцю апёк,
Як рукі мамы некалі на плечы,
На боль пякельны снег халодны лёг.

## Паганская калыханка

Дзень — золата. Ноч — срэбра.
Пушча, дзе дрэвы — вечнасці рэбры.
Вецер — ручай, што ваду выплакаў.
Воўк свой адчай уначы выстагнаў.
А ў крумкача крылы чорныя,
Вочы шэрыя, вырачоныя.
Кроў барвовая, сонцам выспела.
Сонца села за чорнымі выспамі.
Прамяні яго, ой, гарачыя
Абпалілі крыло крумкачае.
І баліць яму ад таго агню,
І ляціць крумкач камнем на зямлю.
Ляціць-падае чорнай падаллю,
Стомленым знічом, зоркай малаю.
Зоркай малаю, ды крываваю.
Загаю, крумкач, рану я тваю
Ветрам-ручаём, што без вод цячэ,
Ды ваўчыным тым стогнам поўначы.
А калі памрэш — вечнасці аддам,
Пушчы жудаснай, векавечным снам.
Будзе той курган, дзе ты замаўчыш,
Залаты удзень, срэбны уначы.
І праз сотні год на сівы курган
Прыляціць твой брат — вараны груган.



Анёлы вучацца лятаць:
Нясмела распраўляюць крылы,
Упершыню спрабуюць сілы,
Уніз спалохана глядзяць.

Бяруць з аблокаў свой разбег —
І прама ў зорнае бязмер'е;
Зрывае вецер з крылаў пер'е.

А на зямлю злятае... снег.



У ноч калядную Дзяды
Збіраюць зорныя пасевы,
Каб не пабілі халады,
Каб не астужылі залевы.

Збіраюць у льняны хатуль,
Нясуць за казачную Прыпяць,
Каб потым вызваліць адтуль
Ды ў ноч купальскую рассыпаць.

Рассыпаць і чакаць:
Калі,
Калядныя пачуўшы спевы,
На Перуновае раллі
Узыдуць зорныя пасевы.



## АЛЕСЬ ЕМЯЛЬЯНАЎ

*Паэт, перакладчык, бард. Вучыцца на біялагічным факультэце БДУ. Друкаваўся ў часопісах «Дзеяслоў», «Верасень», тыднёвіку «Літаратура і мастацтва», калектыўных зборніках народнага клуба кампазітараў і паэтаў «Жывіца». Заснавальнік (разам з А. Вальковым) музычнага гурта «аРБа». Нарадзіўся ў 1987 годзе ў Крычаве, жыве пад Мінскам. Творы перакладаліся на польскую і сербскую мовы.*

---

### Арменія

*(паэтычны трыпціх)*

> Орущих камней государство —
> Армения, Армения.
> *В. Мандэльштам*

### I

Караундж* глядзеў на калядныя зоры
вачыма галодных каменных адтулін,
нібыта цыклопы ў пярэстай прасторы
з дазволу суворага часу паснулі.
Бадзяцца па зорным чужым лабірынце
я ў мроях сваіх нечакана паехаў
туды, дзе мацней арыяднінай ніці
камення спрадвечнага зычнае рэха,

---

* Караундж — найстаражытнейшая абсерваторыя.

дзе вецер салоны бядзе спачувае,
зямля пад нагамі паэта спявае:
«Каб музыка шчырага сэрца не ўмёрла,
крычы, не шкадуючы хворае горла...»

І — крыкнуў!
Шалёная воўчая зграя
жахлівыя іклы свае агаляе...

**II**

Крышыцца грыфель, трывае папера,
крычма крычыць у паэта душа.
Муза-пакутніца моўчкі сышла,
каб нарадзіцца ў наступную эру.
Чуеш, як гучна вібруе струна? —
гэта ад сну ачуняла яна.

**III**

І зноў у срэбры год знікае,
нібы ў трызненні прамаўляе:
«Краіна, дзе крычыць каменне, —
Арменія, Арменія...»

## Парасонечнасць

*Л. Рублеўскай*

парасон
пакінуты гаспадаром
у вітальні чужой кватэры
падчас святочнае вечарыны
жадае быць скарыстаным
належным чынам
раскрывацца ад дотыкаў дажджу
і ўбіраць празрысты атрамант

якім піша вершы
непаслухмяны вецер
а потым сядзець на падлозе
выпраўляць памылкі
дапушчаныя нябачным аўтарам
рабіць найнатуральнейшую рэдактуру

## {tramwaj}

Рахманы паўночны трамвай,
які не ідзе на поўнач,
прывык уначы вандраваць
і цемраю вочы поўніць,

як рэйкі раптоўна ўверх
выструньваюцца ў нябёсы.
Ну вось вам і свежы верш
пра незвычайнасць лёсу.

Рамантыка, скажаце вы?
Магчыма — не запярэчу.
Трамваю таксама карціць
хоць раз зазірнуць у вечнасць.



Содні дзяжурства прайшлі амаль незаўважна:
у аддзяленні для хворых
з ВПМК* ніхто не памёр.
Кагосьці кармілі праз зонд,
і праз гэта сястру ледзь не зблажыла,
кагось ратавалі,

* Вострае парушэнне мазгавога кровазвароту.

а хтосьці ў хваравітым трызненні
ляцеў да зор.

Пацыенту з чацвёртай здымалі кардыяграму,
а ў суседа ягонага бралі тым часам кроў;
хадзячыя бегалі
па «пладова-выгоднае» ў краму,
а ўвечары пад звон кілішкаў
чулася: «Будзь здароў!»

Нямоглых лекавалі кропельніцамі,
пігулкамі і суцяшэннем,
на што тыя злаваліся й лаяліся:
«Мацеру тваю так!»
...Содні дзяжурства
прабеглі амаль без здарэнняў,
ну, дзякуй Богу, вось каб заўсёды так.



*Віталю Скалабану*

сябе шкадуючы пакутна разумець
што ўсё мінае а калісьці й ты мінеш
але ж
пакінуць мусіш па сабе
хоць невялічкі верш
пра тое што калісьці ўсё мінае
і можа твой нашчадак прачытае
і тэж захоча ў напамін пакінуць верш
але ж
ён будзе думаць толькі пра сябе
як некалі і ты
разлічваў застацца назаўжды
але ж

ты існуеш
пакуль ты выпраўляеш
свой адзіны верш
бо ўсё часова
а калісьці й ты мінеш

*18.08.2011*

## Радаўніца

Ідучы праз поле нашай памяці,
мы не ведаем, па чыіх костках ступаем,
але ж дакладна ведаем,
што ідзем па парэштках.
Радуемся, бо ведаем, што мы яшчэ не зямля,
дакладней, што яшчэ не мы.
Сцяжына ў лесе, паабапал каторай крыжы.
Сцяжына вядзе да трох крыжоў.
Ценькаюць птушкі, шныраць звяры,
зелянее трава, красуюць пралескі,
сонца, як велікоднае яйка,
малюе ў небе крыж —
мы глядзім і падаем ніц,
бо яшчэ жывём,
маркоцімся, бо ведаем, чаго чакаць;
крыжы не патрабуюць шчырасці.

## Я на...
*(трыпціх трохасабовы)*

### I

Калі яна прачынаецца ў ложку з *лю*бым,
устае і глядзіць на сонца — яно заплюшчвае вочы.
— З кім ты, мілы, цягаўся заўчора паўночы? —
яна, як ніхто, ўмее ставіць пытанне рубам.

— Ты што, мне не верыш?!
— Ды дзеўкі гурмою
за табою ўпадаюць — дай табе толькі волю!
Ён хапаецца за галаву, лаецца, як ніколі
не лаяўся, смачна плюецца ў столь і
з усмешкаю кажа:
— Заўчора я здраджваў табе з табою...

### II

яна ў вёсцы сваёй першая прыгажуня,
яе рукам пазайздросціла б нават Джуна,
яе дом атачаюць прылуцкія джунглі,
і чыгунка струною пяе;

вывучаеш упарта расклад электрычак:
развітанне — прыемная ўсё ж акалічнасць,
калі заўтра спатканне за шчасце палічыш —
ты не можаш ужо без яе.

выглядаеш, магчыма, крыху апантаным,
выдзіраючы з клумбаў усе туліпаны;
што ж датычыцца псіхічнага стану —
вар'яцееш і ў краме вітрыны б'еш.

з ёю побач жыве дух раўнівіцы Геры,
яе атакуюць першыя кавалеры,
табе меней даводзіцца крэмзаць паперы,

а яшчэ ты не верыш, не верыш, не верыш,
што прачнешся калісь без яе.

## III

> ...я хотел бы, чтоб меня нашли
> оставшимся навек в твоих объятьях,
> засыпанного новою золой.
>
> *Іосіф Бродскі*

па вясне пачынаюць усе пакрысе вар’яцець,
і смерць ужо не ўспрымаецца
менавіта як смерць,
асабліва калі жлукціш пятую пляшку за вечар,
бо каштуе танней, чым пачак звычайнай паперы;
што тут скажаш яшчэ, ну, па крайняй меры, —
auf Wiedersehen, мая шматпакутная печань.
і калі б не ты, маё шчасце,
я б, напэўна загінуў,
менавіта! радасць мая, я мушу сказаць табе —
ты кахаешся, як багіня!
заканчэнне святла і тым больш канец свету
не палохае — цемру глытаем, як дым цыгарэтны,
а выгнаннік Іосіф дакладна меў рацыю:
хай у прорву ляціць і бурыцца цывілізацыя —
і ўжо неістотна, што паміж намі —
далёкасць ці блізкасць —
я б застацца хацеў у абдоймах тваіх,
засыпаны новым прыскам

## 07.01.2012 ад Р.Х.

...і апоўначы ў вокнах тваіх не патухне святло
дзесь на ўсходзе сталіцы, на сёмым паверсе
трое ў белых адзеннях збяруцца ў цябе за сталом,
як сказана ў адной з распаўсюджаных версій

звяжуць рукі за спінаю, і, невядома чаму,
на пытанне імя ты адкажаш: марыся
дадасі, што іосіф сышоў роўна як год таму —
не паверыў, што сын ад святога з'явіўся;

і цябе забяруць на малочна-чырвоным аўто,
бо такую адну пакідаць небяспечна...
па-ранейшаму ў вокнах тваіх не патухне святло
й будзе лялька ў калысцы спяваць: «Святы вечар...»

## Бурштынавыя вершы

Верш — імгненне, выхапленае ў вечнасці
і застыглае на паперы,
нібы закрышталізаваная ў бурштыне кузурка,
травінка ці каменьчык.
Першыя вершы пісаліся менавіта бурштынам,
ён надта ўдала вычапляў вобразы
і аблямоўваў іх у непаўторную форму,
метафарычна спалучаў немагчымае.
Яго ўдасканальвалі і рэдагавалі
марскія хвалі,
і вершы, давершаныя імі,
мы бачым цяпер, праз тысячы тысяч гадоў.
І напрыканцы я не стаўлю кропку,
бо я за давершанасць
бурштынавых вершаў.



## МІКОЛА КАНДРАТАЎ

*Нарадзіўся 20 мая 1957 года ў вёсцы Замосце на Талачыншчыне. З 1981 года жыве і працуе ў Мінску. Аўтар паэтычных кніг «Возера Рудакова» (2002) і «Вершы і зоркі» (2008).*



Што можна новага сказаць
у свеце, што стары, як мора?
Калі пагас былы азарт,
калі прамоўлена так многа
слоў, што згарэлі на кастры
ці патанулі ў водах Стыкса...
Магчыма толькі паўтарыць
з таго, што свет паспеў забыцца.



Белыя змеі
паўзуць па скаванай марозам зямлі,
служкі зімнай завеі.
Белыя змеі
шыпеннем сягаюць да голых галін,
снежных дахаў і вясніц.
Белыя змеі
замерзлае ссуць малако
з вымя рэк і азёраў.
Белыя змеі
імкнуць паасобку, то цэлым клубком

у халодныя норы.
Белыя змеі
над кожнаю згубленай летам душой
непадзельна ўладараць.
Белыя змеі
шукаюць за позняй начною мяжой
цёплай ахвяры.

## Чалавек-крыніца

*Памяці Віталя Скалабана*

Хай нехта не захоча тое слухаць.
Але ці можа сэрца памыліцца,
што ў чалавека, велічнага духам,
ёсць на зямлі не дрэва, а крыніца?

Крыніцы паміраюць, як і людзі,
з вякоў, даўнейшых ад часоў Элады:
іх моўкнуць галасы, цішэюць грудзі —
бы нітачкі знікаюць Арыядны,

што нас лучылі з роднаю зямлёю,
нібыта карані, душу жывілі,
ад смагі ратавалі неўцямлёнай,
каб людзі ў тлумным свеце не забылі

мар пра глыток крыштальны, як аб цудзе:
адрозніваць сваё ад чужаніцы.
І Беларусь заўжды жывою будзе,
пакуль яе не высахнуць крыніцы.

Без велічнасці ж воля не прысніцца —
брысці натоўпам зноў да вадапою...
Калі сыходзіць чалавек-крыніца,
яго не ажывіць жывой вадою.

## Паэт-камікадзэ

Вымагае эпоха глынуць мухамораў сухіх,
каб зайсціся ў шчаслівым экстазе.
І на змену ямбічна-харэйнаму культу
прыходзіць паэт-камікадзэ.

Ён гатовы ўзарваць гэты свет састарэлы,
чуллівы і рытмізаваны,
і ідуць праз пустэльні стагоддзяў былых
дзёрзкіх вершаў яго караваны.

Бы павук — павуту, ён звівае са слоў маладых
чорна-белае дзіва.
Нібы з Ніла, з яго выплывае драпежна
зялёная здань кракадзіла

да Венеры з аголеным станам,
што лашчыцца ў хвалях атласных.
Зараз шчоўкне зубамі — і кроў афарбуе сусвет
у вачах ашалелых і жарсных.

Рым стары задрыжыць, заімгляцца шляхі,
што вядуць да яго, і дарогі.
Засмяецца злавесна з глыбіняў прадоння
спадар казланогі —

перамозе чарговай сваёй
і часова прыніжанай праўдзе,
калі крыкне — уласнаму лёсу — «Банзай!»,
нібы зомбі, паэт-камікадзэ.



Заблішчаць купалы на Купалу
ад высокіх паганскіх кастроў,

нібы з даўніх стагоддзяў паўсталых,
каб сагрэць нашу кволую кроў.

І ў глыбінях душы адгукнецца
патаемнае нешта, як звон.
Сэрцу некуды будзе падзецца,
сэрца мусіць скакаць праз агонь.

Вусны вуснаў крануцца нясмела,
сэрцы смеласці вуснам дадуць.
А пасля, распрануўшыся, целы
у купальскую ступяць ваду...

У сучаснай заблытанай драме
нібы краты над намі вісяць.
Толькі наша спрадвечная памяць
прагне Папараць-Кветку шукаць.

## Скарпіён

вакол суму майго
запляліся галіны ў вянок.
*А. Сыс*

Кастрычніка кастрамі не сагрэеш —
і застаецца думаць пра экстрым.
А неба так марозна ружавее
і пасыпае шэранню з кайстры.

Такой парой прыспела нарадзіцца,
калі лістоту скінулі лясы
на Пакацігарошкавай радзіме,
і бедны свет ад холаду азыз.

Цяпер для ўсіх нібыта аксіёма,
што лёс яго маланка апякла,

загартаваўшы джала Скарпіёна,
што прабівала сэрцы, як страла.

Быў час нядоўгі — дні яго мінулі —
гучалі з вуснаў словы ад багоў.
А ў горычы пустой з імпэтам кулі
хандра змяёй уджаліла яго.

Такім, як ён, лягчэй у цемру скону
сысці, чым жыць у звыклай тут журбе.
Кароткі часам век у Скарпіёна,
што ў роспачы палюе на сябе.



Вясновая струна,
аблашчаная залай,
бы ў келіху віна,
у сэрцы загучала.

І голас ёй услед,
памкнуўшы слоў падковы,
рассыпаў весялей
алюр французскай мовы.

І трэснуў лёд журбы
ў душы, што за імгненне
успомніла нібы
былое ўвасабленне,

калі, забыўшы страх
ад вечара да ранку,
глядзеў, нібыта ў рай,
я ў вочы парыжанкі...

І вось — о, цуд дальбог!
Як развітання водгук

на мосце Мірабо,
убачыць тыя ж вочы —

з недасягальных мар,
што прарасталі снамі —
у іх шумеў Манмартр
і зіхацеў агнямі...

І быў гатовы зноў
я тым вачам адкрыцца,
ды толькі ў скронях кроў
сцвярджала: «Ты — не рыцар!..»



Пагляды размаўлялі пяць хвілін,
нібы гайдалі лёгкія арэлі,
на мове, зразумелай толькі ім.
Калі і пазнаёміцца паспелі?

Вялі гаворку, бы ў краіне кроз,
крыху наіўна і амаль узнёсла.
Не замінаў ім розны наш узрост,
нібыта не было зусім узросту.

Яе пагляд імкнуўся да майго,
нібы не абяцаючы расстання:
нямыя словы — лёгкія, як здані —
ляцелі, нібы мятлікі ў агонь...

## Карціна юнацтва

Гарэзлівая, быццам кацяня,
нібы з клубком, гуляецца са светам.
Свае пачуцці шчырыя яна,
нібыта птушак, выпускае з клетак.

Зіма ці восень для яе — вясна,
асветленая сонейкам ружовым,
мкнуць ручайком, які не знае дна,
усмешкамі аздобленыя словы.

Яна з сябрамі ў свой маленькі рай
не замінае вокнам расчыняцца...
За ёю так прыемна назіраць,
бы смакаваць глыткі з крыніцы шчасця.



Мае развязка быць простай:
розум з душой памірыцца.
Узрост вымагае прозы,
як дараванай ісціны.

На скразняках позняй восені
першым павеяла холадам.
Зоркі ў нябесным возеры —
кроплі застылага волава.

Дзень уладарыў над лёсамі,
ноч плача белымі росамі...
Пэўна, для прозы бяскрозавай
мне не хапае цвярозасці.

Бо, як на споведзь да Бога,
кожнай спяшаецца раніцай
сэрца дзяўчынкаю босай —
і не баіцца параніцца.



## НАТАЛЛЯ КАПА

*Нарадзілася ў 1973 годзе ў Мядзеле. Скончыла філалагічны факультэт БДУ. Жыве ў Мінску. Працуе ў часопісе «Нёман». Аўтар некалькіх зборнікаў паэзіі.*

### Копша

На сумных могілках — асенняя маркота.
Пакрыўся дол пажоўклаю лістотай.
Спакой і ціша. Толькі асцярожна
ўздыхае ля разбуранай капліцы Копша.
Ніхто спакою мёртвых не трывожыць —
за краем могілак глыбокі роў.
Да жудасць цішыні сышлася над кладамі
і быццам цісне непражытымі гадамі,
і мёртвы холад студзіць ў жылах кроў.

Калі ты прыйдзеш на маю магілу,
дзе ціша днюе і начуе,
пагавары са мной, о, дружа мілы, —
я тут, і я цябе пачую.



## ІРЫНА КАРЭЛІНА

*Нарадзілася ў 1990 годзе ў Віцебску. Студэнтка Інстытута журналістыкі БДУ (друкаваныя СМІ).*



Ты прагнеш кахання, я прагну спакою.
Сышоў — запаліла святло у пакоі,
завесіла вокны дрыготкай рукой —
і стаў шчэ пусцейшым знямелы пакой.

Ты шчырасці хочаш, а я — пагатоў,
бо ў горле — камяк непрамоўленых слоў,
якія загінуць ці вырвуцца вершам.
Ты чуеш, вяртайся... На шостым паверсе

пад коўдрай, нібы пад надзейнай бранёй,
я зноў... захлынаюся... цішынёй...



Дарога з ліхтароў знікае ў небе,
па ёй імчыцца прывідны трамвай.
А мы стаім, прырослыя да глебы,
і вабіць нас зіхоткі небакрай.

Ты стомлена жартуеш: «Мы анёлы
без крылаў, ну а значыць, без турбот».
І тут жа апускаеш вочы долу,
узгадваючы леташні палёт.

Глядзі, увішны снежань беліць дахі,
накідвае карункі на галлё...
А між лапатак звыкла прагне ўзмаху
...радзімка, дзе раней было крыло.

А зрэшты, не глядзі туды, не трэба,
там жорны мелюць снежную муку.
Ты кажаш: «Ды нашто нам гэта неба»,
да болю мне сціскаючы руку.



Брукаванка са зліткаў золата
у святле ліхтароў.
І, начной цішынёй праколатая
да глыбінь і асноў,
я блукаю па зорных вуліцах,
удыхаючы пыл.
Мне здаецца, вось-вось перакуліцца
у ваду небасхіл.
Гэты горад на беразе вечнасці —
заканчэнне дарог.
Там, дзе мора зліваецца з млечнасцю,
пачынаецца Бог.
Я іду па аблоках акацыі —
скрозь пялёсткавы рой.
Нават тут, на цэнтральным пляцы,
можна слухаць прыбой
і адчуць — кожнай цела клетачкай,
да скразной нематы:
там, дзе мора зліваецца з млечнасцю,
пачынаешся Ты.



Я падаю ў бездань
Наўмысна, няўмольна.
Я падаю ў бездань —
І гэта не сон.
Глынаю сінечу, прапахлую соллю,
І поўню, якая сцякае павольна
На ціхі, працяты святлом Ланжэрон,
Дзе бераг пяшчотна вылізваюць хвалі,
Дзе месца няма ні самоце, ні жалю,
Ні думкам —
Вірлівым, скамечаным, змятым...
Дзе водар у ветру
Дурманліва-мятны.
Дзе мы басанож па астылым жвіры —
Туды, дзе ніколі не скончыцца жнівень.



*Людміле Рублеўскай*

Знікаю я ў бяздонны надвячорак,
нібыта развучылася лятаць.
Мяне шпурляюць пад чужыя зоры,
мяне не навучылі іх чытаць.
Пазбавілі нябёсаў, крылаў, мовы,
ці я сама пазбавіла сябе...
І паляць вусны словы, словы, словы,
якія Вы прамовілі ў журбе.
Пра хвалі, што працягваюць Вас гойдаць,
пра тых, хто ўсё жыццё шукае шлях
дадому. А калі нарэшце знойдуць,
то будуць пачувацца бы ў гасцях.

На тым шляху няма дарожных знакаў,
куды ні кроч — крыжы, крыжы, крыжы...
Наўрад ці хтосьці дойдзе да Ітакі
па гэтай, даўжынёй у смерць, шашы.
Мы аб камянні родныя разбіцца
не зможам. Аб чужыя — пагатоў.
Нічога я не памятаю, быццам
у галаве няма знаёмых слоў.
І я іду ў натоўпе іншаверцаў,
іду сярод бяскрылых і глухіх.
Але складаю вершы, вершы, вершы...
Таму што больш не пішуцца «стихи».



## ІГАР КЛЕПІКАЎ

*Нарадзіўся ў 1971 годзе ў Варкуце. Зараз жыве ў Мінску. Працаваў у выдавецтве «Беларуская энцыклапедыя».*



...Толькі нехта сказаў да мяне
Пра ўсё гэта. І лепшымі словамі.
Нібы ўзняўшыся над галовамі,
Бачыў неба блакіт па вясне,
Бачыў птушак, якія дамоў
Шлях шукаюць стамлёнымі крыламі
Над лясамі, палямі застылымі,
Над балотамі ў край сваіх сноў...
Толькі нехта сказаў да мяне
Пра ўсё гэта, і лепшымі словамі.
І радок той душу ахіне
Пад нябёсамі вечна новымі...



Мне пакінулі Слова,
Не сказаўшы — навошта.
Мне пакінулі Слова —
Да лепшых часоў.
Я, скрывіўшыся, думаў:
Лепей кінулі б грошай.
А была бы нагода —
Сабе б Слова знайшоў.
І забыўся на Слова —

Закацілася ў дзірку,
Закацілася ў цёмны
І запылены кут...
І ніхто не заўважыў,
Што вакол пацішэла,
І не Словы, а слоўцы
Сёння чуюцца тут.

## Рэквіем лету

Горад астывае...
Спрабуючы ўтрымаць цяпло,
Наколвае неба
На парасоны і антэны,
Спрабуючы закрыцца
Небам, нібыта коўдрай,
Ад касмічнага холаду...
Але павуцінне дажджу
Ірвецца так лёгка...

## Студзеньскія сны

Белыя сцягі зімы...
Толькі хто тут здаецца ў палон?
Мы...
Ланцугамі скаваныя дзён,
Безнадзейна спрабуем размыць
Сон...

Але некалі скончыцца — і
Знікне сам у кружэнні гадзін
Ці
Ператворыцца ў іншыя сны...
Толькі доўга яшчэ да вясны...
Спі...



## НАТАЛЛЯ КУЧМЕЛЬ

*Нарадзілася 4 ліпеня 1964 года ў Мінску ў сям'і медыцынскіх работнікаў. Пасля атрымання сярэдняй адукацыі ў 1981 годзе паступіла на філалагічны факультэт БДУ. Працавала карэктарам, стыльрэдактарам, перакладчыкам у навуковых выдавецтвах і перыядычных выданнях. Цяпер працуе карэктарам у РУП «Выдавецкі цэнтр БДУ». Друкавалася ў часопісах «Першацвет», «Маладосць», штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва» і іншых. Кніга паэзіі «Імгненні» пабачыла свет у выдавецтве «Мастацкая літаратура» ў 2005 годзе.*



*Паводле сюжэтаў «Тысячы і адной ночы»*

— Здурнела! Сорам на вачах губляеш!
Пагардліва зірнуўшы спадылба,
Ўсясветнаму цару ты адмаўляеш
І да грудзей штомоцы прыхінаеш
Нахабнага і брыдкага раба!
І цар, адрынуты, абагаўляе
Тваю між смецця знойдзеную рэч,
А раб каравы твар свой прыкрывае
Ад пацалункаў і цябе піхае,
Нібы свінню: «Пайшла, пачвара, прэч!»

— О той, хто загаворвае сурокі,
Дапамажы, бо звяну, як трава:
Самаадданы, юны, яснавокі,
Мне цар не мілы; нічые папрокі
Не дапамогуць: чую толькі крокі
Карослівага чорнага раба.



Мяне не слухаюцца рыфмы,
І верш — той нудны гук, калі
Тужліва ўслед сапраўдным рыпнуць
Калодзежныя жураўлі.

Паперы — мо на трыццаць столак,
Ды аднаго няма на ёй:
Як вылузнуўся з ночы золак
І раскрываецца зарой.



Туман ярам, ярам-даліною...
*З народнага*

Туман ярам... Плятуцца стужкі туману
Вакол чорных хмызоў, вакол елак малых.
Але ім устыдацца тонкага стану
І празрыстых веяў тваіх.

Пералеска ўскіне сцяблы маладыя
У глухіх вільготных ярах вясной —
І падасца, быццам хлапечай шыі
Не ўтрымаць галавы буйной.

І, нібыта аскепак светлага лёду,
Аплывае сэрца весняй парой.
Толькі позна — згінулі насалоды,
Толькі сцюжай цягне з яроў.



Піск, гоман, скокі, вогнішча ўначы —
І ціхі светлы хлопчык пры плячы.
Усенькі час — праз крыкі і пяянне —
Прысутнасці ягонай адчуванне.
Адданасці і прагі повен рух
Празрыстых воч і загарэлых рук.
І кожны міг пасоўвае няўмольна,
Нібыта гайку па разьбе, павольна
Насустрач: мне — яго, яму — мяне...
Нас непазбежнае не абміне:
Ні разгаранне, ні згасанне страсці.
Адно ж было — на самай справе — шчасце:
Піск, крык, пяянне моладзі ўначы —
І незнаёмы хлопчык пры плячы.

## Песня

Каханы мой вячэраў у доме маім, у сціплым і бедным пакоі; і не зайздросціла я гаспадыні маёй у пышных яе палацах.

Валасы твае пахнуць ветрам, цела тваё пахне хлебам, семя тваё пахне горкай травой палявой.

Сонца ўзыходзіць — залоціць шаты соснаў ды кіпарысаў; сонца сыходзіць — ты са мной застаешся.

Валасы твае пахнуць ветрам, цела тваё пахне хлебам, семя тваё пахне горкай травой палявой.



Маці сына й выправаджала,
А месяцам падперазала,
А зораю засцібнула,
А доляю агарнула...
*Вясельная песня*

Як цяжка спалучаць
Пачуцці маці — і любоў жанчыны.
Як цяжка — але толькі не з табой:
Ты і ў каханні застанешся сынам.
Не маці — я цябе падпяражу
Халодным срэбным месяцам; і зору,
Як фібулу, замкну пад падбароддзем
(От хораша пяецца ў даўніх песнях!);
І доляй агарну, нібы плашчом:
Нясі старожка чару — не пралі —
Да той, танюткай і доўгавалосай,
Якую згадваў, толькі адступала
Абдымкаў нашых злітнае шаленства.
Дзе хочаш будзь. З кім хочаш будзь. А я
Парадуюся за цябе здалёку —
Бы тая, з песні, што на раздарожжы
Стаіць, страчаючы вясельны поезд,
З іконаю — і з чаркай у руцэ.



Зямля, дзе мяжуюць глыжы і будылле
З крыжамі;
Дзе ржавыя косткі змяшаны з жалезам
Іржавым;

І ўсё гэта сплёты здзічэлых малінаў
Хаваюць ад свету...
Калі Бог і праўда зляпіў мяне з гліны —
То з гэтай.



Цераз якую муку вызнаем,
Чым дзячаць добрым, шчырым і адданым,
І потым — выпадковым аддаем,
Што не насмеліліся даць каханым.
І помняцца такіх спатканняў сны
Тым саладзей, што адыходзяць з ночай...
...Як лёгка з выпадковымі — яны
Запомняць нас такімі, як мы хочам.



Анёл, у лёце над зямлёю
Згубіўшы галаву,
Упаў, абняўшыся са мною,
У мокрую траву.
Вышыні горняга спакою
Сабой разбіў, як шкло, —
І ўпаў, абняўшыся са мною,
Каб мне мякчэй было.
Але і зрынуты з нябёсаў,
Расплюснуты аб дол
Звычайным чалавечым лёсам,
Усё адно — анёл.



## ДАР'Я ЛЁСАВА

*Дар'я Лёсава (Дар'я Лосева) нарадзілася ў Мінску ў 1985 годзе, вучылася ў Мінскім дзяржаўным каледжы мастацтваў, скончыла мастацтвазнаўчае аддзяленне БДУ. Працуе ў Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры. Аўтар кнігі вершаў «Туга зямная» (2012).*



Я Табе не сказала так многа,
Што павінна калісь сказаць!
Запылілася рана дарога,
Пацямнела ад слёз сенажаць.

Я стаю пад адкрытым небам,
Замятае мяне туга.
Маё золата, маё срэбра,
Весялковая ў небе дуга!

Што з табою? Шапні мне ў сэрца!
То маланкі мне шлеш, то гром.
То вясёлкаю сум здаецца,
То — як птушка ўляцела ў дом!

І такая ціша над краем!
Што ў цішы мне Табе сказаць?
Я бясконца Цябе гукаю!
А нябёсы... Нябёсы маўчаць...



*Янку Сіпакову*

Мо я прывідам шчасця
У пакутным жыцці?
Мне былінкай завясці
У асеннім лісці?
Не, не згодна, не згодна!
Я паўстану ў зары!
Я ж — ад сэрца народа,
Яго чую знутры!
І патрэбна ж, напэўна,
Мая песня цяпер.
О, вайны пакаленне,
У мяне хоць павер!



Я шчасця хачу, шчасця!
Такога, каб захлынуцца!
Каб да зямлі прыпасці,
Калі слёзы льюцца.
Каб з вышыні нябеснай
Думаць, што я — зямлянка,
Што я — ад матчынай песні,
Ад жытняе калыханкі!



Як жураўка — імкнуся я ў высі,
Дзе заўсёдная радасць душы.
Ты не ўбачыў мяне паблізу...
А здаля — цяпер не тужы!

Ды так хочацца — зырка-ярка
Пасвяціць Табе з зор уначы.
Глянь: танцую на хмарках!
Глянь: бегаю ў небе!
Падзівіся і памаўчы...



*Памяці Віталя Скалабана*

Вадзіў па Кальварыі...
Жыццё мне падарыла
Цудоўнае знаёмства
Са светам соснаў.
Я — тое задуменне
Нясу, нібы праменне
Святлістых сёння слоў.
Удзячнасць — зноў і зноў.
Ваш вобраз — паміж сноў.
І зноў Вы — як жывы,
Між дрэў, сярод травы.
Шчыміць мая душа...
У туманах — шаша,
Навек што Вас забрала
Ад нас зусім зарана.
І во ўжо ў Вашу памяць —
Лірычных вершаў замець.
Шчыміць мая душа...



Я люблю гэты снег,
Што падае густа,
Калі ў снезе дамы
І на вуліцах пуста.
Рана ўлягуцца спаць,
Склаўшы ў ложак клапоты.
Толькі я тут спяваць
Буду доўга — употай.

Буду доўга хадзіць
Ля блакітнага дома,
Буду трызніць і сніць,
Бы Табе ўсё вядома.
І прызнаюся горка:
Мая выдумка, можа,
Быццам небная зорка,
Ззяе сёння прыгожа...

Колькі ўжо так было!
А праз час — анічога!
Толькі неба святло,
Толькі ў сэрцы трывога.
Але хай жа — як ёсць:
Гэты снег, гэта радасць.
Хай і Ты — толькі госць,
Але з Вышняга Саду!

## Маналог Агінскага

Развітанне з Радзімай,
Развітанне з сабой.
Так ніхто не абдыме
З векавечнай журбой.
О, галубка — Айчына,
Ты таксама тужы!
Прыгарні свайго сына
і «вярніся» скажы.
Гэтак блізенька далі!
Неба зорнага коўш.
Вось мяне й прычакалі.
Я праліўся, як дождж.



Мне падабаецца твой сум,
Самота гэта — пазалотай.
Трывожна песню я нясу
Употай.
Як цесна сэрцайку ў грудзях!
Як горка, што ў Табе — імгненнем!
А я хацела б — гэты шлях
Дарогай песеннай, натхненнем!
Ах, ды куды мяне нясе?
Пра што ізноў так дзіўна мару?
І стужка, што ў маёй касе, —
Агніста-восеньскім пажарам.



## РАГНЕД МАЛАХОЎСКІ

*Нарадзіўся ў 1984 годзе ў пасёлку Сяймчан Магаданскай вобласці (Расія). З 1987 года жыве ў Беларусі. Скончыў факультэт фінансаў і банкаўскай справы Беларускага дзяржаўнага эканамічнага ўніверсітэта. Працаваў у часопісах «Полымя», «Бярозка». Цяпер — адказны сакратар часопіса «Маладосць». Займаецца фотамастацтвам, піша музыку. Рэгулярна выступае з літаратурнымі творамі ў рэспубліканскай перыёдыцы, калектыўных зборніках і анталогіях. Вершы пераклакладаліся на рускую і балгарскую мовы. Аўтар паэтычных зборнікаў «Беражніца» (2005) і «У дзённай мітусні» (2012).*

### Не ўмёрлі мы

Абернецца бясконцасць у імгненне,
І на камлыгу лёсу лягуць слёзы.
Патрэсканае вечнасцю каменне
Распаліцца карой старой бярозы.

Спакус былых развеюцца пажары,
Што чыстыя памкненні спапялялі.
Жыцця пад дых знянацкія удары
Нас падаць на калені прымушалі.

Імчацца коні памяці бязмежнай.
Глыбокай ночы высахла рака.
З далоні немаўляці незалежнай
Свет зведаў водар краскі-васілька.

Прасветліцца свядомасцю сумленне,
Туман надзей ахутае дамы.
Сябе спазнаўшы, наша пакаленне
Дакажа свету, што не ўмёрлі мы.

*2002*

## Шлях да цябе

*Н. Н.*

За кратамі касмічнай цішыні
Твой голас чысты і недасягальны.
У чорнай, некранутай вышыні
Я страціў да каханай шлях астральны.

Блукаючы і ў ноч, і ў ясны дзень,
Знікаючы ў жыцці, як думак кола,
Убачыў, як надзей маіх прамень
Высвечваў з цьмянай шэрані анёла.

А багна слоў
Засмоктвае мой свет.
Правал у бездань.
Шлях святла не мае...

А недзе,
Сярод тысячы планет,
Мігціць твая
Адзіная, жывая...

Мне вусны ценька горкі лёс кране
Засохлаю гартэнзіяй настрою,
Бо голас твой застаўся для мяне
За вечнасцю касмічнага спакою.

*2003*

## Паэт і кат

Паэзія —
Душы нясцерпны боль,
А плач —
Пакора прад магутным словам.
Забойцу-кату знак падаў кароль,
Ухвалены натоўпу дзікім ровам.

І над паэтам меч, нібы крумкач...
Заплакала цнатлівая гартэнзія.
Боль, выліты праз слёзы, —
Проста плач,
А словам выказаны боль —
Паэзія.

*2004*



На Плошчы Незалежнасці — туман,
І катлаван, як пастка для Кінг-Конга.
Спікіраваў сівы, як сталь, груган
Да бронзы свайго роднага парога.

Тут стогны самазвалаў — люты крык
Зямлі, што сілы нечысці склікала.
А птах ужо да пеклішча прывык
І не зважаў на колы самазвалаў.

Звінелі ланцугі, хрыпеў бетон,
Драбнюткі дожджык крапнуў на далоні.
Жыццё — імгнення дрогкага палон
На змрочным і халодным часу ўлонні.

Туман праз брук сачыўся ў забыццё,
Нібы зямлі пякучая абраза.

Бязмоўна страпянулася жыццё —
Стары груган пад колам «Супер-МАЗа».

*2005*



*Небійку Дзянісу*

Дзе Радзіма,
там хочацца жыць,
дзе пакута — надзеі няма?
Добра там,
дзе не трэба грашыць,
дзе сумленная праўда
адна.

Мы збіваемся з лёгкіх шляхоў,
дзе зіхцяць маладыя гады.
Мы ідзём,
покуль гордая кроў
беражэ ад нязванай бяды.

Мы хаваем забіты адчай
у атруце людской мітусні.
Няхай
ворагі плішчацца ў рай, —
адлюструецца вечнасць
у дні.

Між стыхійных няшчасцяў
чужых
адшукаем няшчасці свае.

Над галовамі снег закружыў.
Ён растане.
Вясна запяе.

*2006*

## Янка Купала на Нарачы

Ружы хваляў, паэзіі водар...
Ноч купальская свет ахінала,
І гучала мінуўшчыны ода —
Крочыў берагам Янка Купала.

Перашэптваў чарот яго крокі,
Здані вогнішчаў смутна ўздыхалі.
А паэта натхнялі аблокі,
Што паданне пра Нарач шапталі.

Задуменная поўня-каханка
Супярэчлівы шлях асвятляла.
У прыроды свая калыханка —
Захапляўся Нароччам Купала.

Прытуліліся сонныя сосны
Да загадкавай бездані млявай.
Ткалі вершы нябесныя кросны,
І паэзія сталася явай.

Песню даўнюю голасам горкім
Беражніца на выспе спявала.
Над пачуццямі ўспыхвалі зоркі,
І шчаслівы быў Янка Купала.

*2007*



Глыток ахаладжанай колы
На плошчы Якуба Коласа...
Грукоча трамвайчык вясёлы —
Не чутна каханай голасу.

Не бачна каханай постаці,
Навокал народ спяшаецца.

Народ на адвечнай ростані
Пад лёсам сваім прагінаецца.

А хтосьці сядзіць на лавачках
І ловіць пырскі фантанныя.
Кропелькі ў сонечных зайчыках...
Дзе ты блукаеш, каханая?

Дрыжыць невыносная спёка,
Адзін за адным — трамвайчыкі.
Цяпер ты ў маім полі зроку,
Асвечаная зайчыкамі.

Скрыжуюцца позіркі нашы
На плошчы Якуба Коласа,
Дзе сонечны
зайчык
вушасты
Блукае без мапы і компаса.

*2008*



Мой чорны парасон —
Акраец ночы —
Растане ў навальнічным даляглядзе.
Настане час,
Якога не захочаш
Ты бачыць у маім нямым паглядзе.

Мой чорны парасон —
Крыло анёла,
Што здрадзіў на зямлі адвечнай веры.
Грымотаў бой.
На твары мёртвы сполах.
За мной адчайна зачыняеш дзверы...

Мой чорны парасон —
Мой паратунак.
Падорыць ноч
Нявыплаканы сон нам —
Апошні развітальны пацалунак.

Іду апошні раз
Пад парасонам...

*2009*

## Полымя рабіны

*Уладзіміру Маруку*

І няма даўно ўжо той краіны,
Дзе дарогі ўсе вялі да Храма.
Падыду да полымя рабіны
Праз белабярозавую браму.

Прыхінуся да ствала шчакою,
Заблукаюць думкі недзе ў кроне.
І стаіць рабіна прада мною,
Бы князёўна ў велічнай кароне.

Гэтыя чароўныя хвіліны
Ісціну нашэптваюць таксама,
Што ішоў да простае рабіны,
А прыйшоў —
Прасветлены —
Да Храма.

Галасы пачую ў кожнай гронцы —
Душы продкаў лучацца з прыродай.
Над рабінай хмары-абаронцы
Адганяюць беды і нягоды.

Так сустрэну вечар парыжэлы,
Каб забыць надзённыя турботы.

У дыханні ветрыку нясмела
Скалыхнуцца крыжыкі лістоты.

І на сэрцы болей не трывожна...
І падоўжу ўзнёслыя імгненні —
Пасаджу з пяшчотай, асцярожна
Цень рабіны на свае калені.

*2010*

## Рэкі

*Віталю Скалабану*

Калісьці і сонца
Ў сцюдзёных нябёсах астыне...
Ды сёння жыццё
Нам умовы дыктуе свае.
І рэкі ў нямы тагасвет
Накіроўваюць плыні...
Бяссонныя рэкі...
Ім сілы даўно нестае.

Адкуль тая сіла...
Яна, як стагоддзяў магіла.
Равуць па-над безданню-прорвай
Вятры-змагары.
Прымружыцца неба,
Што наша жыццё бараніла, —
І рэкі выкручваюць плыні
Ў крутыя віры.

Над прорваю — людзі,
Як дрэвы.
І пахне жывіцай.
І выкрыкне хтосьці ў пустэчу
Надрыўна:
«Жыві!»

А неба самотна і стомлена
Ў рэкі глядзіцца...
Блакітнае неба —
У рэкі блакітнай крыві.

*2011*



Стаю пад раем
На краі вады.
Адлюстраванне берагоў не адчувае.
Зямля аблашчана вадой.
Пад раем — край.
Камусьці тут жыццё —
Прамая каляіна,
Але ж для большасці —
Суцэльны вір,
Выпрабаванне на трываласць
Перад смерцю.

Ад краю адыду...

Блішчаць аблокі
У праменні раю.
А дажджу не бачна,
Толькі чутныя ледзь-ледзь
Грымотаў насцярожаныя крокі
На мяжы
Паміж зямлёй,
Аблокамі і раем.
Я разумею:
Край мой пачынаецца
На ўскрайку
Незлічонае вады.

*2012*



## ВІКТАР ЛУПАСІН

*Нарадзіўся ў 1982 годзе ў Мінску, дзе жыве і цяпер. Працуе ў літаратуры з 1998 года, да 2002 выступаў пад імем Віктар Іваноў, да 2008 — як Віктар Ываноў. У 1999–2001 вучыўся на мехмаце БДУ, у 2003–2008 — на філалагічным факультэце БДУ, які паспяхова скончыў. Аўтар блізу 400 вершаў і больш чым 25 паэм, а таксама значнага аб'ёму прозы. Выступаў і як драматург, і нават як перакладчык. Аўтар кнігі «Асарці». Таксама распачынальнік разнастайных музычных праектаў.*

## ГАЛАСЫ ПРОДКАЎ

### Прысвячэнне

«Вершаваная вікіпедыя, вершаваная вікіпедыя, —
Вы прымружыцеся пагардліва ў тэатральны ларнет. —
Не паэзія, а камедыя, не паэзія, а камедыя:
Між мянтузамі і мяншынямі у яго менуэт».

Не для вас, паны выкшталцоныя, я пішу тэнцоны з канцонамі,
І санеты свае з верлібрамі я пішу не для вас,
А для нігераў з насарогамі, што трушчобамі ды бярлогамі
Загароджаны ад паэзіяў вашых кволенькіх рас.

## Сустрэча

Самы канец кайназойскае эры.
Гомель. Зіма. Плейстацэн.
Снегу паўсюль навалiла без меры.
Ўсюды суладнасць і сэнс.

Думаю думу пра ўчора і заўтра,
Думу пра норы мае.
Раптам з кустоў малады пітэкантрап
Наперарэз паўстае.

Ў новае шкуры, з вялікай сякерай,
Шнар паляўнічы на лбе.
Дружа! Не трэба! Другім павячэрай!
Я не патрэбен табе.

Вершаў маіх у маленькай галоўцы
Не ператравіш, ні-ні!
Не перакажаш на вашае моўцы
Песню пра доўгія дні.

Што ж ты, нябога, ўзнікаеш пад носам,
Шкодзіш натхненню майму?
Мы ж з табой тут у лагчыне сам-насам —
Ну а калі абдыму?

Сцісну ў абдымках — і пырснуць вантробы,
Пырснуць на снег і галлё,
І ад тваёй застанецца асобы
Толькі згаданне маё.

...Далей ступаю па роднаму краю,
Цела гаю і душу.
Мілыя далі мае аглядаю,
Хобатам вершы пішу.

## Напіс

Я сам сабе нерукатворны помнік,
Я цар прыроды, я другое сонца,
Я сам сабе і мармур і граніт,

Я дзіва свету у зіхоткіх промнях,
Я уладар усёй зямлі бясконца,
Я цар цароў — магутны Трылабіт!

## Махайрод

Махайрод махае ротам,
Мяса рэжа пасярод.
Рухі лапаў — быццам ротар,
Сам нібы барвовы рот,
Крыважэрны махайрод.

Сёння ўгору, сёння ўдолу
Папабегаў ён, як хорт.
То закон усіх жывёлаў:
Калі быў слабы і кволы,
Будзеш смачны, быццам торт.

Вус абліжа, памарудзіць,
Замуркоча пад ракой.
Рэшту кіне ваўкам, людзям,
Каб не смелі запаскудзіць
Адпачынак і спакой.

## Сябры

Па плошчы ідзе чалавек.
Насустрач — аўстралапітэк.

— Як маешся, брат чалавек?
— Звычайна, аўстралапітэк.
— Чым зоймемся, брат чалавек?
— Як хочаш, аўстралапітэк.
— Дайграешся, брат чалавек!
— Як зробіш, аўстралапітэк.

— Не моцна я, брат чалавек?
— Як знаеш, аўстралапітэк.

## Перад пачаткам

Зямля была пад чорным небам.
Ніхто на ёй не жыў.
Сонца было маленькае.
Месяц ледзь не ўпаў на зямлю.
А потым зямля правалілася ў магму,
Магма застыла,
І пачалася гісторыя.

## 800 000 000 год да н. э.

Зямля пад лёдам. Па-над лёдам неба.
Ад полюсу да полюсу зіма.
На ўсёй прасторы ні вады, ні хлеба
Няма — мільён гадоў вады няма.
Вялікі Месяц і малое Сонца
Не грэюць снегу белага. Зіма.

Зіма, якая цягнецца бясконца,
І іншага нічога тут няма.

Усё ў мінулым: і гетэратрофы,
Што склалі маладой Зямлі планктон,
І вулканічных жахаў катастрофы
У тысячы магутных гігатон;
Усё у будучыні: трылабіты,
Якіх дагэтуль не было нідзе,
І дыназаўры, і метэарыты,
І ўсё, што ё цяпер сярод людзей.

## Марш міяцэнавых сланоў

Трубі,
        Труба!
Трубі,
        Труба!
Трубі,
        Труба
                Даўгая!

Скачы,
          Скакуй
Скачы,
          Скакуй
Адсюль
            Да небакраю!

Лясы
        Пяюць,
Лугі
      Пяюць
І песнямі
              Палаюць:

Сланы
Цяпер,
Усе
Цяпер
На носе
Трубы
Маюць!

І вось
І я,
І вось
І я
Сваю
Трубу
Уздзену

І пра-
Трублю,
І пра-
Трублю
Эпоху
Міяцэну!

## Паэза верхняга мелу

I

Наша справа — еш ды какай,
Дыназаўрык, дыназаўрык.
Нам усё жыццё за ранак,
Нам паўсюль хваёнак смачных,

Кветак-папарацяў хопіць,
Каб напружыць свой жывоцік.
Ні садоў, ні агародаў
Нам не трэба агародзіць.

Як ты вылупіўся з яйка,
Трэба дзеіць: еш ды какай.
Хітрасці яно ніякай
Ад цябе не вымагае.

Гэта выгадуе сілу,
Каб нага цябе насіла;
Гэта выгадуе шыю,
Каб дастала да галінак.

Быў маленькі дыназаўрык —
Пройдзе заўтра і пазаўтра,
Станеш мажны і цыбаты,
Будзеш думаць і пра самак.

Каб адну хаця паймеці,
Трэба нам хвастом грымеці
І страсаць усё паветра,
Прабіваючы бар’еры.

А для гэтага — парада,
Маё мілае дзіцятка:
Еш ды какай, еш ды какай,
Не турбуйся пра парадак.

II

Усяго па калена, а нічога няма.
Усяго па пояс, а нічога няма.
Усяго па шыйку, а нічога няма.
Па са-ме-нькую шыйку!

Чагосьці
не стае.

Дыназаўрык падляцеў,
На чатыры ножкі сеў
І пабёг, і пабёг
У маленькі закуток.

— Мама, а былі тыраназаўры?

— Не былі, даўно ўжо не былі.
Іх ніхто не помніць на Зямлі.
Смачна еш і какай патаўсцей.

— Мама, а чаго з намі будзе?

— Усё з намі будзе.
Будзем і есці, будзем і какаць.
Не хвалюйся.

— Мама, а чаго вымерлі тыраназаўры?

— Есці не хацелі,
Какаць не хацелі,
Маму не
слу
-ха
-ліся!

III

Еш ды какай, дыназаўрык.
Вас няма на кантыненце.
На адной вялікай выспе
Вы пакуль яшчэ жывеце,
Што плыве ў глыбокім моры,
Што вандруе ў дзікім моры.
Мезазойскай засталося
Эры сто тысячагоддзяў.

## Старая песня

Як на Лысай гары
Трое мамантаў,
А на Белай гары
Двое мамантаў,

А на Мохаўскай гары —
Пяцёра мамантаў!
Пяцёра мамантаў
Ды з маманціхамі,
А маманціхі ўсе
З маманцяняткамі,
Маманцяняткі з блошкамі.

А на Лысай гары
Забілі мамантаў,
А на Белай гары
Забілі мамантаў,
А на Мохаўскай гары
Забілі мамантаў.
Забілі мамантаў
Ды з маманціхамі,
А маманціхі ўсе
З маманцяняткамі,
Маманцяняткі з блошкамі.

## Настальгія

Нашае пакаленне
Іншае ўсё ж было.
Мора снягоў па калена
Годна яно прайшло.

Як нам было ўсё проста,
Простага нават прасцей!
Моцным было сяброўства,
Вербы раслі гусцей.

Ну а якія красуні
Шпацыравалі паўсюль!

Вам у цяперашнім суме
Гэткіх не ўзяць ніадкуль.

Гэх! не паўторыцца заўтра
Снег мінулай зімы.
Хутка, нібы дыназаўры,
Знікнем з планеты і мы.

## Аб чым пяе мерытэрый

Дайце мне хоць хто-небудзь
Хобат!
Каб патрапляў у неба
Хобат!
Каб вытыркаў між біўняў
Хобат!
Каб увесь час трубіў мне
Хобат!
Дапамагаў абедаць
Хобат!
І ратаваў ад бедаў
Хобат!
Дайце мне хоць хто-небудзь
Хобат!
Ці хоць маім нашчадкам
Хобат!

## Трыялет

Ён мамант, яна — мастадонтка,
Страйнюткая, быццам таполя.
Кувае зязюленька тонка.
Ён мамант, яна — мастадонтка.
Ён толькі сяброўвец, не болей.

Сяброўка яна, а не жонка.
Ён мамант, яна — мастадонтка,
Страйнюткая, быццам таполя.

## Двухрадкоўе

Я — краманьёнец.
А ты — неандэрталец.

## Дыпладок

Дыпла-дыпла-дыпладок
Докдокдок
                    Докдокдок!
Дыпла-дыпла-дыпладок,
Доўгі дыпладок!
Дыпладойдзе-даплыве
Па траве
                і дрыгве,
Дододойдзе
                    Докдокдок
Лёгкі дыпладок!
Дыпладок,
                    дыпладок,
Мы дамо табе пладоў,
Мы дамо аладак,
Дыпладоў-дыпл’а’дак!
Птэрадактыль на нагу сеў,
Быццам бусел
                    або гуся.
Дыпладок і птэрадактыль —
Докдокдок і дактыль-дактыль!

Птэрадактыль паляцеў,
А дыпладок на попу сеў.

## Ля вогнішча

Даўней было цяплей,
Сланы хадзілі лысыя,
І веяў ветравей,
І песенькі ліліся.

Тады яшчэ зямля
Не знала пітэкантрапаў —
І люд лясны гуляў,
І вецер лесу кант трапаў.

Тады ляцелі дні
Ды доўгімі нядзелямі,
Тады паміж радні
Ля печы не нудзелі мы.

І сто вякоў так жыў
Наш люд паміж арэлямі,
Ды вецер закружыў
Зімовымі завеямі.

Ды вецер так абняў,
Што запалілі полымя,
І сівер распачаў
Эпоху ледніковую.

А нас не задушыць,
Хоць вымерзлі атраманты,
А мы працягнем жыць,
Хоць не сланы, а маманты!

А мы будзем — пісаць
Рандэлі выкшталцоныя!

А мы будзем — спяваць!
Сланіхам! Барытонамі!

Пакуль наша зямля
Углыб не правалілася,
Пакуль сланы страляць
Сланоў не навучыліся,

Пакуль вярбы паўсюль
Аб'ёмы дастатковыя —
Мы вытрываем ўсю
Эпоху ледніковую!

## Post Scriptum

1. Гетэратрофны планктон пратэразойскае эры (1 увах.).

2. Трылабіты (2 увах.). Канатацыі велічы і пыхлівасці.

3. Дыназаўры (6 увах.), у тым ліку:

3.1. Тыраназаўры (1 увах.). Канатацыі легендарнасці, міфовасці, пакарання за грахі.

3.2. Дыпладокі (1 увах.). Канатацыі гуллівасці ды нязграбнасці.

3.3. Птэрадактылі (1 увах.). Канатацыі гуллівасці, свойскасці ды зграбнасці.

3.4. Дыназаўры без удакладнення віду (3 увах.). Канатацыі велічы, вымерласці, пагрозы (1 увах.). У тым ліку:

3.4.1. Дыназаўры верхняга мелу (1 увах.), паводле апісання позні заўраподы. Канатацыі спажывецтва, традыцыйнасці, спакою і прыхаванай пагрозы.

І гэтак далей : -)



# ЮРАСЬ НЕРАТОК

*Юрась Нераток (Гарбачоў Юрый Юр'евіч) нарадзіўся ў Мастоўскім раёне Гродзенскай вобласці ў сям'і настаўнікаў-філолагаў. Дзяцінства правёў у вёсцы Хадакі Івацэвіцкага раёна Брэсцкай вобласці. Скончыў Беларускі політэхнічны інстытут. Жыве і працуе ў Мінску. Аўтар кніг вершаў «Фотаальбом» (2003) і «Споведзь струны» (2011), кніг прозы «Закуцце» (2007) і інш.*

## Чучмара*

*Вясновая Фантазія*

> Ці можна любіць тое, што ненавідзіш? Напэўна, можна: немагчыма любіць тое, да чаго раўнадушны. Ці можна любіць таго, хто нічога табе не даў? Напэўна, можна: немагчыма любіць таго, каму нічога не даў ты.
>
> *Юрась Нераток*

Вясна — не самая лепшая часіна года... І гэта не жаданне здавацца парадаксальным і ісці насуперак звыкламу меркаванню, а суровая рэальнасць. Канец сакавіка пакуль снежны, але невыносна смаркаты. Гэты інфекцыйны рыніт разам з лужынамі снежнай кашы і пранізлівымі энтрапійнымі скразнякамі паспяхова пераходзіць у ненадзейна апранутае цела і пранікае ў душу, імунітэт якой клінічна слабы. Сонцасветны Ра не можа прагрэць прамерзлую

* Прыдуманы ўсходні напой, які не ўтрымлівае наркотыкаў, алкаголю, галюцынагенаў. Забароненым прадуктам не з'яўляецца і ніколі не будзе з'яўляцца, бо чучмара — аўтарскі вымысел.

зямную кару, а ягоныя настойлівыя спробы ажывіць траву і насякомых блакуюцца нізкім парасонам набрынялай атмасферы, якая прастамоўна называецца небам.

Усё ж, як праспяваў самы паспяховы турыст краіны: «Лета — гэта маленькае жыццё». А вясна — пакутны выхад з зімовага анабіёзу, які давялося вытрываць са сціснутымі зубамі, каб не ўзвыць. Асабліва калі ты зусім не паспяховы валацуга, у якога ў актыве мама-пенсіянерка ў двухпакаёўцы, незакончаная вышэйшая адукацыя паўгуманітарнага профілю і такая ж, як сам, абтрапаная сяброўка, якая з-за адсутнасці на дадзены час лепшых варыянтаў аддала перавагу табе.

«Людзі ідуць па свеце — людзям няшмат патрэбна...» Так спяваў бацька, і насуперак майму жаданню жыць не так, як ён, давялося паўтарыць яго лёс у сваім часе. Зрэшты, ён дасягнуў больших поспехаў: у яго была сям'я і пастаянная работа — няхай за нікчэмныя грошы, аднак даволі кваліфікаваная і ў прыстойным калектыве. І ў маім узросце ў яго быў сын-школьнік, які насычаўся жыццём без рэзкіх эмацыйных ацэнак і расчараванняў, што прыходзяць з досведам, калі пераконваешся, што свет хранічна неідэальны і паталагічна непапраўны.

Зразумела, усё вышэйсказанае ні ў якой ступені не тычыцца дынамічнага росту стабільна-сацыяльна-рынкава-дэмакратычнага грамадства, якое бачу ў перыяды хандры ў выпуклы экран старога тэлевізара, чыя электронна-прамянёвая трубка за два дзясяткі гадоў незваротна страціла палову люмінафорных трыяд. Мой статус — прыватная праблема асобнага няўдачніка, які не здолеў або не захацеў прыстасавацца да «хутказменных рэалій і сусветных крызісных з'яў».

Аднак калі аб'ектыўна паглядзець на ўласнае жыццё і пашукаць станоўчае, раптам разумееш, што адносіны да цябе значна лепшыя, чым заслугоўваеш. Мама даўно махнула на твой лад жыцця рукой і ўсцешаная хаця б тым, што ты жывы, адносна здаровы і не сядзіш у турме або на наркотыках, амаль рэгулярна начуеш дома, а калі-нікалі і працуеш. Сяброўка, якая знайшла часовы прытулак

каля цябе, спакойна ігнаруе твае не заўсёды дагледжаныя зубы і вымытыя валасы, непаголеныя шчокі. А нярэдка ўважліва слухае і часам — усміхаецца. Нават дзяржава доблеснымі ўсёвідушчымі органамі паглядае на вас напаўвока і не бачыць у знешнім абліччы відавочных гультаёў-паўутрыманцаў прыкметаў правапарушальнікаў ці патэнцыйных ахвяр. А грошы, што зрэдку ўсё ж з'яўляюцца, дазваляюць калі не адчуць жыццё напоўніцу, то хаця б пакарыстацца час ад часу некаторымі з яго даброт.

Ты клічаш сяброўку, як яна і назвалася, — Лінай. Або жартоўна — Лінейкай. І толькі здагадваешся, якое яе сапраўднае імя: Галіна, Эліна, Паліна, Караліна, Адэліна, Аліна, Капіталіна, Магдаліна, Эвеліна, Анжаліна? А яна цябе — Максам, бо па жаночай практычнасці паспела зазірнуць і ў пашпарт, быццам бы для таго, каб пераканацца, што яе часовы спадарожнік не звязаны ні ланцугамі шлюбу, ні дзецьмі. Законнае жаночае жаданне... Зрэшты, характар Ліны зусім не лінейны, хутчэй лякальны — няроўны, але з плаўнымі пераходамі. Хоць зрэдку закругленні бываюць і рэзкаватымі.

— І што мы можам сабе сягоння дазволіць, сэр Максімус?

— О фея майго сэрца, я гатовы кінуць увесь свет да тваіх ног, толькі баюся, што ён занадта далёкі ад дасканаласці, каб служыць вартым цябе паласам!

Гэта ў нас такая гульня: калі казаць адно аднаму падобныя словы, прыемныя дробязі бачацца праз павелічальнае шкло, а каляровыя пікселі панылага і шэранькага быцця ўмоўна аднаўляюцца.

Неяк мы зайшлі ў буцік, куды нас па недаглядзе ўпусцілі.

Пытаюся:

— Што табе тут падабаецца, каралева маіх дум?

— Усё!! — адказвае Ліна.

— Я куплю табе гэты магазін, уладарка майго жыцця! — абвяшчаю ўголас. І на вушка: — Калі з'явіцца дастаткова грошай для нуднай працэдуры пераафармлення...

Ахоўнікі не спяшаюцца, але і не дрэмлюць. Калі ўважліва прыгледзецца, многія з іх — выпадковыя людзі на пустой рабоце, а некаторыя заведама слабейшыя за мяне. Яны пакуль усміхаюцца, а ўсё

ж падумваюць аб падпісаных кайданных кантрактах і паляпваюць па кішэнях, дзе ляжаць пярцовыя балончыкі і мабільнікі — сувязь з мянтоўкай.

— ...Прапаную з’ездзіць ва ўсходняе кафэ да твайго арабскага цёзкі — Максуда.

— Дзе гэта, святло маіх вачэй?

Усё ж, калі антураж гульні незнаёмы, даводзіцца спускацца на зямлю, каб вызначыць арыенціры.

— На другім краі Зямлі, дзе ў цені лістоты пад спякотным сонцам цурчаць халодныя ручаі, а шчабятанне райскіх птушак заглушае звон трамваяў...

М-дэ... Усё ж закончаная гуманітарная адукацыя надзейней незакончанай паўгуманітарнай. Та-ак: трамваі ў нас ідуць у чатырох напрамках...

— У Зялёны Бор, правільна?

Лінейка ўсміхнулася і заківала. І адкуль яна ведае мой горад лепш за мяне?!

Талончыкі мы не прабіваем. Грошы ў нас ёсць, аднак не столькі, каб траціць іх на пачатку падарожжа. Кандуктарка стомлена глядзіць на мяне.

— Аплачваем праезд, маладыя людзі...

Метал у голасе — з іржавым бразгатам, але тон не выяўляе надзеі. Ліна зірнула на мяне, а затым адвярнулася да акна: перадала права вырашаць праблему за абодвух.

— Чуў, што ёсць Вышэйшы Указ, які дазваляе беспрацоўным ездзіць у грамадскім транспарце бясплатна...

Плюс — наіўная ўсмешка, здольная змякчыць бязлітаснае сэрца янычара. Зноў спрацавала!

— Ну дык усталі хаця б і саступілі б месца людзям хаця б...

Б-б-б... Яна адназначна зразумела, што мы разам. Дастаткова пацерціся пару тыдняў сярод людзей, каб стаць і фізіянамістам, і псіхолагам. Гэтак жа лёгка людзі вызначаюць час, калі разумеюць, што зверыць яго, апроч зорнага неба або сонца, няма з чым.

Мы з кандуктаркай ведаем, што ніякага Указа няма. Але ў яе досвед не толькі жыццёвы, а і транспартны. Таму яна і вырашае нас не высаджваць — на вуліцы хлюпотная слотная вясна, а ў яе — дзеці падобнага ўзросту.

Мы падымаемся і саступаем людзям месцы, на якія ніхто не імкнецца, — трамвай напалову пусты. Заўважаю мужчыну, які быў гатовы ўступіцца за нас: сказаць слова або заплаціць. Ён пакуль назірае за развіццём сюжэта, хоць і чытае «Сталічны кур'ер». Дзякуй за падтрымку, дзядзька!

Нейкі час маўчым: любая здзелка трымаецца на кампрамісе.

— Які сёння дзень?

Называю дату і дзень тыдня. Міма. Называю прозвішча румынскага міфалагіста. Ліна моршчыць носік і адмоўна хітае галавой. Называю медпрэпарат, які вынайшлі ў гэты дзень. Міма... Аказваецца, паўгода нашаму знаёмству...

Выходзім за адзін прыпынак да трамвайнага кальца — на канечнай можа быць праверка і на саму кандуктарку. Яна бачыць гэта і, здаецца, неяк прыветна ківае на развітанне. Пэўна, здаецца, — з якой ласкі ёй ківаць, тым больш — прыветна?

Кафэ «У Максуда» — адзін з увахадаў былога рэстарана «Пунсовая кветка». Цяпер не патрэбна столькі банкетных залаў, таму ўстановы для масавых мерапрыемстваў дробяцца на невялікія ўтульныя закуткі, у якіх цеснавата і цемнавата. Апошняя акалічнасць, гэтак жа як і малая колькасць наведвальнікаў на пачатку работы кафэ, дазваляе гардэробшчыку-ахоўніку лічыць наш сціплы знешні выгляд пэўнай формай гламуру, дакладней — грыамуру.

Абстаноўка — як у пячоры Алі-Бабы, пакуль ён са сваім джыгіт-спецназам на прагулцы. Курыць тут можна — нават кальян. Мы не курым — тым больш кальян. Меню прыносяць не адразу.

Ы-ых! Вядома, прапанаваць кінуць свет да ног дзяўчыны прасцей, чым рэальна яе пачаставаць... І ўсё ж адзін антрэкот і адзін рыбны вінегрэт мы возьмем. Яшчэ і на каву з кардамонам застанецца. Аднак даю слова даме:

— Паглядзі меню, Лін! Толькі не кідай у бездань роспачы высакароднага рыцара, якога воля лёсу пазбавіла спадчыны, затое дазволіла знайсці невялікі скарб...

Лінейка — разумная дзяўчына. Яна ведае, як свята можна наладзіць і як яго не сапсаваць. Бярэ ў рукі зялёную папку з выціснутымі пяцікутнай зоркай і паўмесяцам, але глядзіць рассеяна.

Падобна, яна радая таму, што сядзіць у цяпле. І аддае перавагу нязмушанай свецкай бяседзе, а не накідванню на ўежнае. Шчочкі яе сталі румянымі і цёплымі — Ліна амаль не карыстаецца касметыкай.

— Ты ведаеш, мне падаецца, што твая мама мяне не любіць...

У-ух! Ды лепш свініна з рук мусульманіна, чым псеўдасямейныя разборкі!

...Ліна была ў мяне адзін раз. Я паказаў ёй, як умею іграць на гітары, каротка пазнаёміў з мамай, затым мы закрыліся ў маім пакоі і папілі чаю. Пабылі толькі паўгадзіны і пайшлі быццам бы па справах.

Пазней мама з уздыхамі намалявала даволі дакладны псіхалагічны партрэт Ліны. І завяршыла яшчэ больш канкрэтным, хоць і з доляй надзеі: «Але ж і ты ў мяне не кронпрынц браўншвейгскі...» У мамы заўсёды было нармальна з іроніяй і эрудыцыяй.

Клічу афіцыянта, заказваю антрэкот з бульбай. Ад вінегрэту, бадай, адмовімся — лепш у кіно схадзіць: на дзённы сеанс білеты дзешавей, ён — сацыяльны.

— І чучмар*у* вазьмі...

— Што?

Ліна раскрывае папку з Венерай і сыходным Месяцам, якія асвятлялі хіджру Вялікага Прарока, і беспамылкова падкрэслівае пальцам радок у «Напоях». Насамрэч, «чучмара».

Афіцыянт тлумачыць, што чучмара — па сутнасці шарбет або сарбет, аднак апроч традыцыйных шыпшыны і кізілу ён гатуецца з дабаўленнем карэньчыкаў чучмары — травы закаханых.

Здаецца, яму няма каму дэманстраваць веданне фальклору Усходу. Пачынаецца доўгая рамантычная легенда пра хлопца і дзяўчыну з племені чучмар, якім лёс доўга не дазваляў быць

разам. Слухаю нават з цікаўнасцю — паспеў заўважыць, што цана чучмары трохі вышэйшая за каву па-арабску, звараную ў імбрыку. Добра-такі, калі хапае грошай!

Пакуль заказ выконваецца, можна агледзецца. Тым больш, вочы прывыклі да паўзмроку: сталі бачнымі дэталі, якія напачатку не прыцягнулі ўвагу. І мая спадарожніца адчувае сябе ўтульна: позірк мяккі і прамяністы. Ёй таксама ўсё цікава. Пытанні пра маму зніклі самі сабой дзякуючы лякальнаму характару Лінейкі і загадкавай чучмары. Лёгкім фонам гучыць рытмічная песня «Хабібі». Сышліся Усход і Захад, а, Кіплінг?!

Усё ж нядрэнна Максуд стылізаваў куток! У кафэ не толькі прахалода лістоты, сонечнае цяпло і бесклапотнае папіскванне птушак над вёрткімі ручаінкамі. Тут многа зацішных мясцінак, што прываблiваюць закаханых. Гэта не міраж і не аазіс — межаў у яго не бачна: за ляском пачынаецца квітнеючая даліна, на якой разам пасвяцца дзікія драмадэры і бактрыяны і шныпарaць паласатыя шакалы. Даліна заканчваецца горным хрыбтом. Да яго не дойдзеш ніколі, але бліскучыя храмітавыя скалы, люстраныя вадаспады, снежныя капюшоны і сінявата-блакітныя піхты бачны гэтак жа выразна, калі б іх стварыла рука вялікага мастака або скампілявала сігмаўская оптыка.

Мы з Лінай ідзём, трымаючыся за рукі. З таго, што чалавек нацягвае на цела, каб абараніцца ад варожай чужой прыроды, застаўся толькі абутак — лёгкія, сплеценыя з азёрнага чароту сланцы, — таму што на траве трапляюцца калючкі і вострыя каменьчыкі. Заафагі-барсы засталіся ў лесе; пантэры, якія з цікаўнасцю выглядваюць з-за пагорачкаў, добразычліва ставяцца да нас. Ядавітым бунгарам і скарпіёнам іхнія Каралі і Імператары не дазваляюць выпаўзаць з-пад камянёў днём. А начэй тут не бывае.

Здаецца, Даліна існавала заўсёды — з таго нябыту, калі людзей на Пангеі было толькі двое — Я і Яна: Мужчына і Жанчына, Макс і Ліна. А Усявышні стварыў Сусвет, Зямлю і нас, таму адпачывае — сёння сёмы дзень. І дзень гэты вечны, бо мы непазнавальна нікчэмныя на фоне Божай задумы і недасяжна велічныя ўласнай унікальнасцю.

Салаўі-лючыніі не проста выводзяць рулады, а апяваюць летуценна-ўзвышаную мелодыю спрадвечнай прыроды — упрыгожваюць плаўную грандыёзную музыку варыяцыямі і абертонамі.

Сонца завісла высока над пераваламі. Яно будзе стаяць там заўсёды. Па той бок горнай грады плёскаецца бяскрайняе і бяздоннае Мора — і Сонцу трэба грэць і яго, а не толькі нашу Даліну. Мы ніколі не пабачым Мора, затое ў нас заўжды будзе Даліна...

Вочы Ліны праменяцца лагодай і шчасцем. Мне хочацца патануць у гэтым позірку, але тады мы знікнем у сабе, а Даліна застанецца звонку, бо яна з'яўляецца прасторай для нашых душаў. І ніяк не наадварот! Я пачынаю заплюшчваць свае вочы і скрозь павекі бачу, як яна закрывае свае...

— Ну і нахабная пайшла моладзь! — безасабовая буркатня аддысцыплінаванай жыццём бабкі вяртае нас з Даліны ў пад'езд незнаёмай пяціпавярхоўкі са сценамі, распісанымі дылетантамі-райтарамі. — Заняцца хіба няма чым, апроч як у чужым пад'ездзе лізацца? Працаваць бы ішлі, развялося лайдакоў-абарванцаў! Толькі б ім... — Яна ўстаўляе слова, якое ў прыстойных кніжках не друкуюць. — Калі ўжо ўлады да іх дабяруцца...

У голасе больш зайздрасці і спачування, чым злосці і раздражнення.

Я казаў, што не люблю Вясну. Брудны мокры снег падцякае праз патрэсканыя падэшвы і робіць вільготнымі шкарпэткі, якія нармальны чалавек здымае-надзявае толькі сам-насам. Вулічныя скразнякі карозіяй пранікаюць за каўнер і пад крысо кароткай пацёртай курткі. І не зусім зразумелая чучмара, пасля якой можаш апынуцца на другім краі горада і дзеянне якой здольная перарваць бяскрыўдная бабуля.

Хутчэй за ўсё, гэта звычайны сарбет з сушанай шыпшыны і кізілу. Ну, магчыма, Максуд яшчэ на імбір і пялёсткі ружы расшчодрыўся. А надбаўка на цану — за гісторыю, якую расказаў гаварлівы афіцыянт.

...А Лінейка пакуль нічога не чуе. Напэўна, яна яшчэ ў Даліне...



## ЮРЫЙ НЕСЦЯРЭНКА

*Нарадзіўся ў 1965 годзе ў Быхаўскім раёне. Скончыў Мінскі інстытут культуры. Музыкант, лідар гурта «White Night Blues».*

### Падарунак здалёк
*Экалагічная рок-навела*

Цяжкі пакунак з прадуктамі замінаў руху, і Арнольд Ліс спыніўся, каб адпачыць. Так, пенсіянерам, на жаль, персанальны транспарт з асабістым кіроўцам не выдзяляецца. Нават калі нехта з гэтых самых ветэранаў працы шмат гадоў адбыў кіраўніком аднаго з прадпрыемстваў горада. У справе назапашвання харчавання і жонка ўжо не дапаможа. Яе дзевяць гадоў як няма на гэтым свеце. Адзіная дачка даўно з'ехала на сталае месца жыхарства за мяжу, калі выйшла замуж за нябеднага замежніка.

Па чутках, яе адносіны з бацькам і раней былі не дужа добрыя. А ўжо пасля таго як яна «звязалася з гэтым фрыцам» (магчыма, самы бяскрыўдны эпітэт, якім тата адзначыў з'яўленне зяця ва ўласным жыцці), кажуць, што і ўвогуле адбыўся скандал. Ускосна гэта маглі пацвердзіць работнікі мясцовага аддзялення сувязі, якія дакладна ведалі аб наяўнасці не частых, але рэгулярных паштовак «з таго боку» і жорсткім іх ігнараванні «з боку гэтага».

Нягледзячы на такое доўгае адступленне, а можа быць нават дзякуючы яму, вось-вось павінен быў паказацца паварот у маленькі завулачак, амаль што непрыкметны ў гэтай частцы прыватнага сектара. У самай глыбіні яго, пасярод шыкоўнага сада, асабліва прыгожага ў другой палове лета, месціўся досыць вялікі і прасторны дом. І вось, пару крокаў не дайшоўшы да свайго павароту, Арнольд Ліс са здзіўленнем спыніўся, калі пачуў гук моцнага рухавіка ў тым

баку, дзе акрамя яго ўладанняў і быць нічога не можа. А завярнуўшы за рог, увогуле разгубіўся ад выгляду замежнага трэйлера, што стаяў прама каля яго брамы. Аграмадная машына быццам дачакалася з'яўлення гаспадара — узраўла рухавіком і рушыла яму насустрач.

Было чаму здзівіцца: калісьці службовая легкавушка не без цяжкасцяў трапляла ў вузкую прастору паміж агароджамі. А вось аказваецца, што і такая вялізная машына здолела заехаць у завулачак, што пэўна пацвярджала высокі клас кіроўцы. Стары падаўся назад, таму што адлегласці паміж бартамі трэйлера і плотам як злева, так і справа амаль што не было. Кіроўца сядзеў у высокай кабіне, нібыта недзе на другім паверсе, засяроджана ўглядаўся ў люстэркі задняга віду, заклапочаны якасцю выезду з вузкай прасторы, і не звяртаў увагі на старога, які недзе ўнізе махаў рукамі. Доўгае цела аўтафургона вельмі павольна выпаўзала з вулачкі спадара Ліса, нарэшце павярнулася да яго нязвыклымі нумарнымі знакамі і пачало няспешна аддаляцца. Зразумела, што стары чалавек вельмі расхваляваўся. Ён хутка накіраваўся да хаты. Насустрач яму з веснічак выйшаў незнаёмы мужчына сярэдніх гадоў:

— О! Вы, напэўна, спадар Арнольд! — прыгожа і адкрыта ўсміхаючыся, сказаў ён з ледзь заўважным акцэнтам.

— Так! Я — спадар Арнольд! А што, дазвольце спытацца, тут без мяне адбываецца?! — нервова выкрыкнуў гаспадар.

— Вы не хвалюйцеся, калі ласка. Мы прывезлі Вам падарунак ад вельмі блізкіх Вам людзей, які Вы, здаецца, павінны былі чакаць! Я зараз патлумачу...

— Нічога я не чакаў! — рэзка перапыніў незнаёмца Ліс. — Я і чуць не хачу аб нейкіх падарунках! — Ён з лютасцю наблізіўся да свайго суразмоўцы. Той здзіўлена адказаў:

— Як нічога не чакалі?.. А зрэшты... — тон яго голасу стаў ветліва-халодным, — мая справа — выканаць сваю працу. Вось тут канверт з лістом і падрабязнымі інструкцыямі...

— Якія інструкцыі?! — працягваў абурацца стары.

Бачачы, што размова не атрымліваецца, мужчына спакойна адказаў:

— Тут усё напісана. Усяго добрага, да пабачэння.

Ён накіраваўся да трэйлера. Бразнула дзверца, рухавік набраў абароты, і ў хуткім часе цішыня апанавала наваколле.

Спадар Арнольд павольна адчыніў веснічкі. Утульны дворык прама ў цэнтры ўпрыгожвала нейкая брудная маса, падобная на вялікі праснак, кшталту цэментавага раствору, вывернутага з невялікіх насілак. Каб разгледзець загадкавую масу, гаспадар асцярожна наблізіўся. «Гэта падарунак, ці што? — Арнольд Ліс паціснуў плячыма і палез у кішэню за акулярамі. Але праз імгненне, хутчэй па паху, ён зразумеў, у чым справа. — Гэта ж спаражненні!»

Любы збой ва ўласным распарадку сталаму чалавеку даецца нялёгка. А тут такое! Пацягнуўшыся да вуха, каб сябе ўшчыкнуць, толькі зараз ён заўважыў у руцэ канверт, што перадаў яму незнаёмец. Дрыжачымі рукамі разарваў яго і выцягнуў ліст.

«Нарэшце маю магчымасць перадаць табе тое, што ты, можа быць, сам не ведаючы, шмат гадоў чакаеш. Яго завуць Хатхі...» Хрумстанне і гучнае шорганне пачулася за спінай Арнольда Ліса з боку агарода, што адцягнула яго ўвагу ад ліста. Ён павярнуўся і застыў, адкрыўшы рот. Прама насупраць узвышаўся сілуэт аграмаднага слана. Жывёліна знаходзілася каля невялікай расчыненай брамы, што аддзяляла дворык ад агарода.

Спадар Арнольд нейкі час прастаяў нерухома, потым асцярожна паварушыў рукой. Слон лянотна працягваў жаваць. Тады стары зрабіў невялікі крок убок. Слон па-ранейшаму не звяртаў на яго ўвагі. Крок назад — ніякай рэакцыі, слановыя вочы, здаецца, заставаліся па-ранейшаму прыкрытыя. Гэта зусім не азначала, што ён не бачыў манеўраў дзіўнага чалавека, які выконваў нейкі незвычайны, вельмі павольны танец — рабіў адмысловае па і надоўга заміраў на месцы, — але за свой немалы век мудрая жывёліна прызвычаілася нічому не здзіўляцца ў свеце людзей.

Спадар Ліс асцярожна рушыў да вугла хаты. Слон толькі зрэдку патрасаў неверагодных памераў вушамі. Пакінуўшы зону бачнасці нечаканага госця, стары прыхіліўся да сцяны і аддыхаўся. «Здаец-

ца, я разумею, аб якім падарунку ідзе гаворка... Толькі без панікі». Гаспадар асцярожна абышоў хату і зазірнуў у агарод з іншага боку...

Слон апынуўся досыць мірным, і ўжо праз кароткі час Ліс хадзіў у непасрэднай блізкасці ад шматтоннай тушы, трымаўся рукой за галаву і назіраў, як гіне яго агарод. Грунтоўна патаптаўшы бульбу, жывёліна аблюбавала доўгі ўчастак з капустай. Была паспрабавана і морква. Гаспадар намагаўся выратаваць хоць што-небудзь, напрыклад, наглуха задраіў цяпліцу, нарабіў дзірак у цэлафане, каб гуркі і памідоры не звялі ў душнай прасторы. Дзякуй богу, пакуль што новы прадстаўнік хатняй гаспадаркі яшчэ не разабраўся, якую функцыю ў агародзе выконвае гэта збудаванне, вельмі падобнае на цыркавы шацёр, толькі ў мініяцюры, ды дзе замест брызенту нацягнута цэлафанавая плёнка.

Да канца дня гаспадар нават навучыўся пераганяць жывёліну з месца на месца. Выратавальная ідэя мільганула ў галаве атрымальніка незвычайнага падарунка, і ён паспрабаваў выгнаць свой гіганцкі набытак у вулачку. Але слон спыніўся каля яблыні, што расла на пачатку агарода, зацікавіўся яе пладамі і больш не зрушыў ні на метр, як ні намагаўся стары. За гэтым заняткам і засталі дзве несувымерныя фігуры прыцемкі, што хутка згусціліся вакол.

За кухонным сталом, пад нізкай лямпай, што свяціла жоўтым святлом, у невясёлым роздуме гаспадар узгадваў падзеі дня. Нечакана магутны глухі стук скалануў сцены хаты. «Спаць заваліўся, напэўна, — Арнольд Ліс паспрабаваў вызначыць характар дзеяння. — Заўтра з раніцы паспрабую пайсці ў камунгас... Ці куды тут лепей звяртацца?.. Добра, пачнём з камунгаса...»

Ён узяў у рукі канверт, што ляжаў перад ім на стале, і выцягнуў ліст, які не дачытаў днём: «Памятаеш, табе гэта ідэя прыйшла першы раз, калі мне было восем гадоў...» Восем гадоў? Што яна можа памятаць пра той час?! Спадар Ліс быў упэўнены, што жыццё яго сям'і цалкам залежала ад яго магчымасцяў, ад яго моцы і аўтарытэту. Але раптам чамусьці ўзгадаліся стосы малюнкаў. Дачка сапраўды неяк дзіўна ставілася да свайго захаплення, якраз у тым самым узросце. Малюнкаў з кожным днём рабілася ўсё больш і больш.

Потым слёзы, плач, дзіцячая крыўда і пагрозы. Аднак пазіцыя галавы сямейства — адзіная правільная і непахісная: «Ні ў якую мастацкую школу ты не пойдзеш! Паперу можаш і так псаваць, нечага губляць час на пустое. У спецыялізаваны клас замежнай мовы — яшчэ куды ні ішло, а глупства сваё выкінь з галавы, знайшла занятак — карцінкі маляваць...» Маці маленькай Алёнкі моўчкі стаяла ўбаку. Можа і хацела нешта сказаць, ды не адважылася пярэчыць. Дзяўчынка залівалася слязьмі:

— Вось вырасту, а ты будзеш стары і папросіш падарыць штонебудзь...

— Так, так! Папрашу, каб ты падаравала мне жырафу, а можа нават слана! — з'едліва здзекаваўся з яе непрабівальны тата. Яму раптам стала вельмі смешна ад уласнага жарту. Нават настрой палепшыўся, і дзіцячы плач ужо не раздражняў так, як спачатку.

— Добра. Размова скончана. Ідзі да свайго пакоя...

Ён кінуў ліст на стол. Чытаць далей раптам перахацелася. Настрой чамусьці зусім сапсаваўся. Павольна ўстаў, выключыў на кухні святло і накіраваўся да дзвярэй спальні.

Спадар Ліс прачнуўся недзе каля шасці. Адчуваў сябе не вельмі хораша — з ночы ніяк не мог заснуць, таму, калі падняўся з ложка, рухаўся нібыта ў забыцці. Пра ўчарашнія падзеі адразу і не ўзгадаў. Адчыніў дзверы на кухню, позірк яго трапіў на вакно. «Што з вамі, дзядуля?!» — падскочыў бы любы, каб падтрымаць старога, які неяк дзіўна таргануўся і моцна пахіснуўся. На жаль, ніхто не мог прамовіць гэтыя словы ў такі ранні час на кухні спадара Арнольда.

А той, прываліўшыся да дзвярнога вушака, адной рукой трымаўся за сэрца, а другую слаба прыўзняў, нібы хацеў адмахнуцца ад дрэннага прывіду. З другога боку вакна, якое выходзіла прама ў сад, вялізная галава зазірала ў пакой і пляскала гіганцкімі вушамі. «Згінь, нячысцік! — сіпла вылаяўся ўладальнік на ўласны падарунак. — А я ўжо і забыўся на яго...»

Маладой дзяўчыне ў дыспетчарскай камунгаса спадар Ліс не стаў нічога тлумачыць. «Да дырэктара таксама зараз не варта ісці...» — падумаў стары і накіраваўся да дзвярэй з надпісам «Галоўны

інжынер». Гаспадар кабінета размаўляў па тэлефоне і рукой паказаў свайму наведвальніку, куды прысесці. Скончыў размову, павітаўся, спытаўся пра мэту візіту.

— Разумееце, праблема такая, — Арнольд Ліс зрабіў паўзу, — па нейкай недарэчнасці да мяне ў гарод трапіў слон.

— У сэнсе... — перапытаў галоўны інжынер.

— Вы толькі выслухайце мяне, я зараз паспрабую ўсё патлумачыць, — спешна пачаў гаварыць «дзіўны стары», як падумаў пра яго суразмоўца.

Ліс пераказаў гісторыю з «фурай».

— Пачакайце, пачакайце, — азадачаны кіраўнік імкнуўся адшукаць логіку ў словах старога, — і што, яны выгрузілі вам гэтага слана на агарод і з'ехалі?

— Менавіта так! — узрадаваўся спадар Арнольд зацікаўленасці свайго суразмоўцы.

«Некалькі месяцаў таму прыходзіў спецыяліст па пад'ёму царквы з дна возера. Казаў, што сам бачыў купал з крыжам. Таго ўдалося закадзіраваць. Яшчэ аднаго з тыдзень таму забралі адразу адсюль у псіхіятрычную клініку. Патрабаваў дастаць дзядзьку, які патануў у танку пасярод балота ў вайну. Шалёны быў, будаўнічая брыгада ледзь скруціла. А па гэтым, бачыш ты, і не сказаць — выглядае, здаецца, нармальна...»

— Ваша прозвішча, імя, імя па бацьку. Дакладны адрас...

Ліс выдаў інфармацыю не запнуўшыся і дадаў:

— Я былы кіраўнік мэблевай фабрыкі. Вы не падумайце, што я... «таго»... Разумею, сітуацыя і сапраўды ідыёцкая. Але ж да вас звяртаюся з той нагоды, што ваша служба займаецца бяздомнымі жывёламі — сабакамі, напрыклад, кошкамі рознымі... Вось і гэты беспрытульны цяпер...

Стары нарэшце падняў вочы. Той, хто сядзеў насупраць, здавалася, са спачуваннем глядзеў на незвычайнага візіцёра. Ці гэта была добра схаваная іронія?

У той дзень старому чалавеку давялося пабываць у розных установах — у ветлячэбніцы, санэпідэмстанцыі, у аддзеле экалогіі

райвыканкама, у лясгасе. Ён вельмі стаміўся ад бясконцых аповедаў пра гэтага «праклятага слана», ад рэакцыі тых, хто яго слухаў, — заўсёды аднолькавай, калі спачатку яго прымалі за вар’ята, потым на словах шкадавалі, абяцалі дапамагчы, а за спінай усміхаліся ўслед...

Увечары спадар Ліс ехаў дадому і таемна спадзяваўся, што за час яго адсутнасці з ІМ магло што-небудзь здарыцца, Пярун забяры гэтага Хатхі... Але, калі зайшоў у двор, зразумеў — усё засталося па-ранейшаму. Гаспадар здалёк кінуў тужлівы позірк туды, дзе яшчэ ўчора расла капуста, і няспешна пацягнуўся дадому.

На кухні наліў сабе кілішак каньяку. На вочы зноў трапіў ліст з канверта, які так і валяўся на стале. Дрыжачымі пальцамі стары разгарнуў пакамечаную паперу, начапіў акуляры і адразу ж напароўся на фразу: «...табе вельмі спадабаўся твой новы жарт, і ты стаў карыстацца ім увесь час. Больш за ўсё я ненавідзела цябе ў тыя хвіліны, калі ты пачынаў «вастрыць» ...»

Ён сам здзівіўся, наколькі добра ўзгадвае тое, што мелася на ўвазе: ёй было гадоў дванаццаць-трынаццаць, яна прасіла купіць гітару, звычайную танную акустычную гітару. Але ў святле ідэалагічных райкамаўскіх рэкамендацыяў аб «прарошчванні расткоў сапраўднай пралетарскай культуры ў сучаснай моладзі» ён не мог дапусціць, каб яго адзіная дачка «сышла ў падваротні». Нягледзячы на ўсе забароны, дачка сама знайшла недзе старэнькую шасціструнку і старанна вывучала на ёй акорды. Ён употай лаяў сябе за тое, што «прагледзеў» такі важны выхаваўчы момант, і ўвесь час наладжваў сцэны педагагічнага зместу, як яму падавалася, націскаючы на тое, каб дачка больш не вярталася да гэтага «агіднага брынькання»...

Аднойчы, калі бацька знаходзіўся ў добрым настроі, дачка паспрабавала завесці размову аб электрагітары. Здаецца, перад сваім шаснаццацігоддзем... Пасля скандалу, які адбыўся пасля гэтай размовы, яна першы раз сышла з дому. Яна вярталася і сыходзіла яшчэ шмат разоў. А ён са здзіўленнем назіраў, што кожны раз дома з’яўляўся ўсё больш дарослы і самастойны чалавек. Ён не жадаў здаваць сваіх пазіцый сямейнага лідара. Кожны раз сутыкненне

прынцыпова розных пунктаў гледжання прыводзіла да новага скандалу.

Як паважаны работнік абласнога ўзроўню і сур'ёзны кіраўнік, бацька запатрабаваў працягу адукацыі ў тэхнічнай ВНУ пасля заканчэння школы. Ён чамусьці лічыў, што толькі тэхнічная адукацыя мае сур'ёзныя перспектывы для грунтоўнай кар'еры. Яна паступіла на адзін з гуманітарных факультэтаў сталічнага ўніверсітэта. Ён палічыў, што гэта ўчынак насуперак бацьку.

Ён ніяк не суадносіў паступленне ва ўніверсітэт з захапленнем дачкі стварэннем тэкстаў і напісаннем песень. Хаця і ведаў аб яе стасунках з «патлатымі» музыкантамі, а таксама пра тое, што яна, нібыта, спявае ў нейкай «камандзе» (і не ведаў аб шалёнай папулярнасці яе каманды ў сталіцы і пра тое, што ў іншых гарадах яе запісы перапісваліся з касеты на касету, як сапраўдныя рарытэты). Ён не мог дапусціць, што ў гэтыя «бірулькі» можна гуляць сур'ёзна. Хаця крыху пазней адзін тэлефонны званок парушыў яго меркаванні. У хуткім часе з ім «у неафіцыйных абставінах» сустрэўся чалавек з вядомага камітэта і давярона, па-свойску параіў прыняць захады ў адносінах да дачкі. Але тата занадта доўга думаў — дачку ўжо адлічылі з шэрагаў студэнцтва. Пасля чаго яна ўвогуле надоўга знікла (але ж да хворай маці рэгулярна тэлефанавала, прыязджала да яе ў бальніцу, а калі-небудзь і на хвілiначку дадому). На той час бацька выйшаў на пенсію. Але працягваў займаць пасаду. Дачка самастойна падала заяву на працяг навучання ва ўніверсітэце. Хутка памерла маці. На пахаванні побач з дачкой увесь час быў нейкі піжон, нібыта нямецкі прадусар. З бацькам размовы не атрымалася.

У хуткім часе дачка з'ехала ў Нямеччыну, дзе досыць паспяхова для эмігранткі працягвала займацца музыкай і запісвала альбомы на ангельскай і нямецкай мовах. Ды бацька пра гэта ўжо не ведаў.

Але зараз, за кухонным сталом, нават тое нямногае, што было вядома спадару Арнольду, моцна ўсхвалявала яго. Нялёгка давалiся гэтыя ўспаміны. Ён разнерваваўся, скамечыў канверт з лістом і шпурнуў кудысьці ў куток.

Наступныя два дні Арнольд Ліс, па яго ўласнаму выразу, правёў у «хаджэннях па пакутах» — так ён назваў свае спробы дабіцца хоць якой-небудзь увагі да сваёй праблемы. Нарэшце, скарыстаўшы свае старыя сувязі, ён трапіў на прыём да старшыні гарвыканкама. Высокапастаўленай асобе далажылі, хто да яго зайшоў, і раптам старшыня першы пачаў размову:

— Пачакайце, пачакайце! Да мяне якраз учора ці пазаўчора прыйшла дзіўная папера ад нямецкага агенцтва «Мюзік-Сервіс»...

Ён знайшоў патрэбны ліст і зачытаў:

— Так... Так... «перадае ў падарунак спадару Арнольду Лісу, жыхару горада... так, слана па мянушцы Хатхі...» Гэта вашы імя і прозвішча напісаны тут? Таксама як і адрас?

— Імя, прозвішча і адрас мае... — сумна адказаў наведвальнік высокай установы.

— А Элен Майсен — вось такое імя і прозвішча вам ні аб чым не нагадвае?

— Не, упершыню чую, — шчыра прызнаўся спадар Арнольд. — Але ж вельмі вас прашу, зрабіце што-небудзь. Ён жа есць!

— Хто? — здзіўлена падняў бровы старшыня.

— Ну, Хатхі гэты... Ён ужо з'еў амаль увесь гарод, і не ведаю, што будзе далей!

— Цікавая сітуацыя... Добра, абавязкова што-небудзь прыдумаем! — упэўнена запэўніў свайго наведвальніка важны кіраўнік.

Тым часам чуткі пра слана, што жыве ў старога на агародзе, разнесліся па ўсім раёне. Быццам выпадкова ў двор да спадара Арнольда спрабавалі зазірнуць зусім незнаёмыя людзі. А што казаць пра дзяцей? Яны акупавалі ўсю бліжэйшую тэрыторыю і з самага ранку не давалі спакою гаспадару. Ён намагаўся іх ганяць, але дзейнічала гэта не надта эфектыўна. Нечакана на падмогу змучанаму старому прыйшла яго сталая суседка цётка Нора:

— Арнольд! І трэба табе ваявацца з гэтай ардой? Грошы з іх трэба браць, і ўсё будзе нармальна!

Стары толькі адмахнуўся:

— Пра што ты гаворыш, Нора! Яшчэ не хапала мне толькі цыркам заняцца!

Але цётка Нора сама наладзіла справу і стала браць з хлапцоў сімвалічную плату за ўваход. Да вялікага задавальнення дзяцей, слон умеў станавіцца на адно калена, і хлапчукі з лёгкасцю ўзбіраліся яму на спіну. Увечары цётка Нора зайшла на кухню, дзе сядзеў яе вельмі сумны сусед, і высыпала на стол ладную суму дробнымі купюрамі.

— Прыбрацца тут трэба было б... — гаспадарчым поглядам агледзелася жанчына вакол.

— Ды гары яно ўсё гарам... — прабурчэў стары.

— Не сумуй, Арнольд, я табе дапамагу!

Развязка адбылася хутка і нечакана. Аднойчы раніцай слон раптам перастаў есці і праляжаў цэлы дзень у кутку сада. Цётка Нора не падпускала да яго нікога з дзяцей. Наступным днём слон таксама не падняўся. Ляжаў з заплюшчанымі вачамі і цяжка дыхаў. Ноччу ён памёр. Жанчына пабачыла гэта з самага ранку. Яна палічыла, што ён памёр ад старасці. Арнольд Ліс выказаў меркаванне, што жывёліна магла атруціцца чымсьці на агародзе. Ніхто, зразумела, і не падумаў пра тое, што нават жывёліну маглі дастаць разборкі адных людзей з другімі. Пазіраючы са сваёй прыжыццёвай вышыні на тое, што адбываецца, слон меў поўнае права падумаць: «З якой нагоды я прыношу пакуты гэтым людзям і пакутую сам? За што мяне так занадта актыўна спрабуюць збыць з рук адны і з усёй моцы адбіваюцца іншыя? Навошта я быў так патрэбен спачатку, каб аказацца нікому не патрэбным у канцы? Ці калі я жывёліна, дык я не зразумею, што адбываецца?..»

Так здарылася, што якраз на гэты момант службы, да якіх раней беспаспяхова звяртаўся Арнольд Ліс, праявілі дзіўную актыўнасць, і пры сумесных дзеяннях тушу гіганцкай жывёліны тэрмінова разабралі і вывезлі. Цётка Нора ўвесь час дапамагала гаспадару наводзіць парадак у двары і ў хаце. Дайшоўшы ўвечары да ўборкі на кухні, яна выпадкова вымела скамечаны канверт. Ад вялікай цікавасці начапіла не свае акуляры і прачытала: «...Для мяне ар-

ганізавалі гастролі ў Варшаве, Вільні, Кіеве і Мінску. Я папрасіла менеджараў дазволіць вылучыць час на паездку да бацькі. Яны пагадзіліся, але папрасілі пацвярджэння ад цябе. Я даслала тры лісты, але з твайго боку поўнае маўчанне. Я вельмі раззлавалася! Ведаеш, я была проста раз'юшаная. У Мінску, у заапарку, я выкупіла старога слана. Зрабіць гэта было вельмі проста — былыя гаспадары ледзь зводзілі канцы з канцамі і з задавальненнем пазбавіліся ад аднаго з сур'ёзных пунктаў сваіх расходаў. Я дасылаю яго табе ў гонар тваёй таўстаскурасці. Ты заўсёды казаў, што я па жыцці раблю бязглуздыя ўчынкі. Ведаеш, ёсць такі выраз — «накаркаць». У дадзеным выпадку гэта адносіцца да цябе. Але ж як бы там ні было, ведай — я ніколі не забываюся пра цябе і, напэўна, вельмі цябе люблю. Твая дачка Алена».

На другім баку ліста знаходзілася нейкая інструкцыя. Цётка Нора паціснула плячыма, пакруціла паперу ў руках і кінула ў сметніцу. У той вечар яны са спадаром Арнольдам пачалі глядзець шматсерыйны ці то індыйскі, ці то афрыканскі серыял. Галоўным персанажам у ім, як ні дзіўна, апынуўся слон, які заўсёды рабіў правільныя і добрыя ўчынкі — шукаў дзяцей, што згубіліся ў джунглях, ратаваў дарослых ад бандытаў, тушыў пажары, перавозіў хворых, абараняў сваіх гаспадароў ад драпежнікаў. Праз кожныя пяцьдзесяць хвілін трансляцыя перарывалася бясконцымі рэкламнымі блокамі. У кожным з гэтых блокаў пракручвалі ролік, дзе на фоне запамінальнага гітарнага рыфа гучаў голас дыктара: «Гарачы рок з сэрца Еўропы! Элен Майсен з канцэртамі ў Варшаве, Вільні, Кіеве, Мінску!» Але як ні заглядала Пятроўна паўзверх акуляраў у бок спадара Арнольда, выраз яго твару не мяняўся. Здаецца, ніякія алегорыі тут не праходзілі. У сэнсе — спадар Арнольд так і не зразумеў, пра што размова...



## ЮЛІЯ НОВІК

*Нарадзілася ў 1985 годзе ў Салігорску. Да суполкі «Літаратурнае прадмесце» далучылася ў 2003 годзе, калі вучылася на першым курсе Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта, факультэта міжкультурных камунікацый. Друкавалася ў салігорскіх газетах, у часопісах «Полымя», «Маладосць», «Вожык», штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва», у калектыўным зборніку «Свет на дваіх». Аўтар кнігі вершаў «Сонца за тэрыконамі» (2007). Разам з Вікай Трэнас з'яўляецца арганізатарам культурных мерапрыемстваў, у тым ліку франка-беларускіх, у межах нефармальнай творчай суполкі «Прома-група ВЮ».*



1

Горад,
Тваё віно
Разліта ўва мне на дне.
Голас тваіх званоў
Зноўку прачне мяне.
Шум твой суцішыць боль.
Шум твой — жыццёвы крык.
Застаўся той, хто прывык.
Горад, твая сляза

Пад колам тваіх машын.
Прыгожым засне вакзал.
Прахожы, спяшайся жыць.
Горад,
Тваё імя —
У сонцах тваіх і днях.
Згараю ў тваіх агнях.
Жывая, пакуль твая.

2

Дзве святлафорныя хвіліны —
Й запаліцца святло тваёй усмешкі.
Ды вецер дзіўны
Шлях адзіны
Раскладвае на дзве сляпыя сцежкі.
Зверху ноты
Званоў ляцяць удалячынь.
Мы знойдзем тысячу прычын
Для апраўдання адзіноты.
Хацелі б крыху адпачыць
Мае фантазіі, але
Твой погляд быццам пісталет.
Ён забівае напавал.
Маленькі свет — дзявяты вал.

Тваёй усмешкі не было —
Гарыць чырвонае святло.

3

Плачуць рукі твае, туляцца
Да агню.
Захінае сабой вуліца
Цішыню.
За табою — зямля зорная.
За мной — снег.

Будзем вершамі мы створаны,
Каб страх збег.

4

Восень слепа звужае ранак.
Твар знаёмы здаецца цьмяным
За туманам. Ты апантаны.

Светласкуры і адзінокі,
Ты на сэрцы схаваў аблокі.
Проста ў вочы прарочыш моўчкі.

Светласкуры і дарагі,
Дай напіцца тваёй тугі.

5

Горад, якому верныя я і ты,
Ствараецца.
Кніга, з якой у восень лятуць лісты, —
То раніца.

Кранаю адбіткі нябачныя
Тваіх рук,
Аднымі маршрутамі
Страчаныя.
Прыступкі
Збяруць нашы крокі.
Сплываюць папрокі,
Ідэі і меркаванні.
Восень за намі.
Сонца паўзе.
Пальчаткі губляюцца па чарзе.
Губляемся мы за імі
У вулічным дыме.

6

З твару не пазна*е*ш мяне,
Ды сонца тваё начлежнае
Свяціла мне проста ў вокны
Так, што хацелася змоўкнуць
Аповесцю абарванай.

Годзе заказваць танец —
Муз*ы*ка яго перайначыў.
Ціха смяецца скрыпка,
А людзям здаецца — плача.

З прорвы паспею крыкнуць:
«Гэта не ваша справа!»
Толькі ў адказ пачую:
«Брава, актрыса, брава!»

7

Не адзінокі ты, не адзінокі:
Табе прадаў свой меч апошні вой.
Снег запарушыць вогненныя крокі,
Схаваны хлеб пакрышыцца ў сувой.

Не адзінокі ты, не адзічэлы:
Твой век глытае золата і медзь.
А ў тваім целе зноў крывавяць стрэлы,
Не даючы навекі ачарсцвець.

8

Мой спакой.
Снег ляціць,
Як мільён матылькоў,
На вячэрняга Мінска агні.
Сівізной пакрываюцца скроні
Чарговай зімы.
Ты з усімі, і ўсё ж ты адзін,

Як мастак у палоне карцін.
Дні гараць ад марозу.
Знаёмыя твары ўсміхацца не хочуць.
Мой спакой нараджаецца з болю.
Мой спакой нараджаецца з ночы.

9

Восеньскае віно —
Келіх смутку і сноў —
Пілі мы з табой даўно,
Свабодныя ад высноў.

Цяпер у тваіх лістах
І смак яго ёсць, і пах,
Цяпер у вершах сівых
П'ю яго я за дваіх.

10

Сонца болю,
Якое ты светлае!
Ты адзіна ўладарыш над нетрамі.
І вятрамі, што душы схалоджваюць,
Ты кіруеш — ты іх улагоджваеш.
Сонца болю,
Спалі мае думкі,
Тыя, за якія сорамна.
Ты аплоціш мае рахункі,
І голуб не стане воранам.
Сонца болю!
Адвечнае,
Ты свеціш ад рання да рання.
Тым, хто прымае цябе,
Узыходзіш ты, ведаю,
Сонцам Кахання.



## ТАЦЦЯНА ПРАТАСЕВІЧ

*Нарадзілася 17 лістапада 1967 года ў Мінску. Дзяцінства і школьныя гады прайшлі на Лагойшчыне. У 1985 годзе скончыла Косінскую сярэднюю школу, праз год — Жодзінскае СПТВ імя братоў Купрыянавых. Вершы пачала пісаць у 2001 годзе. Друкавалася ў рэспубліканскіх газетах і часопісах, калектыўных зборніках. Жыве і працуе ў Мінску. Арганізатар серыі імпрэз «А верш імкнецца да нябёсаў...» (Сумесны праект Паэтычнага тэатра «Арт.С» і Сацыяльнага аддзела Мінскай Епархіі Беларускай праваслаўнай царквы).*

---

### Камяні

Тут камяні растуць з зямлі,
Бо тут — таксама іх краіна.
Над імі леднікі былі,
Як нас і не было ў паміне.

Як сімвал вечнасці яны
Зямлёй узрошчаны, як памяць.
Як захаванне ад маны,
Якая часта часам правіць.

І над магіламі ўстаюць
Каменні, пліты, абеліскі,
І з цягам часу не даюць
Забыць людзей вялікіх, блізкіх.

Тут камяні растуць з зямлі,
Бо тут — таксама іх краіна.
Тут доўга камяні жылі,
Пакуль нас не было ў паміне.



Пах мядовы, ліпы квецень,
Слоў салодкіх смак падманны.
Загайдаў галінкі вецер,
Разганяючы туманы.
Памяркоўна крэсліш думкі,
З нот складаеш звон душэўны.
Ненароджаныя гукі
Для струны — нібы мішэні.
Трапны дотык — загучала,
Заспявала асяроддзе.
Нот, здаецца, вельмі мала —
Гукаў тысячу народзяць.
Пах мядовы, ліпы квецень.
Не плывуць ужо туманы.
Назаўсёды ў гэтым леце
Пакідаем мы падманнасць.



Ты пахнеш рамонкамі —
зноў варажыла
сяброўка мая на каханне і лёс.
І летнімі звонкімі
днямі расшыла
сукенку сваю, не шкадуючы слёз.

Ты марыш аблокамі,
Кветка зямная,
Не з іншых сусветаў прыйшоўшы любіць.
Маленькімі крокамі,
Як паспяваеш,
Ідзеш да таго, з кім жадаецца быць.

Ты пахнеш рамонкамі...
Ты іх палола!
Не рвала пялёсткі, спытаўшы адказ.
Прыгожа пад вокнамі,
Белены золак.
Прыходзьце, глядзіце, вось кветкі для вас!



Папараць-кветка, поўня і цень.
Толькі апоўнач, не ўбачыш удзень.
Толькі адна ноч падорыць дзівосы.
Папараць, сосны, яліны, бярозы.

Я ж тую кветку не ў лесе шукаю,
Як расквітнее ў пакоі, чакаю.
Папараць-кветкай здаюцца лісточкі
Дзіўнай Купала-Іванаўскай ночкай.

Поўня на цені ўскрывае бутон!
Нават не ведаю: ява ці сон?
Кветку ж сарваць са сцяны немагчыма,
Здзіўлена толькі ўглядацца вачыма.

Вецер па небе зноў воблакі гоне,
І захінаецца срэбная поўня.
Знікла і кветка з-за хмаркі высокай,
Што не паспела міргнуць нават вока.

Вось летуценнае шчасце зямное:
У рукі не ўзяць, проста прывід і мроя.



Сум генетычна разбаўлены ў нашай крыві.
*Леанід Дранько-Майсюк. «Паэтаграфічны раман»*

Сум генетычна разбаўлены ў нашай крыві.
Мне прапаноўваюць лекі: віно і каханне.
А выбіраю я вершы, душой што крывіць!
Гэта маё безназоўнае выратаванне.

Не называю, каму, для чаго і нашто
Вершы запісаны з думак, пачуццяў і слёзаў.
Як перасаджана кветка ў другое кашпо,
Гэтым змяніўшы жыццё, ды насуперак лёсу.

Сум падмацую самотай у дзённым жыцці.
Тут не атрута, а пэўнае суіснаванне.
Час застывае, ці крыху марудней ляціць...
Добры мой сум, яму дзякуй за ўсе вершаванні.



А кветкі не сумуюць. Толькі,
Калі засмягне горла іх,
Галовы схіляць. І ўсе сокі
Загуснуць. Стане горка ім.

І горка мне. Атрутнай кветкай,
Каханнем званаю між вас,
Я абпілася. Сэрца рэдка
І моцна грукае падчас.

І не трапляюцца мне лекі.
Палю ў сабе душэўны боль...
Калі перасыхаюць рэкі —
Ратуе вечная любоў.



Вы — камета мая.
Праімчалі, хвастом апаліўшы,
Падарыўшы каханне і зорных часцінак святло.
Ды не ведала я,
Што, любоўю жыццё асвяціўшы,
Не забуду спаткання, якое б жыццё ні было.
Вы — камета мая,
А перыяд мне ваш невядомы.
І шукаю дарма ў цёмным небе знаёмы агонь.
Не пакутую я,
А чакаю, чакаю да стомы,
Як празрысты прамень ваш ласкава сагрэе далонь.



## АКСАНА СПРЫНЧАН

*Нарадзілася ў паэзіі Лунінца. Пасля філфака БДУ і аспірантуры Інстытута літаратуры НАН Беларусі працавала ў выдавецтве «Беларуская Энцыклапедыя», цяпер — у «Мастацкай літаратуры». Пачала пісаць 13.04.2000. Аўтар кніг паэзіі «Вершы ад А.» (2004), «ЖываЯ» (2008), «Нелінейнае» (2012), «Хата для Моўчы» (2007), SMS-п'есКІ з антрактам-размовай праз тэлефон «Дарога і Шлях» (2009, з А. Анціпенкам), «жаноцкага рамана» «Беларускі дурань» (2011). Піша для дзяцей, разам з Я. Малішэўскім стварыла «Незвычайную энцыклапедыю беларускіх народных інструментаў» (2010). Дырэктарка Паэтычнага тэатра «Арт.С» (art-s.by). Пераможца разнастайных конкурсаў і ўладальніца Гран-пры Аднаго кахання. Уважае жабак за сімвал Беларусі, а Лысую гару — за вышыню, у якой лёгка лунаць пасля доўгага жыцця.*



цела маё стане
зямлёю
душа мая стане
небам
а пакуль я —

рыса далягляду —
колькі ні набліжайся
аддаляюся
каб застацца сабою

## АЭС: А.С.

аблокі нагадваюць блокі АЭС
сваячкі —
паводле гучання ініцыялаў
я таксама А.С.
згодна майго
ўлюбёнага прынцыпу трох «Э»
усё ў жыцці павінна быць
энергетычна,
эратычна
і эстэтычна
у ім няма месца
ніякім блокам
апрача Аляксандра
які пакутаваў на Палессі
дзе пасля ў пакутах
нарадзілася я
аблокі нагадваюць блокі АЭС
энергетыка і выпраменьванне-атрута
найбольшыя ўва мне
распад
праз самоту гадоў
радкоў
і ніякіх падкоў
хіба што дэталі
ў сеялках і камбайнах 1950-х гадоў
выкаваныя на «Гомсельмашы»
маім дзедам кавалём

іржавеюць
у свеце, дзе ёсць
АЭС
А.С.



*Лунінцу — роднаму чыгуначнаму вузлу*

весці рэй
рэйкам і шпалам
шалу
(якi са мной сувымерны)
цягнікоў
з нікамі местаў,
мястэчак
з нумарамі месцаў
згары і здолу
бочных і з боку ад бочных
у СВ ці ў агульным вагоне
палі і гоні
купэ ці плацкарта
віновая карта
мапа на століку
маштаб: адзін да аднаго жыцця
сувымернасці вымя
смокчуць вужакі-рэйкі
а кропля застаецца табе
зліжы язы.com
«Komm zu mir!»
не паспеў на цягнік
стоп-кран
стоп-рана
спуск, платформа

адпаведнасць-неадпаведнасць
формы і зместу
мы
завязаныя ў вузел
начны



я абіраю бульбу
я абіраю Беларусь
не трэба іншага раю
ды і пекла іншага не трэба
гэтак жа думаюць
каларадскія жукі
неўзабаве пачнецца
сезон змагання
з аднадумцамі



Скрыжаванне са снежнем —
белым крыжам і чорным.
Скрыжаванне з самотай —
светлым крыжам і цёмным.
Скрыжаванне з Радзімай —
вечным крыжам і буднім.
Скрыжаванне з сабою —
белым крыжам і чорным,
светлым крыжам і цёмным,
вечным крыжам і буднім.
І зноўку ратуюць
Каляды...



Сонца — бясконца,
дзень — цень,
ночы — вочы,
глеба — неба,
трывога — дарога,
людзей — надзей,
воля — доля,
чалавек — век,
краіна — сына...

У найбанальнейшых рыфмах —
глыбокі верлібр жыцця.



У адзіноце
ўзгадваю
назвы нотаў.
**ДО**,
**РЭ**,
        **МІ**,
        **ФА**,
                **СОЛЬ**,
                **ЛЯ**,
                        **СІ**,
                        **ДО**-
сыць
называць
непатрэбнае,
бо не спяю паводле нотаў
ніводнага імгнення жыцця.
Але з душою спяю пра

**ДО**лю,
і **РЭ**ха,
        і **МІ**лаванне,
        і **ФА**нтазію,
                і **СОЛЬ** зямлі,
                і **ЛЯ**сы,
                        і **СІ**нечу,
                        і **ДО**-
сыць...

## Прыбіраючы кватэру

У сонечным промні,
які ўварваўся ў кватэру
праз фіранку на акне,
выконваюць апошні танец
пылінкі.

Не кожнаму дадзена
танцаваць перад смерцю.



Падалося —
ужо не жыву.
Ды сняжынкі
на мне паміралі.

## Шчасце

Пакарміце
маленькую
птушку —

сінічку.
І пасля
да вас прыляціць
вялікая сіняя птушка —
сініца.



Я хачу стаць гэтым дажджом,
бо мне не стае маіх слёз...

Ты хочаш стаць гэтым дажджом,
каб не бачыць маіх слёз...



Да яшчаркі
так пяшчотна дакранулася,
што хвост мне
не пакінула.

Думала — да (пра) цябе...



А ў тваёй руцэ —
не мая рука,
а ў маёй рацэ —
камяні на дне.
Камяні, што кідалі
мы, шчаслівыя,
а кругі ад іх
разышліся, згінулі...

У тваёй рацэ
камень, што не тоне,
на маёй руцэ
крыжык,
каб успомніць...



Так даўно не прыходзілі словы —
Дзве поўні паспелі
Неба напоўніць тугою
І знікнуць.
Неаднойчы мне снілася —
Зорка ляціць
І разбіваецца
Аб чужыя жаданні кахання і славы.
І я шукаю яе,
Каб пахаваць
Згодна звычаям зорным
Паміж словаў і сноў...



Вы казалі — мядовыя,
Вы казалі — чайныя,
Арэхавыя і шакаладныя
Вочы мае.
Вы кахалі — мядовыя.
Вы кахалі — чайныя.
Арэхавыя і шакаладныя
Вочы мае.
Не казалі — самотныя.
Не кахалі — самотныя.



І малявала сонца на ім
прамянямі ігрыстымі,
весялілася...
І знікала.
І вецер гуляў па ім
подыхам бестурботным —
і знікаў.
І толькі дождж плакаў,
гледзячы на чысты аркуш
і разумеючы сваю бездапаможнасць.
І выпадкова маляваў слязьмі
бачны малюнак.
Мастак, які
пакутаваў.



## ВІКА ТРЭНАС

*Віка Трэнас (Вікторыя Ляйкоўская) нарадзілася ў Мінску. Скончыла філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта. Цяпер працуе рэдактарам аддзела паэзіі часопіса «Маладосць». Аўтар паэтычных кніг «Цуд канфіскаванага дзяцінства» (2005), «Экзістэнцыйны пейзаж» (2008). Творы перакладаліся на рускую, нямецкую, балгарскую, шведскую, французскую, літоўскую і польскую мовы. Сябра суполкі «Літаратурнае прадмесце» фактычна з першых яе пасяджэнняў.*



мы не біліся галавой аб мур
не імкнуліся яго абысці
быць замкнёным ва ўласнай сутнасці
значна лепей, бо выйсце ўнутры, таму

час спыніцца, каб карані пусціць
у прамерзлую глебу пад мурам
час адно ў аднаго пусціць карані
і яны гэты мур разбураць

### Дарога ў апраметную

гэта ён — час раскіданых гнёздаў
зазірае мне ў вочы па-воўчы
і пытае ці смачная кава

на шляху Гродна — Вільня — Варшава
так — у горле камяк, а на дне філіжанкі — туга

гэта я — па шляхах як па лёзах
з асцярогай дзялю дні і ночы
каб было нам пароўну
ліўняў, сонца і поўні
каб адна на дваіх — смуга

гэта ён — важна важка сур'ёзна
і з прарочага шляху не збочыць
плойма лоўчых у словаў
процьма пастак для нотаў
калі ў словах і нотах — пяшчота

гэта я — разлітыя слёзы
па кілішках у тых, хто сочыць
за свабодай і пестуе жах
ці не мы на іхніх шляхах
каб халодным абліцца потам
каб пачысціць зброю — на потым

покуль вернуцца птушкі гаротныя
Варшава. Вільня. Гародня



Ты кажаш: змагайся! Трымае мяне за руку
Пяшчота маланак і здушаны шэпт навальніц.
Усмешкаю ветлай, няхай мы заціснуты ў кут,
Збалелае сэрца крані.

Няхай не сабраць раскіданых для нас камянёў —
Маўчы, мой анёл.
Калі каралі без каронаў, а дрэвы без каранёў —
Цярпі, мой анёл.



Называй ты гэта як хочаш.
Цяжкая туга ці чуйная роспач,
чуццё, пачуццё ці голас крыві,
бо прыйдзе само — заві не заві.

Ісці за ім след у след — галоўнае,
бо калі завіруха ў галовах — не
ўратавацца — хіба што спёкай у сэрцы,
пясчынкай у пустцы ці птушкай у клетцы,
хоць і смага ад зноў не прамоўленых слоў.
У сутве не хапае ні сноў, ні слёз,
а стае толькі —
рэха ад слоў,
прорваў ад сноў,
солі ад слёз.
Ды не знаеш: ці ў вырай вярнуцца,
ці з віру напіцца,
ці жвірам засыпацца.

Перабіраеш горы драбніцаў.
Гора драбніцца.

## Прыпавесць

Ты, верная,
не спала па начах.
Плылі перад вачыма
карцінкі з выстаўкі
ўніз па цячэнні Леты.
Ты ў соты раз заходзіла ў раку,
вылоўлівала згадкі, а яны
цяклі скрозь пальцы.

Тваё жыццё — то плыткі, то глыбокі сум
плюс сума папярэдніх жыццяў.

Ты, шчырая,
свайго імя ў газетных загалоўках
баялася.
Ці шчасце жыць з распранутай душой?
Яна сатканая з пяшчоты,
бы скура немаўляці,
і мае дзіўнаваты прысмак
ці то крыві, ці то сакуры. А насамрэч —
смак вершаў,
бо слова стала тваім целам.

Ты, чыстая, —
скарбонка
яго пажадных позіркаў,
ледзь заўважных дотыкаў
і няўлоўных подыхаў,
разменьваеш свой свет на медзякі,
не чакаючы падзякі,
толькі таму,
што з глыбіні яго вачэй
на цябе глядзіць заспаная свабода.

## Застацца

Калі б хтосьці ведаў, які гэта боль —
аддаць тое, што не належыць
табе, і застацца з самім сабой,
бы стоўпнік на вежы.
І зліцца з ценем чужым, і сном
душу чужую наведваць,
прычым ад самога сябе крадком —
калі б хтосьці ведаў.

Цалую ў вільготныя вусны, а тут —
і людзі, і рэчы
ў пустэльні сусвету паціху растуць,
няйначай,
з цямрэчы.
Па хвілі штодзённа ў табе зноў яны
выспельваюць вусціш.
Кранаю, каб свет не пазбегнуў маны,
вільготныя вусны.



штоpанак са дна маіх вачніц
ты чэрпаеш слёзы поўнымі прыгаршчамі
і з іх нараджаюцца словы
кожнае слова — аголенае і прыўкраснае
бы Венера якая выйшла на бераг
разам з бурлівай хваляй
штовечар я зноў
нікім не адкрытая нікім не адрынутая
і ў бяссонных вільготных вачах маіх —
бездань



Будзь палахлівы, мне вочы завязвай стужкай,
Будзь асцярожны і не кранай мне раны.
Як па лязе, я хадзіла па небакраі,
Я падкідала вершы маўклівым птушкам

У занядбаныя, разрабаваныя гнёзды.
Бог даруе табе, бо я не дарую,
Ссохлай зямлі жменьку слёз сваіх ахвярую.
Бегла паўз зоркі — ды толькі не зоркі, а лёзы

Там, дзе шукаеш ты, а цябе не шукаюць,
Там, дзе спаткаеш ты, а цябе не спаткаюць.



болю пабітае шкло — крывяцца вусны
доўга не бачыць цябе — гэта памяць навобмацак
я з ланцуга пекных сноў хутка сарвуся
мне пяшчоты тваёй засталося вобмаль

дайце адолець тужлівую душную далеч
там ты сышоў з цягніка і, пакрыўджаны некім,
доўга ўзіраешся ў постаці на вакзале
ветрык кранае пужлівыя дрогкія вейкі

як да анёла ў нямое дагрукацца неба?
быццам бы позняй вясны, як цябе дагукацца?
верш, я і ты — нас навучаць па сходнай цане
танга ўтраіх па законах класічнага танца

ліпа ўсміхаецца нованароджаным лісцем
душы гняздуюць няхай, дзе крумкач начуе
дождж-чужаніца табе за каўнер будзе ліцца
ў шэпце прарослай травы ты мяне пачуеш

## Моўкны свет

Пах скошанай травы. У цэнтры горада.
Стаю, збялелая ад гора, гордая,
І ў твары выпадковых слухачоў
Крычу. І чуе нават хмарачос.

Мне набалелы белы бэз. Мой толькі смутак.
Май мае што сказаць, ды суму так

Няёмка перад ім, і ён дажджом прайшоў.
Мне млосна без цябе. І ў гэтым шоу

Я стану мурашом на той травінцы,
Якую ты сарвеш. Ты ў навальніцу
Ідзі. Там будзе верш. Там горад наш увесь.
Знайдзі. Разгавары мой моўкны свет.



## ГАННА ФЕДАРУК

*Нарадзілася ў Мінску, скончыла педагагічны ўніверсітэт імя М. Танка, зараз працуе рэжысёрам, здымаецца ў кіно. Займаецца ўсходнімі танцамі.*

### Ратаванне

Сівер знадворку суровы.
Брама шчанём рыпіць.
Печ, затуляючы дровы,
Грэе старанна, не спіць.

Зоркі звіняць быццам хорам,
Клічуць стары ліхтар.
Той адгукаецца, хворы,
Гоніць далоў пачвар.

Вечар, здаецца, быў ціхі.
Спаў-пазяхаў наш край,
Толькі шапталі мне кнігі:
«Ёсць што чытаць. Чытай».



Казкі розныя чытала.
Казкі чула, і нямала,
Асабліва ад мужчын,
Але быў такі адзін:
Я за праўду з казак словы
Усе прымала адмыслова.
І аднойчы ноччу мне

Прынц з’явіўся у акне.
Ну дык вось і з той пары
Мой кумір — Экзюперы.



Нябачную коўдру спляту
З маіх успамінаў і веры.
Аддам я старому кату,
Хай цешыцца ўзімку, мой шэры.

Гадзіннік праб’е, за душой
Пануе час восені кволай.
І думы ляцяць чарадой.
Рыпіць адзінокае кола.

## Калыханка

Чуеш, дзіця, як апошні цягнік
Песню пра долю сваю нам спявае?
Сонечны вусік пад коўдраю знік.
Вецер дзесь кроны-калыскі гайдае.

Вочы павольна заплюшчы свае,
Думкі няхай быццам з дрэваў злятаюць.
Сон каляровы анёл прынясе,
І пакладзе ён на ложак твой з краю.

Спі, мой маленькі, спі, залаты.
Там ты убачыш блакітную птушку.
Хай пыляцяць да цябе жуpавы,
Песню пяшчотна курлычуць на вушка.

Вочы павольна заплюшчы свае,
Думкі няхай быццам з дрэваў злятаюць.

Сон каляровы анёл прынясе,
І пакладзе ён на ложак твой з краю.



Не насміхайся моцна, бабіна ты лета.
Не пакідай на вейках павуцінне.
Я не хачу падманам быць сагрэтай.
Прашу, не замінай на пуцявіне.

Не казычы мяне ты прамянямі,
Бо слёзы капаюць ужо нястрымна.
Не бі халодным ветрам, камянямі
І не пужай сваім ваўчыным гімнам.

Не засцілай чырвоным лісцем мне дарогу.
Не бачу ў гэтым гонару і ласкі.
Я адчуваю толькі горкую трывогу
І позірк часу адчуваю цяжкі.



Душа мая паўнюткая кахання,
Нібы рачулка ранняю вясной,
Імкнецца і не ведае чакання,
Бо ты прагнаў зімовы мой спакой.

Прагнаў і не спытаў майго дазволу.
Ты праляцеў магутным каршуком.
Крылом разрэзаў сэрца напалову
І цішыню змяніў на летні гром.

А я ўздымаю зноў далоні ў неба,
Каб дакрануцца да ружовых мар

І паляцець вышэй за тое срэбра,
І наталіць дажджом душы пажар.

## У час кахання...

У цёпленькім ложку на золку прачнуся...
Ахвотна адкінуўшы коўдру сваю,
Святой Багародзіцы я пакланюся...
Успомню, як сонца, усмешку тваю...

Раскрыю я вочы маленькае хаткі,
Пушчу цеплыню я ў абдымкі яе...
Нібыта вавёрка навёўшы парадкі,
Скажу прывітанне жыццёвай вясне.

Пакрочу да студні сцяжынкаю роснай,
Дзе шэпча паданні разгалісты дуб.
Каб дзень усміхаўся вам сонечным лёсам,
Дарогу я з поўным вядром перайду.



Усмешка твая, нібы павуцінка,
У зрэнках маіх.
Немагчыма так жыць —
Замінае.



## ІНА ФРАЛОВА

*Нарадзілася 6 жніўня 1972 года ў Мінску. Скончыла Беларускі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт імя Максіма Танка. Друкавалася ў часопісе «Алеся», газеце «Літаратура і мастацтва», аўтар кнігі паэзіі «Чакаю першы снег» (2011). Спявае ў гурце народнай песні «Вербіца».*



Я скажу табе, восень: бывай!
Мне сягоння збірацца ў дарогу.
І са шчырай малітваю Богу
На дарожку прысядзем давай!

Ляжа шырака, восень, мой крок —
Па вярсце — праз мароз і завеі,
Бо з мяне халады-скарабеі
Жыватворны высмоктваюць сок.

Не зраслося, за ўсё выбачай!
З пералётнымі я адлятаю.
Загараецца ранак. Світае.
Ты мяне з новым днём не чакай!

Я скажу табе, восень: бывай!
Будзь зычлівай, мне сёння ў вандроўку.
Пакладзі ліст кляновы ў паштоўку...
Я пайду. Зачакаецца май!



Як па вокнах вясковых узоры
Размалюе мароз малады,
Як узыдуць калядныя зоры,
Мы спаткаемся, дружа, тады.

Мы спаткаемся, дружа, з табою —
Адагрэцца пяшчотаю слоў!
Да твайго я пляча галавою
Прыхінуся шчасліва ізноў.

Будзе радасцю звонкай спавіта
Гэта стрэча. І зорка, як знак
Блаславення нябёсаў нібыта,
На імгненне асветліць бальшак.

Як па вокнах вясковых узоры
Размалюе мароз малады,
Як узыдуць калядныя зоры,
Мы спаткаемся, дружа, тады.



Мой майскі сад, вясновы сад,
Сягоння адзічэлы.
Стаіш, маркоцішся ля хат,
Расквечаны і белы.
Да рук не лашчышся галлём,
Як малады калісьці —
Мяне сустрэўшы гожым днём,
Шумеў зялёным лісцем.
Цяпер чаго, мой бедны сад,
Дрыжыш стары, збуцвелы?
Каго чакаеш ты назад,
Мой сад асірацелы?



Ірдзела лісцё сарамлівай таполі
У час, калі мы абяцалі кахаць
Навекі адзін аднаго. І ніколі
Пярсцёнак кляліся з рукі не здымаць.
А часам, бывала, жыццёвую просінь
Заносіла снегам, а потым і скронь.
Усё як раней! Толькі ў гэтую восень
Тваю больш пяшчотна сціскаю далонь.
Нясмела ірдзелі лісты на таполі...

## Чакаю першы снег

Не хапае дакладнасці выцертых слоў,
Ад няздольнасці душыць знямога.
І пад цяжкаю коўдрай бурштынавых сноў —
Абрываецца ў заўтра дарога...
Не хачу забываць пра прывабнасць жыцця,
І размах яго крылаў свабодны.
Я чакаю цябе, ратавальнік быцця —
Першы снег, малады і халодны.



Зранку котка трэцца каля ног,
Ні на крок мяне не адпускае.
Развітаемся, прысеўшы на парог,
Бо цягнік нікога не чакае.
Застануцца ў квецені сады
І лясоў сасновых доўгі шэраг.
Я вярнуся, котачка, сюды —
На свой белы ад туманаў бераг.

Я вярнуся да сваёй вясны,
Завітаю ў хату на світанні.
А пакуль аб Беларусі сны
Забяру з сабой у вандраванні.



Асенні вечар. Манастырскі двор.
І непагадзь бязмесячна-сляпая
Далонямі абветраны прастор
Шалёна лапае, як быццам бы жывая...

На тым дзядзінцы толькі я і ты
Укленчана стаялі ля парога.
Маліўся ты, а я нясла лісты
У вершах-споведзях да Найсвятога Бога.

Лісцё ляцела мокрае у твар,
Дажджы змывалі літары з паперы.
«Мір вам!» — пяяў сівы святар,
Калі у Храм мы адчынілі дзверы.

Касых дажджоў заенчылі басы.
Вятры, як вoі, білі сцены Храма.
І стаў спакой, што дорaць абразы,
Нібыта ў рай расчыненая брама.



Адышло. Больш не вернецца цёплае лета.
Ад яго босых ног я дарэмна шукаю сляды.
А яны, быццам з яблыні белым прываблівым цветам,
Зацярушаны снегам. Лютуюць вакол халады.

Хто падкажа, дзе спяць патаемныя сцежкі,
І куды, і адкуль яны шумнае лета завуць?
Можа, там маладосць, што дарыла каханым усмешкі?
Можа, мне маладосць тыя сцежкі назад прывядуць...



## АЛЕНА ХАРУК

*Нарадзілася ў 1988 годзе ў вёсцы Дубравы Маладзечанскага раёна. У 2011 годзе скончыла Беларускі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт. Зараз працуе настаўніцай англійскай мовы. Першы апублікаваны верш з'явіўся ў 2006 годзе. У «Літаратурным прадмесці» — з 2008 года.*

### Перапіска

Табе адрасую вечар
У трэцім маім лісце.
Няхай мае словы сведчаць,
Што змрок за вакном згусцеў.

І неба старой тканінай
Абвісла крыху з бакоў.
Я пісьмы пісаць пакіну!
...А потым пачну ізноў.

І мне не шкада паперы,
Пішу чыставік жыцця,
І кожным радком я веру:
Мы разам складзём працяг.

І восені дні пустыя
Нарэшце згараць датла,
Як толькі ўсе пісьмы тыя
Насмелюся я даслаць.

## Ліхтары

Горад забыўся на вечар.
Тут, у святле ліхтароў,
Неяк зусім недарэчна —
Дзень, што яшчэ не сышоў.

Сонца, нібы астраўкамі
Колеру якасці лямп,
Свеціцца пад ліхтарамі
Сотнямі жоўтых плям.

Зараз мне вельмі нязручна
Верыць і марыць услых,
Бо атрымаюцца штучна
Некалькі гукаў пустых.

Штучныя радасць і гора
Добра ідуць да пары...
Хочацца-хочацца зорак,
Толькі вакол ліхтары.

## Радок

На адвароце старой той паштоўкі —
Вось жа знайшлася ў пісьмовым стале —
Хтосьці размашыста простым алоўкам
Словы надрапаў: кахаю, але...

Што за сумненне выказвае аўтар?
Хто ён? І хто быў яго адрасат?
Зноў спрабавала зацята ды ўпарта
Час павярнуць хоць бы крышку назад.

Мабыць, за гэтым пасланнем кароткім
Мноства старонак, мо' цэлы раман?

Толькі, на жаль, не знаходзіцца сродкаў,
Каб разгадаць, што хавае туман.

Час, як галоўны суддзя і свавольнік,
Нават не ўспрыме мой ціхі папрок,
Бо, не жадаючы, вельмі павольна
Ён ад пачуццяў пакінуў радок.

## Ад твайго парога

Ад твайго парога да майго —
Некалькі гадзін у цягніку.
Цягнуцца нібыта цэлы год.
Падпіраю ля вакна шчаку.

Зрэдзь калі змяняецца пейзаж:
Лес, палі, сяло, ізноў палі.
І чырвонай ніткаю наўсцяж
Восеньскі настрой па ўсёй зямлі.

Быццам бы не верачы вачам,
Я бясконца еду ўсё далей,
Каб знайсці таго, хто распачаў
Фарбаваць у жоўты колер лес.

Бессэнсоўны пошук наўздагон.
Мой прыпынак. Вецер. Дождж нудзіць.
Ад твайго парога да майго
Восені на некалькі гадзін.

## Снежаньскае

На крэсле кот прылёг, і звесіў лапу,
І пазірае ўдумліва ў вакно.
Як быццам бы са стомай на канапу,
Так з неба на зямлю кладзецца ноч —

Па-снежаньску багатая на зоры,
Халодная, празрыстая, бы шкло.
І чуцен гук далёка на прасторы,
І бачна нават цьмянае святло.

І хочацца сарвацца і пабегчы
Па сцежках, што іскрысты снег збяліў,
Да месяца, да зораў на сустрэчу
На край зімы, дзе неба ля зямлі.

Стаміўся коцік цікаваць за ноччу,
Заснуў, схаваўшы ў футра цёплы нос.
А я нібы кудысь па зорках крочу:
Вачэй не адрываю ад нябёс.



Хіба пачуцці сэрца не шчымяць?
І кіламетраў тысячы — то мала?
Я засынаю і шапчу імя,
Якое ўголас часта называла.

Цяпер яно — малітва і сакрэт,
Альтэрнатыва антыдэпрэсантам,
А час няўмольны і бясконцы свет
Не пакідаюць ніякіх гарантый.

І як пасля сыдуцца лёс і шлях?
І як не стаць пужлівай малаверцай?

Тут пішуць, стала меншаю Зямля.
То можа быць, ды толькі не для сэрца.



Я так легкадумна пакінула лета
На тым, на далёкім падманлівым беразе.
Падобны крыху, ды цяплом не сагрэты,
Стагоддзямі цягнецца-цягнецца верасень.

А сон як лякарства, што стала атрутай.
Мне бачыцца возера з лёгкімі хвалямі.
Там вечар, і сцежка, і човен... і смутак,
Бо на маяку аганёк не запалены.

Я стала сабе незнаёмай, не чулай,
А памяць пакорліва ставіла клічнікі.
Цяпер невылечна хварэю мінулым.
...А хутка пачнуцца стагоддзі кастрычніка.

## Душу аддаць

Аддаць сябе за рэха Вашых слоў,
За прывід шчасця блізкі і далёкі,
Душу аддаць, каб толькі зноў і зноў
Гучалі дзесьці побач Вашы крокі.

І неба ў колер зорнага святла
Не бачыла мяне у адзіноце,
Каб поўня ўсю бяду маю звяла
І месца не пакінула самоце...

Аддаць, не патрабуючы назад
Ні цёплы подых ветру, ні спатканне,

Ні тое, што хацелася сказаць,
Ні сумны погляд мой на развітанне.

Стаць летуценніцай і марыць аб жыцці,
Ці ў небе прамільгнуць мільёнам знічак...
Душу аддаць, а потым прэч пайсці
З надзеяю, што ты мяне паклічаш.

## Імгненне

Дазвольце зазірнуць у Вашы вочы,
Дазвольце дакрануцца да рукі.
Каханне гэта хтосьці напрарочыў,
А можа, проста лёс у нас такі —

Спыніцца на салодкую хвіліну
У свеце незвычайнай мітусні.
А потым знікнуць зноў і не пакінуць
Пасля сябе ні праўды, ні хлусні.

Дзвюх пар вачэй хвілінная сустрэча
У натоўпе несупыннага вакзала...
Вы будзеце смяяцца... Ўсё ж, дарэчы,
Я цэлае імгненне Вас кахала.



## АДАМ ШОСТАК

*Працуе мастацтвазнаўцам, займаецца перформансамі. Жыве ў Мінску. Сцвярджае: «Для мяне асабіста «Літаратурнае прадмесце» — гэта і маніфест, і лірычная споведзь»... Аўтар двух зборнікаў вершаў.*



Дзяўчына плача ў царкве,
нямымі слязьмі засцінае паветра,
а побач ідуць цягнікі
у малавядомую шэрань.

Цягнікі адыходзяць з перонаў —
іх грукат ужо невыносны;
вядома, зноў нехта заплача
між гэтае процьмы вагонаў.

Туман нам сядае на скроні
і засціць вочы нам употай...

У храме —
нямая дзяўчынка
нібыта
плача
уголас.

## Бруканванка

...Ты скраў каменне
са старой брукаванкі;
на кавалкі пакрышыў яго.
А тыя кавалкі
памножыў
на... ксераксе
і выклаў паркетам.

...Іх доўга паліравалі
абцасы салонных паненак,
але зарастала
пустазельнай зграяй
паркетная глеба.

...А па старой брукаванцы,
як і стагоддзі таму,
імчаць коні, фурманкі...

...І людзі не зразумеюць,
чаго
бракуе зараз
ёй...

## Пухнатая

1

Хочаш, мы пагуляем
уздоўж трамвайных шляхоў?
Мы: людзі, трамваі,
і месяц, і зоркі?..
Хочаш, толькі адчуй:
нараджаецца нешта ізноў.
І вецер, і ветразь,

і думкі лунаюць навокал,
праменьчык цябе —
мой лірычны герой —
вяртае святло
ўздоўж пухнатых аблокаў...

2

Дзень сціраецца промнямі хмараў,
самотным позіркам засынае ў сусвеце,
покрывам шэрым па срэбным па лісці
плача высока натхнёнае неба.

У самой велізарнай сталіцы
нікога няма без цябе;
твая пухнатая ўсмешка
знікае, бы ў Льюіса Кэрала.

Намалюй мне начныя дажджы
і блакітны кратар між хмараў.

Не знікай, калі ласка, прашу,
я цябе невыносна кахаю...



калі адыходзіць цягнік
спазняюся часам і я
застаюся
і гэта не страшна
мяне
ТАМ
ніхто не чакае

а што тыя вершы
зусім нічога не значаць яны
і знікаюць

і гэта не страшна
бо іх
ТУТ
ніхто не пачуе

спяшацца не трэба
не плач
забыцца на ўсё
шкадаваць больш не варта
і сон наш не страшны
бо зараз
чакаем адзін аднаго
МЫ

бо мы спазніліся
на цягнік у напрамку
ТУДЫ
бо нас ніхто не чакае
ТАМ



з'язджаў са старой кватэры
пакінуў сухія кветкі
на люстэрку нямым і не мытым
даўно

з'язджаў са старой кватэры
апошні раз азірнуўся на ганку
галаслівым і гучным калісьці

і ўгледзеў маленькі
шкляны слоічак
у якім
як колькі год таму

стаялі кветкі
ад цябе

з’язджаў са старой кватэры
заўсёды праблемы з ключамі
ты ж ведаеш
і валізы вытрымаць вантажу*
не могуць

пакінуў слоік
поўны сухіх кветак
у кватэры пустой

і з’ехаў



нас частавалі
з фамільнага срэбра
адной толькі стравай
зусім небагатай

ты лічыш дні-тыдні дарма
у кішэні мацаеш пашпарт
з транзітнаю візай

а пасля абеду
шляхта з-над Піны
моўчкі разышлася
нам пакінуўшы посуд нямыты
з клеймамі сівых стагоддзяў

ты лічыш дні-тыдні дарма
на струменьчык павольна глядзіш
у пясочны гадзіннік

* Багажу.

перад заходам сонца
мы чысцілі клеймы старыя
мылі срэбны посуд
і складалі яго па паліцах

ты лічыла дні-тыдні дарма
з донню Чырвонага мора
на памяць трымаеш жменю пяску
Майсей ўсё адно цябе вывеў з палону

ты лічыла дні-тыдні дарма

## Пятнаццаць

з астрыжаных маіх валасоў
віюць гнёзды дзікія птушкі
мурашы будуюць мурашнікі
а твая лагоднасць ЗДЗЕКУЕЦЦА

на адвечных шляхах-забабонах
гарацъ сінім полымем
астрыжанай кіпай лісця пажоўклага
цудадзейнага ПАДАРОЖЖА

што шляхамі вядзе незнаёмымі
сцежкамі багны балотнае
астрыжаных галін ДРАПЕЖНІКАЎ

зламаных гнёзд і мурашнікаў
калі па ўсім целе ВЕЧНАСЦІ

прагрыміць незнарокам ПАЖАР
што паганцаў вядзе па ІНЕРЦЫІ



зрабі мне некамерцыйную
прапанову
забыцца
на правілы завязвання гальштукаў
забіць
на інтэлігентную помпу
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
амаль пяць хвілін да пачатку абеду
амаль паўгадзіны да пачатку вясны



прачнуцца па звычцы
а невядомай гадзіне
і зразумець
што сёння выходны
выключна для цябе
і табе няма куды
спяшацца
дый навошта
чэргі на прыпынках
прачнуцца па звычцы
вельмі-вельмі рана
і ўсвядоміць
што ты
магчыма
зараз
камусьці
патрэбны



## МІХАСЬ ЮЖЫК

*Нарадзіўся ў Мінску ў 1969 годзе. Скончыў Мінскі радыётэхнічны інстытут. Працаваў на ВА «Гарызонт». З 1997 года — у рэдакцыі грамадска-публіцыстычнага часопіса «Акно». Аўтар кнігі паэзіі «АнтыРЫФМАР», кніг прозы «Мёртвае дрэва», «Перакулены час», «Марыянеткі і лялькаводы», а таксама раманаў і аповесцей, што з’яўляліся ў перыядычным друку.*



Гулялі сялом вяселле,
дзе сонца на ўсіх адно.
Усмак і пілі і елі,
ды скончылася віно.

І Маці сказала сумна:
«Віна на стале няма...»
Ісус паглядзеў раздумна,
пасунуўся ад стала.

«Не час яшчэ, рана, рана!» —
сумнеў прыпыняў Яго.
Ды вельмі хацела Мама,
каб ладам усё было.

Пакласці пачатак цудам
прыйшлося Яму тады.
Падумаў: «Стварацiь ім буду
віно з найпустой вады».

«Наліце ў збаны да верху
ваду, і — за стол гасцям!» —
сказаў; паляцела рэха
дрыготкае ў Новы Храм.

Дзівіліся ўсе: *такое*
адкуль жа віно знайшлі?
Памкнуліся думкі роем
па гэтай святой зямлі.

Тым часам жа распарадчык
цішком жаніху казаў:
«Такое віно — астачай?!» —
дзівіўся і папракаў.

Хто ж мог Першы цуд уведаць
скрозь п'яную каламуць...
Бясконцыя цуды следам
у Вечнае пацякуць.



«За што ты гоніш мяне? —
пытаўся Хрыстос у Паўла. —
Як сябра майго кранеш —
мне след нанясеш крывавы.
Крывавай дарогайісці
табе ў накірунку іншым,
няходжаных пуцявін
адольваць балюча вышы.
Язычнікаў цытадэль
даю табе ва ўладанне...»
І Павел з калень глядзеў,
як Госпад раптоўна кануў.

І зноўку цяжкі замок
вісіць на дзвярах Нябёсаў.
А Паўлу — разбег дарог;
абапал — пяскі і росы.
Не крыж пры канцы, а меч
вісіць непазбежнай карай.
Пакуль жа — ланцуг сустрэч,
пакуль жа — крыляюць мары.
На Вечнасці рубікон
кіруе народы Павел.
Самому ж — вязніц загон
і меч, што жыцця пазбавіў.



«Што можа выйсці з Назарэта? —
смяяліся так з веку ў век.
— Хто можа там з'явіцца свету,
які нікчэмны чалавек?»

Што ў правінцыйным запусценні
і занядбанасці дурной,
дзе ад халуп кладуцца цені
на камень скосай маставой?

Дзе ходзяць да крыніц пад горку,
а потым цягнуць што ёсць сіл
збаны жанчыны. Лёс іх горкі,
як быццам Бог пра іх забыў.

А Ён між тым хадзіў раздумна
па вулках, дворыках чужых
і назіраў са светлым сумам,
і напінаў нянаскі слых.

І чуў Ён кожнае стварэнне,
іх недагледжанасць і боль.
І малітоўна на каленях
празорваў крыж галгофскі свой.

А потым — доўгая дарога,
каб увайсці ў Іерусалім,
дзе іудзеі зганьбяць Бога,
дзе будуць суд чыніць над Ім.

Зямлю і неба паяднаўшы
крывёй пякучаю сваёй,
разрывам сэрца душы нашы
Ён кліча вечна за сабой.

«Што можа выйсці з Назарэта?» —
смяяліся так мімаходзь
у час Старога Запавету.
Як аказалася — Гасподзь.



«Ах, толькі б вам веры прыдбаць хоць крыху! —
Збавіцель казаў перад шчыльным натоўпам. —
Вядзі свайго сына, трымай за руку», —
і бацька падлетка наперад высоўваў.
А той, толькі ўбачыў Ісуса наўпрост,
імгненна зваліўся, зацяты нячыстым,
то курчыўся ў пене, то гнуўся, як мост,
з вачэй яго мкнулі шалёныя іскры.
А бацька падлетка, што побач стаяў,
усклікнуў прарэзліва: «Госпадзе, веру!
Ты б толькі няверʼю майму паспрыяў!»
«Ты стукайся, дружа, адчыняцца дзверы», —
прамовіў Ісус. Ціха плакаў стары,

а людзі ў здранцвенні вытрэшчвалі вочы.
І голас раздаўся: «Нячысты, замры,
пакінь гэта цела, што б'ецца сіроча!»
Тут ахнулі ўсе, бо юнак як сканаў,
на ссохлай траве ён ляжаў скамянела.
Маўчанне ў натоўпе, а бацька рыдаў,
уперыўшы позірк у мёртвае цела.
«Ах, толькі б вам веры прыдбаць хоць крыху!» —
паўтораны гучна Збавіцелем словы,
і Ён падышоў і сказаў юнаку:
«Устань і жыві, як раней, і нанова!»
Падняўся няшчасны і бацьку абняў,
і доўга стаялі яны ў аняменні,
глядзелі, як вучняў Збавіцель забраў
і рушыўся з імі пад вечара цені.



Ілія і Майсей гаварылі з Ісусам,
пераўтвораным, белым і срэбным, як снег.
Трое вучняў стаялі знямелым хаўрусам
на гары, дзе хвіліны спыняюць свой бег.

Узрушэнне і страх чаргаваліся хутка,
бо настаўнік паўстаў нечакана другім.
І не ў стане спасцігнуць іх розум марудны,
і не ў сілах душа жыць імгненнем такім.

О, адкуль яны ведаюць, быццам пракрокі
тут, на рысе нябыту, гаворку вядуць?
Ім вятры рассцілаюць пад ногі аблокі,
і надзею, і радасць аднекуль нясуць.

«Гэта Сын Мой любімы!» — пачулася громам,
з нетутэйшага воблака пырснуў прамень.

І настаўнік ізноў стаў прывычна знаёмым,
і расквеціўся фарбамі звыклымі дзень.

«Толькі помніце цвёрда: пакуль не ўваскрэсну —
анікому ні слова, што бачылі вы!» —
І пакінуў Ісус гэта дзіўнае месца,
і спусціўся па схіле пад шолах травы.



«Душа Мая пакутуе смяротна!
Не сп*і*це, маліцеся, мілыя...»
Хоць вучням Яго было холадна, слотна —
валіў на зямлю іх астылую
ліпучы, назойлівы сон —
як быццам няўмольны закон.
«О, што ж вы спіц*е*, калі Мне адзінока,
калі папрасіў Я ў адчаі Айца
яшчэ хоць крыху вінаградныя сокі
папіць, не прыспешваць дарогі канца.
І ўсё ж падыходжу, відаць, да парога,
які пераскочу праз крыж і цвікі,
каб сталася марай для жыццяў убогіх
калісьці вось гэты парог перайсці.
О, што ж вы спіц*е* гэтай ноччу цямравай,
калі немінучая варта ідзе!
Я чую, абутак іх шоргае ў травах,
і быць праз хвіліну жахлівай бядзе!
(Паверце, зыначыцца тая бяда,
і будзе для вас яна хлеб і вада.)
Хай будзе, як Ты, а не Я захачу,
хай страшна ў апошні Я міг закрычу,
хай люта праколе і сэрца Маё
калянае вострае рымлян кап'ё!

Цяпер прачынайцеся! Голас Іуды
разносіцца ўночы прысудам Маім.
І ўсіх вас чакаюць вялікія цуды.
І ўсе мы нязгасна цяпер узгарым».



Пячора. І камень груваcткі на ёй.
І Марфа з Марыяй рыдалі
па Лазару, што свой смяротны спакой
знайшоў, і яго пахавалі.

«А дзе ж наш Ісусе, чаму не спяшаў
да хворага на дапамогу?
Ах, страшна глядзець, як любімы канаў,
як скручваўся ў сутаргах рогам!

Ён поўны быў сіл маладых і надзей,
у некалькі дзён згас як свечка...»
Марыя і Марфа ў нясцерпнай бядзе
клялі гэты свет недарэчны.

Але не прайшло і паўдня, як яны
стаялі ў святым недаўменні,
тады як Ісус гаварыў: «Ён жывы!
Хай выйдзе сюды з царства ценяў!»

І камень адвалены ўніз паляцеў.
З пячоры магільнай і стылай
на радасць і страх самых блізкіх людзей
з'яўляецца Лазар іх мілы.



## ЯНА ЯВІЧ

*Нарадзілася ў 1983 годзе ў Мінску. У 2006 годзе скончыла Беларускі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт імя Максіма Танка (факультэт рускай філалогіі). У друку выступае з 2002 года. Друкавалася ў газетах «Знамя юности», «Літаратура і мастацтва», часопісах «Маладосць», «Полымя», «Бярозка». Працавала ў цэнтры творчасці дзяцей і моладзі «Эўрыка» Фрунзенскага раёна Мінска, цяпер — у рэдакцыйна-выдавецкай установе «Літаратура і Мастацтва». Аўтар паэтычнага зборніка «Сувязь жыццяў» (2011).*



Аднойчы — адназначна! — адпрэчыш адзіноту.
Агеньчык адмыслова адорыць асалодай.
Аранжавым алоўкам адзенне афарбуеш —
Адразу адчуваеш: адольвае адліга.



Ганак. Гучныя галасы.
Горкіх гронак гарэнне...
Гаспадар?.. Госць?.. Глядач?..
Гастралёр!
Грацыёзнасць гітары...



Камедыйнасць карэляцый.
Канструктыўнасць катэгорый.
Караблі-курсоры крочаць
Краявідамі круізаў...
Крытык кліча канкурэнтаў,
Кандыдаты камплексуюць,
Кіламетрамі катрэнаў
Крыюць кадры кінастужак...
Кропкі... Коскі... Контур казкі —
Коўдра каляровых крылаў...
Край канкрэтыкі капрызаў
Кантралюецца кур'ёзам
Каралеўскае кароны...
Канцэнтрычнасць кругаглядаў?..



Паўднёвым промнем, птушкай папяровай
Перажывеш прыгоды падарожжаў...
Прычына палымянасці пачуццяў —
Пераварот прывычнае патрэбы...
Прыстасаванка?! Проста прыгажуня!
Палон... Празмернасць прынцыпаў... Пакуты...
Прыхільнік празаічных парадоксаў
Пасуе першы. Правілы — пасля...



Струны спяваюць санату...
Сонца святлом сагравае...
Сентыментальны сатырык

Сумна сыходзіць са сцэны.
Сэнс сарамлівасці — словы...



Таемнай тактыкай трагедыі тандэму —
Туманнасць тлумачэння тэарэмы...
Трактоўка тэмы тэксту — толькі талент.
Тыповасць твораў — тэзіс традыцыйны...
Так, творчасць — тыпалогія тэндэнцый.



**М**роямі поўніцца сэрца...
**А** я зноў збіраю пялёсткі
**Л**аскавага летняга сонца,
**Ю**най дажджлівай вясны.
**Н**іколі не ўбачыцца зноўку...
**А**дзначу, што гэта сур'ёзна,
**К**алі сапраўды — назаўжды...



**П**ад вечар на вуліцы ціха...
**А**днак, калі хочацца вершаў,
**Л**унае ў паветры натхненне
**І** просіцца ў рукі пяро...
**Т**ады трэба проста падумаць:
**Р**азгадваць не мноства загадак,
**А** з іх выбраць толькі *сваю*.



**С**ыходжу адсюль.
**Т**ут — цёмна.
**У**тойваю думкі...
**Ж**адаю сагрэцца...
**К**ірую сваёй
**А**дзінотай.



**З**абяры мяне ў горад спаткання!
**А**кварэллю малюю на вокнах.
**В**ерагодна, я зноў пазбягаю...
**Е**днасць думак, пачуццяў і вуснаў...
**Я** ўяўляю цябе...



**Д**зіўна: я не кахаю,
**А** забыць не магу
**Л**агодныя вочы твае...
**Я** проста ўглядваюся;
**Г**ляджу праз аконнае шкло:
**Л**іхтары на адкрытым паветры —
**Я**к нябесныя светлякі...
**Д**умак — процьма...



**Н**адакучыла паўсядзённасць?
**А**дзінае выйсце — змяніць абстаноўку!
**С**угучна жаданню сэрца —

**Л**юбіць ці кахаць? —
**А**сабісты выбар...
**Н**адарыцца хвілінка —
**Н**алі сабе гарбаты:
**Ё**сць размова.

## І пра Блакітнага Сьвіна...

І як самавітая суполка магла абысціся без уласнай літаратурнай прэміі? Вось толькі пафасу і афіцыёзу ў нас на прадмесці не любяць, а пачуццё гумару (нават чорнага) вітаецца. І суполка «Літаратурнае прадмесце» заснавала першую на Беларусі антыгламурную літаратурную прэмію. Яна ўручаецца за нонканфармізм і праяўленую здольнасць захаваць творчую «самасць».

Блакітны Сьвін стаўся болей чым назвай прэміі — але й яшчэ адным сімулякрам суполкі і ўлюбёным персанажам прадмесцеўцаў. Пра Блакітнага Сьвіна напісаныя вершы, казкі і паэмы... Ён з'яўляўся «ўцялесненым» і віртуальным, як і Рагнеда Крышталюк, ён мае сваю біяграфію і напісаныя ўласнакапытна творы, і ўрэшце ўвасобіўся ў коміксы. У самім ягоным імені ёсць выклік і сімволіка, спроба абвергнуць стэрэатыпы. Блакітны Сьвін, як напісаў паэт Рагнед Малахоўскі, «аматар піва і жанчын». У адрозненне ад сваёй сяброўкі Рагнеды, Сьвін піша прозу, адзін толькі раз напісаў паэму, якую прысвяціў Рагнедзе Крышталюк. Дарэмна, аднак: віртуальная паэтка толькі раз'юшылася...

Блакітны Сьвін — беларуская птушка шчасця. У яго скура рамантычнага і наіўнага колеру неба, а пад ёю хаваецца дыхтоўнае тутэйшае сала з белымі і чырвонымі праслойкамі.

Блакітны Сьвін падазрае, што многія пры поглядзе на яго ўяўляюць дзяльбу кабанчыка, але па сваёй шчырай рамантычнай натуры (і некаторай таўстаскурасці) у гэта ўсё-ткі не верыць і заўжды гатовы на любыя авантуры і новыя знаёмствы.

Ён жыццярадасны аптыміст, але ведае, што праўдзіваму пісьменніку трэба час ад часу ўпадаць у дэпрэсію. У дэпрэсіі Сьвіну сумна,

і тады ён выпадае з яе проста ў піўнушку ці ў паэтычную тусоўку. Там ад яго робіцца настолькі шумна, што Сьвіна пачынаюць крытыкаваць і размазваць, але ён, напіты півам, толькі шчаслівы агульнай увагай, працягвае чытаць свае опусы і заляцацца да паэтак.

Прэмія «Блакітны Сьвін» выглядае так: дыплом плюс сто чагонебудзь... На дыпломе на фоне неба выява пятачка — электрычнай разеткі: падключайся да натхнення... А што сто? Гэта як узбрыдзе ў галовы прадмесцеўцам. З 2001 года акрамя асноўнага лаўрэата прысуджаецца яшчэ і званне «Ганаровага Блакітнага Сьвіна».

Блакітны Сьвін — экстравагантны, трохі брутальны, але вельмі ўдалы вобраз, які цалкам можа стацца архетыпам. Тут і авангард, і нацыянальная традыцыя, і вялікія магчымасці для фантазіі. Так, зубр, вядома, істота больш высакародная для ўвасаблення нацыянальнага бестыярыю... Але Сьвін увайшоў у кожную беларускую хату, як і бульба. Гэта — зразумелы ўсім персанаж народнага карнавалу, частка нашага побыту. На ягоных капытах — спрадвечная беларуская дрыгва, след балота. Ягоны пятачок задзёрты да аблокаў. Яднанне фарсу і трагедыі, кічу і высокага мастацтва — канапкі са свойскім салам на прэзентацыі ўзнёслага паэтычнага зборніка...

**Лаўрэаты прэміі «Блакітны Сьвін» суполкі «Літаратурнае прадмесце»:**

2007 — Аксана Спрынчан (прыз — 100 алоўкаў, заточаных уручную);

2008 — Віктар Ываноў, цяпер — Віктар Лупасін (прыз — 100 свечак);

2009 — Мікола Кандратаў (прыз — 100 перапяліных яек);

2010 — Маргарыта Аляшкевіч (прыз — 100 насовак);

2011 — Віка Трэнас (прыз — 100 карабкоў запалак) і Пятро Васючэнка («Ганаровы Сьвін»);

2012 — Наталка Кучмель (прыз — 100 поліэтыленавых пакетаў) і Георгій Барташ («Ганаровы Сьвін»).

# Змест

*Літаратурна-мастацкае выданне*

ЛІТАРАТУРНАЕ ПРАДМЕСЦЕ

*Зборнік да 10-годдзя суполкі «Літаратурнае прадмесце»*

Адказны за выпуск *Генадзь Вінярскі*
Рэдактары *Людміла Рублеўская, Віктар Шніп*
Вёрстка *Ларысы Ваўчок*
Дызайн вокладкі *Веранікі Шніп*
Карэктар *Наталля Кучмель*

Падпісана да друку 14.11.2012. Фармат 84×108 $^{1}/_{32}$.
Папера афсетная. Рызаграфія.
Ум. друк. арк. 10,29. Ул.-выд. арк. 6,56.
Наклад 200 ас. Зак. 844.

ПУП «Кнігазбор».
Ліцэнзія № 02330/0003924 ад 08.04.11.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка
ў ААТ «Аргбуд».
Ліцэнзія № 02330/0494197 ад 03.04.09.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.